


Сяргей Шэмет. «Маці Божая Будслаўская».
2004. Палатно, алей. 91х66.

Мар’ян Дукса

## Да Маці Божай Будслаўскай

І адчувалі мы спрадвеку
цераз увесь працяглы час
Тваю ласкавую апеку,
увагу шчырую да нас.

Заўжды прыносіла параду
і Божы асвятляла храм.
І цёплую сваю спагаду
Ты, шчодрая, дарыла нам.

І так было ужо спрадвечна:
праз нашых мук туман густы
Ты усміхалася сардэчна,
нам пасылала знакі Ты.

Нам пасылала ў будзень шэры
свой незвычайны светлы цуд,
каб у сябе і Бога верыў
заўсёды беларускі люд.

І з радасцю мы ўсе, жывыя,
да Божых горнемся святынь.
О, Найсвяцейшая Марыя,
Ты нас і сёння не пакінь.

І азары нам цёмны будзень,
прамення дай маёй зямлі.
Калі нам вельмі цяжка будзе,
Ты нас да сэрца прытулі.



У нумары 2/2019
НАША ВЕРА

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ПАВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка *Цёмнай ночы* — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### Раздзел 14
### У якім абгрунтоўваецца неабходнасць гэтых прыкметаў і вучэння аб іх для таго, каб душа рушыла наперад.

1. Адносна першай прыкметы неабходна заўважыць, што духоўны чалавек, каб увасці на шлях кантэмпляцыі, павінен пакінуць шлях уяўленняў і пачуццёвай медытацыі ў той момант, калі яму гэта ўжо не падабаецца і ён ужо не можа больш разважаць. І гэта адбываецца з дзвюх прычынаў, якія ўрэшце злучаюцца ў адну. Першая прычына ў тым, што душы было дадзена ўсё духоўнае дабро, якое яна толькі магла знайсці ў Божых рэчах з дапамогаю медытацыйнага разважання. Прыкмета гэтага — немагчымасць ні медытаваць, ні разважаць, ні атрымліваць ад гэтага смаку навізны ці задавальнення як раней, калі яна яшчэ не дайшла да духоўнага дабра, прыхаванага для яе ў гэтым практыкаванні. Бо звычайна кожны раз, калі душа атрымлівае нейкае духоўнае дабро, яна яго атрымлівае, адчуваючы прыемнасць, прынамсі духоўную, у тым самым сродку, праз які яна яго атрымлівае і які прыносіць ёй карысць. Было б цудам, калі б душа атрымлівала карысць ад духоўнага дабра, але не адчувала б ніякага смаку ў тым сродку, праз які яго атрымала. Як кажуць філосафы: «*quos sapit, nutrit*», — *што мае смак, сілкуе, дапамагае расці і паўнець*. І таму Ёў кажа: «*Aut poterit comedi insulsum, quod non est sale conditum*» — «*Ніхто не можа есці прэснае, тое, што нясоленае*» (Ёў 6, 6). Прычына таго, чаму душа не можа больш медытаваць і разважаць, як раней, — у недахопе смаку і малой карысці для духу.

2. Другая прычына ў тым, што душа на гэты момант па сутнасці ўжо мае дух медытацыі як навык. Неабходна ведаць, што мэта медытацыі і разважання над Божымі рэчамі — гэта атрыманне новага пазнання і любові Бога. І кожны раз, калі душа праз медытацыю атрымлівае іх, яна дзейнічае. Заўсёды пры любой актыўнасці мноства дзеянняў спараджаюць навык у душы. Гэтаксама праз мноства дзеянняў душа асаблівым чынам атрымлівае пазнанне, поўнае Божай любові. Гэтыя дзеянні пры пастаянным паўтарэнні фармуюць у ёй навык. Аднак звычайна Бог можа падараваць многім душам такі навык і без гэтых дзеянняў. Прынамсі, некаторыя душы Ён адорвае адразу гэтым станам кантэмпляцыі. Такім чынам, калі спачатку душа праз сваё намаганне медытаваць атрымлівала асобныя Божыя абвяшчэнні, цяпер, як вынік сталага паўтарэння, гэтыя намаганні перайначыліся ў ёй у навык і падставу для атрымання любоўнага

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

пазнання — агульнага, а не частковага, як раней. Таму, калі нехта засяроджваецца на малітве, яго душа падобная да таго, хто прыпаў да крыніцы вады і без высілку спаталяецца яе слодыччу, бо ўжо не трэба даставаць гэтую ваду праз цяжкія акведукі разв213ажанняў над уяўленнямі і вобразамі. І тады, як толькі душа становіцца перад Богам, у ёй адразу пачынае дзейнічаць няяснае пазнанне — любоўнае, спакойнае і непарушнае, якое наталяе яе мудрасцю, любоўю і асалодаю.

3. Вось чаму душа, якая дасягнула такога спакою і нерухомасці, калі яе змушаюць ізноў рабіць высілак і медытаваць над асобнымі эпізодамі, стамляецца і не атрымлівае ніякага задавальнення, падобна да дзіцяці, якое, прыгорнутае да грудзей, смактала малако, і, калі яго адрываюць ад грудзей, яно пачынае шукаць іх, рухаючы і сціскаючы ручкі. Ці як калі нехта, ачысціўшы садавіну ад лупіны, пачынае смакаваць мякаць, але яго змушаюць адкласці яе і зноў ачышчаць тую ж садавіну ад лупіны, ад якой ён ужо яе ачысціў. Зразумела, што ён не знойдзе ўжо ні лупіны, але і не зможа смакаваць мякаць садавіны, якую трымаў у руках, гэтым самым упадабняючыся таму, хто пакідае ўсё, што мае, дзеля таго, чаго не мае.

4. Гэтак дзейнічаюць многія, хто пачынае ўваходзіць у гэты стан. Яны думаюць, што ўся справа толькі ў медытацыі і разважанні, маючы на ўвазе асобныя ўяўленні і вобразы, якія з'яўляюцца лупінаю духу. І паколькі яны не знаходзяць гэтых вобразаў у нерухомым любоўным і сутнасным спакоі, у якім душа прагне застацца і дзе яна нічога не разумее з яснасцю, яны ўпэўненыя, што згубіліся і згубілі час, і вяртаюцца ў пошуку лупінаў вобразаў і разважанняў, якіх яны таксама не знаходзяць, бо іх ужо адабралі. Такім чынам, яны не знаходзяць смаку ні ў сутнасці, ні ў медытацыі і пачынаюць непакоіцца, думаючы, што яны адступілі назад і згубіліся. І яны сапраўды губляюцца, але не так, як думаюць яны, яны губляюцца ва ўспрыманні ўласных пачуццяў і першапачатковага спосабу адчування, што на справе з'яўляецца духоўным набыткам, які ім дараваны. Чым менш яны разумеюць, тым больш яны ўваходзяць у *Ноч духу*, пра якую мы гаворым у гэтай кнізе, і праз якую яны павінны прайсці, каб злучыцца з Богам, які знаходзіцца па-над любою людскою мудрасцю.

5. Пра другую прыкмету не трэба гаварыць многа, бо і так зразумела, наколькі неабходна, каб душа ў гэты час не адчувала смаку ва ўяўленнях гэтага свету, адрозных ад Бога, з той прычыны, якую мы ўжо растлумачылі. Але, як мы ўжо заўважылі раней, здольнасць уяўлення падчас гэтага стану засяроджання звычайна то знікае, то вяртаецца, то змяняецца. І калі гэта адбываецца без волі ці жадання душы, яна засмучаецца, бо ўяўленне турбуе спакой і асалоду.

6. Пра неабходнасць і патрэбу трэцяй прыкметы для таго, каб пакінуць медытацыю, гэта значыць пра агульнае пазнанне Бога, думаю, няма патрэбы гаварыць, бо нешта ўжо было сказана, калі мы тлумачылі першую прыкмету, і мы яшчэ будзем гаварыць пра яе ў тым месцы, калі я буду тлумачыць, на чым палягае гэтае агульнае і няяснае пазнанне Бога, пасля таго, як мы прааналізуем усе асобныя ўспрыманні. Тут жа я абмяжуюся тым, што назаву адну толькі прычыну, якая з яснасцю растлумачыць, чаму, калі кантэмплятыўны чалавек пакідае медытацыю і разважанне, яму неабходна гэтае любоўнае абвяшчэнне і агульнае пазнанне Бога. Таму, што калі б душа ў гэтым стане не мела пазнання Бога і Ягонай дапамогі, дык яна не магла б нічога рабіць, бо нічога б не мела ў душы, бо ўжо пакінула медытацыю, праз якую яна дзейнічала, разважаючы пачуццёвымі здольнасцямі, але яшчэ не дасягнула кантэмпляцыі, гэта значыць агульнага бачання, як было сказана раней, у якім актыўна дзейнічалі б здольнасці духоўныя, памяць, розум і воля, паядналныя ў гэтым бачанні (дзейснае і атрыманае імі праз успрыманне). Такім чынам, душа засталася б бяздзейнаю ў стасунку да Бога, бо яна не магла б ні дзейнічаць, ні атрымліваць нічога ні праз здольнасці пачуццёвыя, ні праз здольнасці духоўныя. Дзякуючы пачуццёвым здольнасцям душа можа медытаваць і разважаць над рэчамі ў пошуку ведаў, а дзякуючы духоўным здольнасцям душа атрымлівае асалоду ад ведаў, ужо атрыманых праз здольнасці пачуццёвыя, але якія ўжо спынілі сваё дзеянне.

7. Розніца ў дзеяннях адных і другіх душэўных здольнасцяў падобная да розніцы паміж працэсам дзеяння і радасцю ад вынікаў дзеяння; паміж цяжкасцямі шляху і адпачынкам, спакоем напрыканцы яго; паміж працэсам гатавання ежы і смакам прыгатаванай ежы, калі яе каштуеш, ясі і перажоўваеш без усялякага высілку; паміж атрыманнем нечага і карысцю, якую атрымліваеш ад ужо атрыманага. І таму, калі душа, з аднаго боку, ужо не разважае і не медытуе над тым, што ёй прапануюць пачуццёвыя здольнасці, а, з другога боку, калі яна яшчэ не дзейнічае праз духоўныя здольнасці і не кантэмплюе над тым, што яна праз іх атрымала, гэта значыць

над атрыманай навіной (пра што мы гаварылі), дык тады душа была б нічым не занятая, паколькі і адны і другія здольнасці ўжо бяздзейнічалі б і яна не ведала б, ні куды яна ідзе, ні дзе яна знаходзіцца. І таму неабходна, каб душа мела гэтае пазнанне для таго, каб пакінуць шлях медытацыі і разважання.

8. Але неабходна адзначыць, што агульнае пазнанне, пра якое мы гаворым, часам настолькі субтыльнае і далікатнае, настолькі найчысцейшае, найпрасцейшае, найдасканалейшае і найдухоўнейшае і глыбока ўнутранае, што душа, нават калі яна цалкам засяроджваецца на ім, яго не бачыць, не адчувае. І гэта адбываецца таму, што пазнанне, само па сабе вельмі зразумелае, дасканалае і простае, тым больш захоплівае душу, чым вальнейшая душа, якая яго атрымлівае, ад усялякіх паняццяў і частковых ведаў, да якіх розум і пачуцці маглі б прывязацца. І паколькі душа пазбаўлена гэтых частковых, звыклых для яе паняццяў — вынікаў дзеяння розуму і пачуццяў, ёй не хапае пачуццёвых вобразаў, каб успрыняць агульнае пазнанне. Гэта прычына таго, што чым больш пазнанне чыстае, дасканалае і простае, тым менш яго ўспрымае розум і тым больш яно падаецца яму цёмным. І наадварот, чым менш пазнанне чыстае і менш простае, тым больш яно ўспрымаецца розумам і падаецца яму больш значным, бо яно апранута і агорнута ў некаторыя зразумелыя формы, якія, аднак, могуць затрымаць розум і пачуцці.

9. Усё сказанае будзе больш зразумелым праз наступнае параўнанне. Калі мы назіраем за сонечным промнем, што свеціць праз акно, дык можна заўважыць, што ён напоўнены часцінкамі і пылам, якія падаюцца адчувальнымі і яснымі для пачуццёвага ўспрымання. Зразумела ў гэтым выпадку, што промень, які сам па сабе чысты і яскравы, меней просты і дасканалы, бо напоўнены пылам і часцінкамі. І, адпаведна, чым промень больш чысты і ачышчаны ад усіх гэтых часцінак і пылу, тым менш ён адчувальны і больш цьмяным ён падаецца матэрыяльнаму воку. Калі б промень быў цалкам ачышчаны ад усіх часцінак і пылу, нават ад самых найменшых пылінак, такі промень падаўся б воку цалкам цьмяным і незразумелым, бо няма ніякіх бачных формаў, якія былі б прадметам бачання, і вока не знайшло ніякай формы, на якой можна спыніцца, бо святло не з'яўляецца адпаведным для бачання прадметам, а толькі сродкам, з дапамогаю якога яно ўспрымае бачныя прадметы. І таму, калі б не было бачных формаў, у якіх адлюстроўваецца сонечны промень ці святло, немагчыма было б нічога ўбачыць. Калі ж сонечны промень увайшоў праз адно акно і выйшаў праз другое, не сутыкнуўшыся ні з чым, што б мела форму цела, не было б бачна нічога. Аднак сам па сабе промень быў бы найчысцейшым і празрыстым, паколькі не быў бы напоўнены бачнымі рэчамі і ўспрымаўся б больш ясным.

10. Тое ж самае здараецца з духоўным промнем у душэўным бачанні, гэта значыць — у розуме. Агульнае веданне і звышнатуральнае святло, пра якое мы гаворым, захоплівае розум гэтак чыста і проста, спусташаючы і вызваляючы яго ад усіх пазнавальных формаў, прадметаў разумовай здольнасці, што ўрэшце розум нават гэтага не ўсведамляе і не бачыць. І больш за тое, часам, калі разумовая здольнасць больш чыстая, у розуме робіцца цемра, бо, пазбаўлены звычнага святла формаў і ўяўленняў (фантазмаў), ён успрымае, такім чынам, толькі цемру. Але калі Божае святло не захоплівае розум з такою сілаю, душа не адчувае цемры, не бачыць святла і не ўспрымае нічога ні тут, ні там. І тады душа апынаецца нібыта ў вялікім забыцці, такім вялікім, што, ачуняўшы, не ведае, дзе яна знаходзілася, што рабіла, колькі часу прайшло. Часам здараецца — і гэта сапраўды так, — што душа праводзіць многія гадзіны ў такім стане, але калі яна апрытомнее, дык ёй здаецца, што прайшло не больш за хвіліну.

11. Прычына такога забыцця — чысціня і прастасць гэтага пазнання, якое, заняўшы душу, робіць і яе чыстаю, простаю і пазбаўленаю ўсіх формаў і вобразаў пачуццяў і памяці, праз якія душа дзейнічае ў часе, і такім чынам душа губляецца ў па-зачасавым забыцці. Таму такога кшталту малітва, як мы казалі, нават калі доўжыцца ў часе, падаецца душы вельмі кароткаю, бо яна была паяднаная з чыстым па-зачасавым розумам. І гэта малітва, пра якую гаворыцца, што яна (Экл 35,21) працінае неба, сапраўды кароткая, бо яна па-зачасавая, і сапраўды працінае неба, таму што душа яднаецца з нябесным розумам. Вось чаму гэтае пазнанне пакідае душу ў момант апрытомненасці, і душа нават не ўсведамляе вынікаў, якія гэтае пазнанне здзейсніла ў ёй. Маецца на ўвазе ўзнясенне духу да нябеснага розуму, аддзяленне і вызваленне ад ўсіх рэчаў, формаў, вобразаў і ўзгадак пра іх, як гэта здарылася з Давідам, калі ён, апрытомнеўшы пасля такога забыцця, усклікнуў: «*Vigilavi, et factus sum sicut passer solitarius in tecto*» (Пс 101,8) — «*Маліўся*

*і стаў, бы самотная птушка на даху*». Ён гаворыць «самотная», бо быў адарваны ад усіх рэчаў; «на даху» — гэта значыць, што ягоны розум быў узнесены на вышыню. Такім самым чынам душа нібыта забываецца на ўсе рэчы, бо ведае аднаго толькі Бога, але не ведае, як. Вось чаму сужэнка ў Песні Песняў (6,11) гаворыць, што вынікам яе соннага забыцця, у якое яна занурылася, стала яе няведанне: «*Nescivi*», што значыць: «*Не ведаю*». Вось чаму, як мы ўжо казалі, душа павінна ведаць, што нават калі ёй падаецца, быццам яна ў прысутнасці гэтага пазнання нічога не робіць і не дзейнічае ні пачуццямі, ні іншымі здольнасцямі, яна ўсё ж не губляе часу. Бо сапраўды, нават калі знікае гармонія паміж здольнасцямі душы, яе розум знаходзіцца ў стане, пра які я казаў. І таму сужэнка з Песні Песняў, паколькі была мудраю, адказвае сама сабе на сваё сумненне: «*Ego dormio, et cor meum vigilat*», нібыта кажучы: нават калі спала, паводле маёй прыроды, спыніўшы дзеянні, маё ж сэрца чувае, бо яно ўзнялося ў звышнатуральным пазнанні, якое пераўзыходзіць усе чалавечыя здольнасці.

12. Зразумела, такое пазнанне неабавязкова павінна выклікаць забыццё такой сілы, якое мы толькі што апісалі. Такое здараецца толькі тады, калі наш Пан аддаляе душу ад дзеяння ўсіх яе прыродных і духоўных здольнасцяў. Гэта адбываецца не вельмі часта, бо не заўсёды душа цалкам занятая гэтым пазнаннем. Каб гэта здарылася, розум мусіць пакінуць усе віды частковага пазнання, як дачаснага, гэтак і духоўнага, і трэба, каб воля, як было сказана, не мела ніякага жадання думаць ні аб адным ні аб другім, бо йначай гэта азначала б, што душа занятая.

Вось прыкмета, якая азначае, што душа знаходзіцца ў стане забыцця: калі пазнанне ўздзейнічае толькі на розум і абвяшчаецца толькі яму, душа гэтага не ўсведамляе; але калі адначасова гэтае пазнанне паведамляецца волі, і гэта адбываецца амаль заўсёды, душа заўважае гэта і больш менш разумее, што яна занятая і запоўненая гэтым пазнаннем, бо адчувае ў сабе асалоду любові, нават калі не асабліва разумее, каго яна любіць. І таму гэта называецца *любоўным* агульным пазнаннем, бо душа адчувае слодыч, поўную любові, не ведаючы і не разумеючы з яснасцю, каго яна любіць.

13. Таго, што было сказана, пакуль дастаткова, каб зразумець, што неабходна душы, занятай гэтым пазнаннем для таго, каб пакінуць шлях духоўнага разважання і быць пэўнаю, нават калі ёй падаецца, што яна нічога не робіць, што на справе яна занятая, і каб заўважыць у сабе вышэйзгаданыя прыкметы. Думаю таксама, што праз параўнанне з промнем святла душа мусіць зразумець, што яна не павінна лічыць больш чыстым, больш узнёслым і больш ясным святло, якое яна разумее і адчувае розумам, падобна да сонечнага промня, што напаўняе сваімі часцінкамі вока. Наадварот, як вучыў Арыстоцель і тэолагі, відавочна, што чым больш чыстае, узнёслае і яснае Божае святло, тым больш цьмянае яно для нашага розуму.

14. Шмат чаго яшчэ можна сказаць пра Божае пазнанне, як само па сабе, гэтак і пра вынікі, якія яно здзейсняе ў кантэмпляцыйных душах, але пакіну гэта для адпаведнага месца, бо нават на тым, што было сказана ў гэтым раздзеле, я не спыняўся б так доўга, каб не баяўся, што гэтае вучэнне можа падацца больш цьмяным, чым ёсць на самай справе. Прызнаю, што яно яшчэ пакуль даволі няяснае, бо гаворка ідзе пра рэчы, аб якіх мала гаворыцца і пішацца. Само па сабе яно надзвычайнае і цьмянае, але да гэтага дадаецца мой нязграбны стыль і мае малыя веды. Паколькі я сумняваюся, што здольны добра ўсё растлумачыць, я заўважаю, апроч таго, што даволі часта станаўлюся вельмі шматслоўным і выходжу за межы, дазволеныя тэмаю і вучэннем, якое тлумачу. Часам я гэта раблю спецыяльна, упэўнены, што калі нешта незразумела з аднымі аргументамі, можа стацца зразумелым з іншымі, і таксама таму, што разумею, што такім чынам будзе лепей асветлена тое, што будзе сказана пазней. Мне падаецца што, каб закончыць гэтую частку, трэба адказаць яшчэ на адно пытанне наконт працягласці гэтага пазнання, на чым я коратка спынюся ў наступным раздзеле.

*Пераклад з іспанскай мовы*
*Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.



Васіль Паленаў. «Мары», 1894.

Джордж А. Ашэнбрэнэр SJ

# Укрытыя ў Езусе перад Айцом

*Ашаламляльна новым вымярэннем хрысціянскага Аб'яўлення з'яўляецца Трынітарнасць Бога. Гэта фундаментальнае, цэнтральнае вымярэнне, бо яно фармуе і вызначае хрысціянскі светапогляд і тым самым натхняе мужчынаў і жанчынаў дастасоўваць сваё жыццё да трынітарнага досведу. Хоць вернікі і не аспрэчваюць феномен Тройцы наўпрост, але часта ўсведамленне трынітарнасці Бога ніяк не ўплывае на іх жыццё і рэчаіснасць. Паняцце Тройцы нашмат большае за абстрактнае тэалагічнае паняцце, якое выкарыстоўваюць, каб адказваць на пытанні кшталту: «Колькі асобаў і колькі прыродаў у Адзіным Богу?».*

*Гэты артыкул нельга назваць выключна тэалагічнай рэфлексіяй над трынітарным вымярэння жыцця. Хутчэй, праз позірк на ўкрытае жыццё Езуса і шырэйшае разуменне Яго ўкрытага жыцця я спадзяюся паказаць шлях, які дазволіць больш цаніць уласнае жыццё ў Езусе Хрысце і такім чынам набліжаць нашае штодзённае жыццё веры да трынітарнага вымярэння Божага Аб'яўлення ў Езусе Хрысце. Будуць прыведзеныя тры розныя, хоць і злучаныя між сабою разуменні ўкрытага жыцця Езуса паводле Новага Запавету, а таксама прапануецца глыбей паразважаць пра апошняе, трэцяе разуменне. На заканчэнне прапануюцца некаторыя практычныя высновы.*

**Укрытае жыццё ў Назарэце**

Звычайна мы разумеем укрытае жыццё Езуса як штодзённае жыццё на працягу прыкладна 30-ці гадоў у Назарэце, разглядаючы гэты час як падрыхтоўку да працы і публічнага служэння, якому Езус цалкам прысвяціў сябе ў апошнія гады жыцця. У такім разуменні ўкрытае жыццё азначае прабыванне па-за публічнасцю і без актыўнай дзейнасці. Вельмі відавочна і правільна так разумець гэты выраз, і гэта сведчыць пра вялікую таямніцу. Калі мы ацэньваем выпрабаванні, якія чакалі Езуса ў публічным жыцці, вялікі памер і абсяг апостальскай працы на працягу апошніх трох гадоў Яго жыцця, то міжволі здзіўляемся, чаму Ён так доўга чакаў, каб распачаць яе. Сэрцы вельмі многіх людзей змяніліся і напоўніліся жыццём праз сустрэчу з Езусам, праз Яго канкрэтны дотык, Яго уплыў на іх жыццё. Сваім жыццём і духам Ён прыцягваў і запальваў цэлыя натоўпы. І ўсё ж засталіся многія, у жыццё якіх Ён не ўвайшоў і чые сэрцы Ён не закрануў настолькі асабіста проста таму, што не хапіла часу і сілаў (натуральныя чалавечыя абмежаванні). Калі б Ён не заставаўся ў невядомасці столькі часу, ці не паўплываў

**Джордж А. Ашэнбрэнэр SJ** — езуіт, кіраўнік навіцыяту ў супольнасці св. Ісаака Жога ў Вернэрсвілі ў Пенсільваніі (ЗША). Аўтар некалькіх кнігаў па тэалогіі. Супрацоўнічае з універсітэтам у Скрэнтане ў Пенсільваніі, больш за 20 гадоў праводзіць ігнацыянскія духоўныя практыкаванні.

бы Ён на больш людзей? Можа, Яго апастальства было б больш эфектыўным і ахапіла б больш людзей? Гэта неверагодная таямніца, якую мы не павінны проста абмінуць.

Таямніца не праясняецца адным толькі ўсведамленнем культурнай сітуацыі Палесціны I стагоддзя. Таямніца застаецца. Што Айцец хоча сказаць пра сваё бачанне жыцця праз схаванае жыццё Езуса? На Апошняй Вячэры Езус гаворыць Філіпу словы, якія праліваюць святло на глыбінную сутнасць гэтага чалавека з Назарэта: «Хто бачыў Мяне, бачыў Айца» (Ян 14, 9). Гэтае выказванне ў поўным сэнсе нічога не тлумачыць. Але яно з'яўляецца прынцыпам інтэрпрэтацыі ўсяго іншага. Яно гаворыць нам, Хто адкрывае, а таксама Хто і што адкрываецца ў кожным імгненні і ў кожнай падзеі жыцця гэтага Чалавека.

Атрымліваецца, што ў гадах, праведзеных у Назарэце, хаваецца поўнае бачанне жыцця, поспеху і праўдзівых каштоўнасцяў у прасторы веры, і яно адкрывае шлях нашага Айца, які моцна адрозніваецца ад нашых шляхоў (гл. Іс 55, 8–9), і гатовае адкрыцца ўважліваму і засяроджанаму сэрцу. У сучаснай агрэсіўнай, арыентаванай на поспех культуры сэрцу верніка неабходна глыбока і рэгулярна адчуваць містычную моц і цярплівасць Езуса з Айцом, якімі былі напоўненыя ўкрытыя гады ў Назарэце.

І нарэшце, успрымаць укрытае жыццё Езуса найперш як падрыхтоўку, адасобленую ад публічнай дзейнасці, — гэта занадта неглыбока і абмежавана. Укрытае жыццё Езуса — гэта яшчэ і апісанне веры, якою жыў Езус у зямным жыцці, і веры, якой жыве кожны з нас, калі імкнецца наследаваць Яго. Гэтак ціха, але рашуча ўкрытае жыццё Езуса выходзіць за вузкія межы Назарэта. Яно і надалей будзе развівацца, дзякуючы многім сустрэчам, і прывядзе да найглыбейшага і найбольш асабістага пазнання Айца ў неверагодных падзеях Укрыжавання.

**Укрыты перад Айцом**

Словы апостала Паўла з паслання да Каласянаў аб тым, што нашае сапраўднае жыццё «схавана з Хрыстом у Богу» (Клс 3, 3) сведчаць пра наступнае значэнне ўкрытага жыцця: уласцівасці сэрца і ўключэнне ў актыўную дзейнасць. У сваім жыцці мы таксама сутыкаемся з супярэчнасцямі ў інтэрпрэтацыі падзеяў і ў досведзе, якія ўзнікаюць і ў нас саміх, і ў нашай камунікацыі з іншымі людзьмі, у залежнасці ад таго, перажываюцца і ўспрымаюцца гэтыя падзеі з вераю ці па-за ёю. Але існуе яшчэ незразумелая, але прыгожая супярэчнасць, якая ўзнікае *ў межах* веры: узрушальная розніца паміж тым, што *бачыць* і *адчувае* нашая вера, і што Айцец ведае і чыніць цяпер у нашым жыцці і праз нас. Нашае пачуццёвае ўспрыманне справаў веры заўсёды цьмянае, мы не здольныя ўбачыць падзеі ў іх цэласнасці, тое, як іх натхняе вера і любоў нашага Бога. Паўната справаў веры *мусіць* быць схаванаю для вачэй веры; у гэтым сутнасць жыцця веры. Але наш Айцец ужо *цяпер* ведае гэта, справы веры раскрываюцца перад Ім ва ўсім сваім бляску і простасці. Аднойчы Божае Аб'яўленне так паўплывае на нашыя сэрцы, што перад абліччам Айца мы ясна і пакорна спазнаем, якім было нашае жыццё веры.

Але цяпер мы жывём і працуем ва ўкрытасці веры, якая не здольная ясна ўбачыць сэнс нашага жыцця. Не трэба хвалявацца. Калі марна перажываць аб мэтазгоднасці або каштоўнасці нашага жыцця веры, гэта толькі можа знішчыць у нас апостальскую палымянасць. Апостал, які любіць і служыць у веры, павінен вучыцца заўсёды дзейнічаць спакойна, спадзеючыся, што робіць дзеля Айца ўсё магчымае. Не заўжды бывае лёгка не турбавацца аб выніках працы і дазволіць Езусу напоўніць нас спакоем у веры і спадзяваннях перад Ягоным і нашым Айцом. Езусу самому давялося жыць ва ўкрытай веры і надзеі ва ўсіх справах, што здзяйсняліся перад Айцом. Гэтая ўкрытасць веры захавала Яго сэрца і захоўвае нашыя даверліва адкрытымі для поўнай любові моцы Айца, які працуе ў нас і падтрымлівае наш запал.

Даверлівая адкрытасць Айцу ва ўсіх сферах нашага жыцця, абумоўленая схаванай прыродаю нашага ўспрымання веры, вядзе нас да разумення трэцяга значэння ўкрытага жыцця Езуса.

**Укрытая блізкасць з Айцом**

Мы звяртаемся да найглыбейшага значэння ўкрытага жыцця Езуса, якое ляжыць у аснове тых, што мы ўжо разгледзелі. Уласцівасці сэрца і ўключэнне ў актыўную дзейнасць, пра якія мы гаварылі вышэй, грунтуюцца і сілкуюцца толькі ўзрастаннем блізкасці з Айцом у духоўным жыцці. Менавіта ў гэтым заключаецца трэцяе значэнне ўкрытага жыцця Езуса, якое вядзе нас у самую глыбіню нашага ўласнага духоўнага жыцця.

Звернемся да Евангелля, каб прасачыць, як развіваецца духоўнае жыццё Езуса і Яго блізкасць з Айцом. Думаю, гэта найважнейшая тэма жыцця Езуса, гэтак мы ўваходзім у самую сутнасць Божага Аб'яўлення, якім

Ён ёсць. Тут мы не спрабуем разгледзець яе цалкам, а толькі прапануем кірунак, па якім чытач можа рухацца далей у малітве і разважанні. <…>

**Адшуканне ў святыні**

Карл Ранер SJ у кнізе «Духоўныя практыкаванні» піша: «Калі б укрытае жыццё Хрыста не было ў першую чаргу духоўным жыццём, тады пры ўсім жаданні немагчыма было б знайсці ў ім нешта сапраўды значнае». У звычайнасці свайго дзяцінства ў Назарэце Езус развіваў духоўнае жыццё. Як і любога габрэйскага хлопчыка, Маці, відаць, вучыла Яго маліцца і разважаць над Аб'яўленнямі Старога Запавету. Можна ўявіць, як малы Езус вымаўляе вобразныя словы 139-га псальма. Але настаў асаблівы дзень, калі сэрца Езуса было ўзрушана сутнасцю гэтых словаў так, што Ён натхніўся і пачаў маліцца псальмам як сваімі ўласнымі словамі, звяртаючыся да Бога. Цяпер гэтыя словы сталі адлюстраваннем пачуццяў у сэрцы малога хлопчыка: такі прыгожы пачатак сапраўднага духоўнага жыцця. Свядомыя асабістыя адносіны з Богам сталі развівацца і ўзрастаць. Гады ў Назарэце, схаваныя ад людскіх вачэй, асаблівым чынам характарызуюцца рэлігійным узрастаннем, якое адбывалася ў сэрцы падлетка Езуса.

Таямніца адшукання Езуса ў святыні выразна падкрэслівае гэтае развіццё. Езус адказвае на зразумелую заклапочанасць Марыі і Юзафа таямнічымі словамі: <…> «Ці вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму?» (Лк 2, 49). Гэтыя словы сведчаць пра духоўнае жыццё і сутнасць асобы Езуса, што адкрыліся ў той момант Марыі з Юзафам і самому Езусу, <…> нібыта двусечны меч, вызначыўшы таксама становішча Марыі і Юзафа ў адносінах да Хрыста. Магчыма, Марыі ўпершыню давялося сутыкнуцца з фактам, што хоць Яна і Маці, Яе Сын насамрэч Ёй не належыць. Яна мусіла па-новаму ўбачыць, *якім чынам* Ён належыць Ёй (бо, чым больш Ён яднаецца з Айцом, тым больш поўна належыць Ёй і нам таксама). Цікава, ці сам Езус мусіў глыбока задумацца над словамі, якія *былі дадзены* Яму ў доме Айца.

Езус прабываў у малітве больш за пятнаццаць гадоў, няспынна ўзрастаючы духоўна, і ўрэшце Марыя мусіла сутыкнуцца з тым, што Сын пакіне Назарэт. У гэты ж час паглыблялася Яго духоўная блізкасць з Айцом у сапраўднай любові і даверы, і праз пэўны час яна стала ясным і рашучым пакліканнем пакінуць Марыю і Назарэт (як Абрагам пакінуў Ур, а Майсей — Егіпет). <…> Магчыма, жанчына, якая цалкам раздзяліла жыццё з Сынам, не да канца разумела, чаму Ён выбірае адзінокае жыццё прарока, далёка ад сям'і і роду, аднак Марыя верная свайму абяцанню, якое дала пры Звеставанні, і Яна ахвяруе свайго Сына свету і Айцу. Езус, ведаючы, што павінен ісці за святлом духоўнай блізкасці з Айцом, рашуча накіроўваецца наўпрост да ракі Ярдан, але перад гэтым пяшчотна развітваецца з Маці. Словы «Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму», вядуць Езуса туды, дзе Айцец прабывае для Яго, вядуць на крыж. Такім чынам, менавіта ўкрытае малітоўнае жыццё ў блізкасці з Айцом прымушае Езуса пакінуць Назарэт і жыццё ў невядомасці. <…>

Натхнёны Духам Святым у хросце, Езус пакідае Ярдан з яшчэ большай упэўненасцю ў сваёй еднасці з Айцом і пакліканні быць слугою ў справе перамогі над грахом.

**Спакушэнне**

Цалкам давяраючы Айцу, Езус па натхненні Святога Духа накіроўваецца ў пустынныя мясціны. Суровасць пустыні не дапускае павярхоўных перажыванняў. Асоба чалавека часта выпрабоўваецца менавіта ў пустыні, <…>, спакуса выяўляе, кім мы ёсць, кім мы можам памылкова стаць і, нарэшце, кім мы *павінны* стаць. Змрочнасць, аскетычнасць, адзінота пустыні можа падмануць нас, не дазволіўшы адкрыць прыгажосць глыбокай блізкасці з Богам, прабывання з Ім сам-насам. Але Езус не ашуканы пустыняй, бо гэта Дух вядзе Яго ў яе неабдымную цішыню дзеля большага ўзрастання і самавызначэння перад абліччам Айца.

Спакушэнне Хрыста можна лепш зразумець у параўнанні з досведам, атрыманым на рацэ Ярдан. У той час, як Ён яшчэ непасрэдна перажывае нядаўні духоўны досвед, калі пачуў: «Мой Сын, Мой Умілаваны, Мой Слуга», тры спакусы, апісаныя ў Евангеллі, выпрабоўваюць, наколькі гэты досвед праўдзівы, зводзячыся да адной фразы: «Калі Ты Сын Божы…» <…> Ці Езус насамрэч Сын, Слуга, Умілаваны, або падзеі на рацэ Ярдан былі ілюзіяй? Гэтае выпрабаванне самаўсведамлення Хрыста мусіла каштаваць Яму вялізнай унутранай барацьбы і рэфлексіі, перш чым Ён зноў змог выбраць Айца і прыняць досвед Ярдана і сябе як Сына, Слугу і Умілаванага. Евангельскае апісанне абмінае гэтую ўнутраную барацьбу, і спакусы могуць здавацца нам нязначнымі. Але ў рэальнасці яны літаральна рвалі чалавечае

сэрца Езуса на часткі. Ён павінен рызыкнуць і, даверыўшыся Айцу, прыняць сваю сувязь з Ім, прыняўшы гэтым і сваё пакліканне.

Праходзячы праз спакусы, Езус сутыкаецца з прывабнай прапановай д'ябла быць Сынам, Слугой і Умілаваным так, як ён гэтага хоча, насуперак таму, як жадае гэтага Айцец. Чаму б не паказаць, што ты сапраўды Сын, Слуга і Умілаваны, ператварыўшы камяні ў хлеб і гэтак бліскуча і эфектна распачаўшы сваё публічнае служэнне? Кожны раз Езус вымушаны ўнутрана адкідаць прапановы сатаны, гэтым самым выбіраючы Айца і адкрываючы шлях, які Ён прапануе. Урэшце Езус усведамляе сваё існаванне і пакліканне ў свеце на новым вызначальным узроўні і ўвесь заглыбляецца ў цудоўную рэальнасць Адзінага Умілаванага Сына ў еднасці з Айцом, гатовага служыць Яму ва ўсім. Сын і Айцец — няма нічога найважнейшага ў гэты момант, калі ўсё жыццё любові і служэння цалкам адкрылася Яму, хоць яшчэ цьмяна. Яго рукі, сэрца і вочы будуць працягваць шукаць, гэта ўласціва чалавеку, але подых Айца ўжо на Ягоным твары. І Хрысту будзе неабходна вяртацца да гэтага перажывання, як і да іншых (як, напрыклад, на рацэ Ярдан і гары Табор), каб умацавацца ў змаганні з цьмянасцю чалавечага пошуку Айца ў гэтым свеце. <…> Еднасць з Айцом стварае настрой сэрца, які будзе надалей узрастаць, даючы цёплую яснасць і выразны кірунак чалавечаму жыццю Хрыста. У гэтым настроі сэрца Ён будзе прымаць усе пазнейшыя рашэнні.

**Публічнае служэнне**

Езус выходзіць з пустыні «ў моцы Духа» і, як гаворыць Евангелле паводле Лукі, накіроўваецца ў сінагогу ў Назарэце, дзе Ён вырас. Езус старанна абірае для чытання ўрывак з кнігі прарока Ісаі: «Дух Пана Бога на мне, бо Пан намасціў мяне абвяшчаць добрую навіну ўбогім. Паслаў мяне перавязваць раны змучаных сэрцаў, прапаведаваць вызваленне палонным і вязням — свабоду; абвяшчаць год ласкі Пана» (пар. Іс 61, 1–2).

Хрыстус коратка каментуе гэты ўрывак, адкрываючы, Кім Ён ёсць. Айцец Пол Хіннебуш OP у кнізе «Малітва, у пошуку сапраўднасці» пісаў: «Святы Дух выклікае прагу па Айцу». Вось што ён меў на ўвазе: пасля перажытага досведу адзіноты ў пустыні Езус вяртаецца, поўны ўсёпаглынальнай прагі па Айцу, і ў Ім нарастае жаданне аб'явіць Айца ў служэнні ўбогім, палонным, сляпым, спакутаваным і ўсім, хто жыве ў патрэбе. Не дзіва, што натоўп агаломшаны цудоўнаю ласкаю, якой напоўненыя Яго словы! Асабісты глыбокі досвед прабывання сам-насам з Айцом у пустыні напаўняе словы Хрыста такой палкасцю і моцаю перакананння, якія не маглі ўзнікнуць іншым чынам. Відавочна, на Ім быў Дух Айца! <…>

Узрастанне ва ўкрытым духоўным жыцці з Айцом выяўляецца таксама ў частым адасабленні Езуса для малітвы. Немагчыма свярджаць, штó дакладна перажываў Езус, прабываючы ў малітве сам-насам з Айцом, у Яго любові і магутнасці, але нельга адмаўляць, што Хрысту быў неабходны гэты досвед асабістай сустрэчы з Айцом, і ад гэтых малітоўных адасабленняў вельмі моцна залежала і Яго духоўнае ўзрастанне, і ўсведамленне Яго місіі, кірунку, у якім трэба рухацца. <…> Выпадкі, калі Езус адасабляўся для малітвы, часта апісваюцца ў Евангеллі ў кантэксце Яго актыўнай дзейнасці і прысутнасці ў свеце. Напрыклад, у Евангеллі паводле Лукі (гл. Лк 6, 12) распавядаецца, як Езус правёў усю ноч у малітве перад важным выбарам тых Дванаццаці, каго Ён *хацеў* бачыць Апосталамі. Падчас гэтай доўгай ночы ў малітве паступова прыходзіла яснае рашэнне гэтага пытання, і такім чынам выбраныя мужчыны былі сапраўды *дадзеныя* Езусу Айцом. Унутраная сіла, яснасць і руплівасць напаўнялі Езуса падчас даверлівай і засяроджанай малітвы, што відавочна адбівалася ў Яго жыцці і праявах Яго дзейнасці, хаця мы можам толькі здагадвацца пра поўнае значэнне гэтай малітвы для Хрыста.

Развагі над жыццём Езуса, спакусамі, якія Ён перажываў, пошукамі і досведам асабістай малітвы і прабывання з Айцом прыводзяць нас да кульмінацыі Яго ўкрытага жыцці і любові ў крыжовых пакутах. <…>

**Умілаваны і поўны даверу на крыжы**

Менавіта на крыжы ўкрытае духоўнае жыццё Езуса дасягае кульмінацыі ў фінальным даверлівым адданні сябе — гэта вяршыня ўкрытасці і вяршыня жыцця, якое пражываецца ў Богу.

Кпіны і здзекі над Езусам на крыжы — гэта спакуслівая паўната бязвер'я свету. Ён ізноў чуе: «Калі Ты — Сын Божы, сыдзі з крыжа» (Мц 27, 40). Езус павінен яшчэ раз зрабіць выбар і быць Сынам, Слугою і Умілаваным, ідучы шляхам любові Айца. Сітуацыя выглядае цалкам абсурднаю: Айцец просіць маладога таленавітага габрэя пакінуць зямное жыццё на ўздыме

Яго сілаў і прыцягальнасці для людзей — у гэтым неразважнасць, вар'яцтва крыжа. Сэнс усяго, што адбываецца, і само адкупленне перадусім знаходзяцца менавіта ва ўкрытым унутраным жыцці Езуса і прабыванні разам з Айцом на крыжы. Крыжовая смерць — гэта поўная і канчатковая праява блізкага і поўнага любові даверу Езуса да Айца. Ён адмаўляецца ад жыцця, бо даверае Айцу, і гэта дае Яму самому і ўсім нам паўнату жыцця. Словы, прамоўленыя некалі ў святыні: «Ці вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму?», вялі Яго менавіта да гэтага, і яны зусім інакш прагучалі для Марыі тут, на Кальварыі. Яна вельмі доўга захоўвала іх у сваім сэрцы.

<…> На нейкі момант на крыжы Езус адчувае сябе цалкам аддзеленым ад Айца. Гэта Яго апошні дар. <…> У Езусе бесперапынна ўзрастала ўсведамленне сябе Сынам, Слугою і Умілаваным свайго Айца, а тут, на крыжы, на імгненне ў апошнім шаленстве любові Ён пазбаўлены і гэтага ўсведамлення і таму ўсклікае: «Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне паікнуў?» (Мц 27, 46). Але нават тады Езус не дарэшты губляе надзею і давер. Цяпер улада граху знішчаная любоўю і даверам Паслухмянага. Магчыма, тады, у цемры і пустыні таго страшнага моманту, у сэрцы Езуса загучаў поўны любові голас Айца ў словах Песні Песняў: «Устань, любы Мой, прыгожы Мой, і выйдзі!» (пар. Пп 2, 13). <…> Айцец кліча Езуса дамоў у такой укрытай блізкасці, якая не паддаецца апісанню, і там Ён «вытра кожную слязу… і ўжо не будзе ні смерці, ні смутку, ні плачу, ні болю» (Ап 21, 4) не толькі для Яго, але і для ўсяго свету, усіх Яго братоў і сясцёр, якіх Ён дарэшты палюбіў тут, на крыжы. У гэтым сэнсе святло і радасць Уваскрасення пачынаюцца ў момант паміранння. <…> Таму апошнія словы Езуса на крыжы — гэта Яго адказ Айцу з глыбіні сэрца, натхнёны магутнаю ўнутраную еднасцю з Ім: «Ойча, у рукі Твае аддаю дух Мой» (Лк 23, 46). Гэта гаворыць Сын, да канца паслухмяны і ўмілаваны слуга свайго Айца!

**Нашае жыццё веры**

По прыкладзе Езуса і мы пакліканыя будаваць сваё духоўнае жыццё. Езус, наш Уваскрослы Пан, робіць для нас магчымаю тую блізкасць, якою Айцец жадае падзяліцца з кожным: «Усё перададзена Мне Айцом Маім, і ніхто не ведае, кім ёсць Сын, апроч Айца, і кім ёсць Айцец, апроч Сына і таго, каму Сын захоча адкрыць» (Лк 10, 22). Менавіта ў гэтым заключаецца сутнасць жыцця веры. Вера — не проста нейкія дзеянні, словы або думкі. Без унутраных блізкіх адносінаў з Айцом, поўных любові і даверу, гэта ўсё толькі абалонка. Веры патрэбна няспыннае навяртанне нашых чалавечых, заплямленых грахом пачуццяў, каб яны перамяніліся ў жывыя і шчырыя пачуцці, як ва Уваскрослага Хрыста, які цяпер, прабываючы ў еднасці з Айцом, жадае суцешыць усіх нас, раздзяліўшы з намі Іх унутранае жыццё. Менавіта гэтае ўкрытае жыццё веры заўсёды адрознівае сапраўднага верніка ад гуманіста, які не мае веры.

Укрытае жыццё веры стварае ў нашым сэрцы настрой, які становіцца крыніцаю ўсіх нашых рашэнняў і дзеянняў. Такім чынам нават найдрабнейшыя ўнутраныя памкненні разглядаюцца намі ў святле блізкасці з Айцом, а ўнутраны досвед спакою ў Богу нараджае ў нас руплівасць і нязломнае жаданне дзейнічаць, <…> чыніць вялікія рэчы для Бога. Такім чынам <…> гэтае ўкрытае духоўнае жыццё непазбежна выяўляецца ў нашай актыўнай, дзейснай прысутнасці ў свеце, у сітуацыях, якія патрабуюць рашучых дзеянняў. Гэтая прысутнасць, вырастаючы з веры, пазначаная спакоем, лагоднасцю, радасцю, пакорнай удзячнасцю і рашучаю руплівасцю. Такая прысутнасць у свеце патрабуе ад чалавека ўважлівага сузірання таямніцаў жыцця Езуса Хрыста, якое стварае ўнутраную гармонію нашага жыцця з Яго ўласным укрытым жыццём глыбокага даверу і любові да Айца. <…>

Нарэшце, унутранае ўкрытае жыццё веры ўзбагачае нашае разуменне Божай Трынітарнасці і адкрывае яго ў самых штодзённых справах, у найбольш звычайных здарэннях. Духа Святога можна разумець як багацце блізкасці і любові паміж Сынам і Айцом. Езус вярнуўся да Айца, каб мы маглі жыць у Ягоным Духу і ўзрастаць ва ўкрытым унутраным жыцці ў блізкасці з Айцом. Ён жадае, каб свет паверыў у Айца і ў Яго Адзінароднага Сына, якія спасылаюць нам свайго Духа: «Каб Ён [Айцец] вам даў, паводле багацця славы сваёй, умацаваць сілы Ягоным Духам дзеля духоўнага чалавека, каб праз веру Хрыстус пасяліўся ў вашых сэрцах» (Эф 3, 16–17).

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «Review for Religious 34», 1975.*

*P.S. Рэдакцыя дзякуе спадарыні Тэрэсе Клімовіч за прапанову гэтага тэксту.*

# «Адкрываць Божую мудрасць і дзяліцца ёю...»

## Размова з айцом Раманам Шульцам OP, пробашчам парафіі св. Казіміра і св. Ядвігі ў Магілёве

*— Ойча Рамане, дзякуй Вам за шматгадовае супрацоўніцтва з нашымі выданнямі і за Вашую згоду на інтэрв'ю. Адчуваецца, што Вы — чалавек на сваім месцы і знайшлі сваё жыццёвае пакліканне. Падзяліцеся, калі ласка, досведам, як шукаць, як прыслухоўвацца да Божага голасу ў гэтай справе?*

— Для пачатку распавяду пра адно здарэнне з майго юнацтва. Калі мне было прыблізна 13 гадоў, я часта хадзіў лавіць рыбу. Аднойчы я пайшоў на раку і доўга не мог нічога злавіць, здавалася, я так і вярнуся дамоў без рыбы. Тады ў маім сэрцы раптам з'явілася думка, з якою я звярнуўся да Пана Бога: «Калі я цяпер закіну вуду і злаўлю рыбу, пайду ў ордэн да францішканаў». І злавіў! Думаю, гэта было па-дзіцячы, несур'ёзна, але сведчыць пра тое, як уплывае на думкі і рашэнні чалавека асяродак, у якім ён расце. Я нарадзіўся ў мястэчку Асечна, дзе было каля 2 000 жыхароў. З пачатковай школы я служыў міністрантам пры кляштары францішканаў. Я не стаў францішканінам, але духоўнасць святога Францішка паўплывала на мяне, я дагэтуль памятаю спевы і антыфону да святога Антонія, якія гучалі падчас аўторкавых набажэнстваў, і мяне дагэтуль узрушаюць іх тэксты і мелодыі. Гэта немагчыма забыць: «Калі шукаеш цуду, ідзі да Антонія, ад яго ўсе ласкі атрымаеш…» Прыгожыя мелодыі і глыбокія тэксты, якія выконвалі таленавітыя маладыя арганісты з навіцыяў ордэну, надзвычай уражвалі нас, удзельнікаў літургіі. У францішканскім касцёле ў Асечна, прыгожа і аскетычна пабудаваным, з разнымі дубовымі алтарамі, спявалася шмат прыгожых эмацыйных твораў. Узгадваю рэфрэн гімна: «Вось Бог наш, нашая песня, яна гучыць у сэрцы, як рог залаты. Браты! Узнясем жа штандары! Хто супраць нас, калі Бог з намі!». Увесь касцёл ахвотна співаў, і я разам з усімі, гэта быў адзін з нашых улюбёных спеваў. Я лічу, што сустрэчы з братам Базылём, апекуном міністрантаў, айцом Блажэем, цудоўным прапаведнікам з добрым пачуццём гумару (людзі смяяліся і плакалі падчас яго казанняў), атмасфера сардэчнай малітвы і францішканскі дух «Pax et bonum», «Супакой і дабро» ў вялікай ступені паспрыялі фармацыі майго хлапечага сэрца і дапамаглі адкрыць сваё пакліканне.

*— Чым жа Вас прывабіў дамініканскі ордэн?*

— У жыцці Пан Бог дае чалавеку знакі. Адным з такіх знакаў быў для мяне музычны інструмент, які тата даў мне ў рукі на пачатку навучання ў школе, сказаўшы: «Будзеш граць на кларнеце». Я з ахвотаю ўзяўся за справу. Пасля заканчэння школы ў Лешне, дзе я таксама атрымаў прафесію токара і ўзельнічаў у аркестры, я паехаў у Познань. Там я стаў вучыцца ў тэхнікуме на механіка і адначасова ў музычнай школе па класе кларнета. Апроч гэтага, мы вучыліся граць на фартэпіяна. Маёй настаўніцай была актыўная каталічка, звязаная з познаньскімі дамініканамі. Яна скіравала мяне ў душпастырства школьнікаў, якім займаўся тады яшчэ зусім малады дамініканін айцец Ян Гура OP. Там я граў на гітары падчас Імшаў і на кларнеце, калі бывалі чуванні. Я памятаю, што, калі спавядаўся ў айца Яна, яго ўразіла мая рэлігійная неаду-



Каля цудоўнага абраза Маці Божай Балеснай. Францішканскі касцёл у Асечна.

каванасць, і ён параіў мне чытаць рэлігійную літаратуру і клапаціцца пра сваё сумленне. Айцец Ян граў на кларнеце, як і я, гэта нас яднала, але размовы на іншыя тэмы не атрымліваліся. Але ён быў мудры душпастыр і ўважлівы чалавек. Разумеючы, што мне патрэбнае духоўнае кіраўніцтва, ён употай папрасіў аб гэтым іншага дамініканіна, айца Яна Спежа OP, які падышоў да мяне ў душпастырстве, каб пазнаёміцца. Гэтая сустрэча прынесла бясцэнны плён: шмат гадоў споведзяў і размоваў. Я навучыўся ў айца Спежа, што пабожнасць і розум павінны заўжды ісці ў пары.

У Познані я пазнаёміўся і з іншымі дамініканамі: айцом Тамашам Алексіевічам і айцом Тамашам Паўлоўскім. Як шмат мог бы я распавесці пра гэта! Я моцна захацеў стаць дамініканінам, бо гэтыя айцы і на амбоне, і ў жыцці былі вельмі нармальнымі — не магу знайсці іншага слова. Яны так непасрэдна і адкрыта дзяліліся Божым словам, што іх хацелася слухаць. Такім чынам, дзякуючы музыцы і сустрэчы з настаўніцай фартэпіяна я пазнаёміўся з цудоўнымі дамініканамі, і гэтае знаёмства захапіла мяне і пэўным чынам натхніла стаць дамініканінам.

— *Што Вы лічыце галоўным у святарскім служэнні, абапіраючыся на 25-гадовы досвед?*

— Я шчыра ўпэўнены, што менавіта абвяшчэнне Божага слова (без гэтага харызмату ніхто не становіцца дамініканінам) натхніла мяне ў святарстве і захапляе дагэтуль. Але з самага пачатку і да сённяшняга дня гэта не толькі самарэалізацыя і радасць, а яшчэ цяжкая праца і неспакой. Гэта творчы неспакой, які накіроўвае маё сэрца да Духа Святога, каб Ён адарыў мяне ласкаю прапаведавання. Нягледзячы на тое, што я рыхтуюся да казанняў і канферэнцый, ува мне застаецца няўпэўненасць, і я прашу Пана аб дапамозе: «Без Цябе я нічога не магу зрабіць». Чым даўжэй я абвяшчаю Божае слова, тым больш упэўніваюся, што без засяроджанай малітвы і без духоўнага чытання я не змагу даць вернікам тое, што праз мяне жадае ім даць Пан Езус.



Здымак з Першай святой Камуніі 21 мая, 50 гадоў таму. У гэты самы дзень 25 гадоў таму айцец Раман Шульц атрымаў святарскае пасвячэнне.

— *Што самае прыемнае для Вас у Вашым служэнні, што прыносіць найбольш радасці?*

— Прыемнае заўсёды звязана з пэўнымі высілкамі. Напрыклад, калі я раз на месяц пішу разважанне над Евангеллем для інтэрнэт-старонкі часопіса «Ave Maria» або артыкул для магілёўскага штотыднёвіка «Чацвер», то адчуваю цяжар і напружанне, якія мінаюць толькі тады, калі тэкст скончаны. Калісьці, праз некалькі месяцаў пасля святарскага пасвячэння, мой прыёр ва Уроцлаве, айцец Андрэй Канопка OP, паслаў мяне на рэкалекцыі для моладзі ў катэдральным касцёле ў Камені Паморскім, і я быў перакананы, што ён памыліўся, паслаўшы маладога недасведчанага дамініканіна (я стаў святаром у 35 гадоў) праводзіць рэкалекцыі для моладзі на працягу некалькіх дзён. Мяне ахапіў вялікі страх. Але, падзяліўшыся з прыёрам сваімі сумненнямі, я згадзіўся на заданне, якое нашмат перавышала мае магчымасці, і ў напружанні, увесь дрыжучы, стаў прасіць усіх знаёмых маліцца за мяне ў інтэнцыях правядзення тых рэкалекцый. Я прасіў знаёмых законніц, у тым ліку дамініканак, сваю сям'ю, айцоў дамініканаў, парафіянаў. Іх падтрымка мяне суцяшала. Нарэшце, падрыхтаваўшы канферэнцыі, я прыехаў на месца і падчас першай святой Імшы, дзе моладзь так неспадзявана і міла выконвала дамініканскія спевы, мяне падчас чытання Евангелля настолькі ўзрушыла нейкае слова, што я натхніўся ім і замест падрыхтаванага сказаў зусім іншае казанне. Гэта была мая першая незвычайная прапаведніцкая прыгода. Я лічу, што гэта стала плёнам малітвы многіх людзей і адкрыла для мяне праўду, што, калі давяраць свае справы Богу, Ён падтрымлівае нас сваёю ласкаю. Яшчэ з тых далёкіх рэкалекцый я памятаю, якім вялікім

рэхам канферэнцый гучалі ў канфесіянале споведзі — Бог дзейнічаў! Я адкрыў для сябе яшчэ адну праўду: «Хто ў слязах сеяў, жаць будзе з радасцю». Гэтак жа цяжка было, калі я ехаў праводзіць свае першыя рэкалекцыі для законніц з навіцыяту сясцёр назарэтанак у Чэнстахове. Якія былі пачуцці! Наколькі гэта было больш за мае магчымасці! Я зноў прасіў аб малітве ўсіх, каго сустракаў. Мне не забыць, што сказала тады сястра Февронія, вельмі малітоўная старая дамініканка, жадаючы мяне суцешыць: «Ойча, не перажывайце, не важна, што гаворыць прапаведнік, рэкалекцыі і так будуць удалыя». Гэта вельмі ўмацавала мяне. Сястра Февронія заўжды мела словы надзеі для мяне, маладога святара.



Мушу сказаць і аб радасці, якою напаўняе мяне служэнне спаведніка. І гэтая радасць таксама звязаная з цяжкаю працаю і адказнасцю. З аднаго боку, цудоўна, што ў мяне ёсць магчымасць выконваць гэтае служэнне — некалі я мог з вялікаю ахвотаю і радасцю на працягу дзесяці гадзінаў без перапынку спавядаць законніц, але адначасова я ўсведамляю, што майго асабістага духоўнага досведу бывае недастаткова. Споведзь часта спалучаецца з духоўным кіраўніцтвам, і таму неабходна духоўна развівацца: чытаць і маліцца. Я памятаю, што святы Ян Павел ІІ сказаў спаведнікам рымскіх базылік: «Каб добра спавядаць, трэба ведаць, чаму вучылі настаўнікі Касцёла». Гэтыя словы далі мне смеласць і паказалі, у якім кірунку трэба развівацца. У мяне атрымалася «пасябраваць» са святой Тэрэзай ад Езуса. Я прачытаў усе яе творы, не толькі для таго, каб напісаць сваю працу «Аб патрабаваннях, якія ставіць святая Тэрэза перад духоўным кіраўніком», а найперш, каб вучыцца ў яе, чэрпаць з яе мудрасці і духоўнага досведу. Я дагэтуль у сваіх казаннях і канферэнцыях дзялюся з людзьмі яе думкамі. Адзін з першых генералаў нашага ордэну напісаў, што калі дамініканін пачуе або прачытае нейкі прыклад, які ўзрушыць яго, то мусіць запомніць яго і расказаць іншым. Адкрываць Божую мудрасць у іншых і дзяліцца гэтаю мудрасцю — вось сапраўдная радасць для мяне!

*— У казаннях Вы часта гаворыце пра Ружанцовую малітву, практыку Марыйных набажэнстваў. Якое месца для Вас займае Маці Божая, як Вы адчуваеце Яе падтрымку?*

— Яшчэ не стаўшы дамініканінам, я два гады вучыўся ў Слупску, у педагагічным універсітэце на музычным факультэце. Гэта быў час духоўнага пошуку. Тады я чытаў цудоўную кнігу Томаса Мэртана «Ніхто не ёсць адзінокаю выспаю» і яшчэ — кранальны твор Зоф'і Віноўскай «Правa на міласэрнасць». Таксама я часта чытаў маленькую кішэнную Біблію, якую заўжды насіў з сабою. Вельмі важным месцам для мяне быў касцёл пастаяннай Адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту, дзе працавалі сёстры кларыскі, дзе я меў важныя размовы з адною сястрою, а яна малілася за мяне. Думаю, што яна выпрасіла для мяне шмат ласкаў і паўдзельнічала ў маім жыццёвым выбары. Тады я таксама разважаў над жыццём святога Максімільяна Кольбэ: падчас вучобы ў Рыме ён стаў сведкам працэсій масонаў па вуліцах горада і бачыў на іх штандарах выяву д'ябла, які топча святога арханёла Міхала. Яго гэта так уразіла, што ён вырашыў прысвяціць сваё жыццё Богу. Разважаючы над гэтым, я падумаў, што таксама магу аддаць сваю душу Богу і служыць Яму. Ідучы да касцёла кларысак, я сустрэў старога парафіяніна, які разам з групаю людзей у першыя суботы месяца маліўся тры часткі ружанца ў тым касцёле. Я падышоў да яго і падзяліўся сваім запалам і жаданнем аддаць душу Пану Богу па прыкладзе святога Максімільяна. Стары ўзяў мяне з сабою дамоў і там падараваў мне маленькую блакітную кніжачку. Гэта быў «Трактат аб дасканалым ушанаванні Найсвяцейшай Панны Марыі» святога Людовіка Грыньёна дэ Манфора. Я быў надзвычай уражаны гэтым падарункам. Я пачаў чытаць кнігу і падкрэсліваць тое, што мяне ўзрушала, а праз нейкі час стаў адкрываць важнасць ролі Панны Марыі на шляху нашага паяд-

нання з Езусам. Апроч іншых, мяне ўразілі наступныя словы святога Людовіка, якія я вывучыў на памяць: «Калі гэта магчыма і залежыць ад цябе, імкніся штодня маліцца цэлы Ружанец, і ў хвіліну смерці ты падзякуеш Богу за хвіліну, калі паверыў мне». Я паверыў святому Людовіку, і там, у Слупску, пачалася мая прыгода з Ружанцам, якая доўжыцца і дагэтуль. На пачатку гэтага года я вырашыў маліцца за ўсіх унукаў маёй мамы Пампейскую навэнну — а ўсяго іх дваццаць. Гэта патрэбная, але нялёгкая справа. Я веру, што з Божаю дапамогаю спраўлюся. Увесь Ружанец штодня? Усё магчыма для таго, хто верыць. Я вельмі рэкамендую!



Ігра на кларнеце.

*— Што натхніла Вас на ідэю правядзення Ружанцовых кангрэсаў? У чым Вы бачыце мэту і перспектывы гэтай працы?*

— Два гады таму, у жніўні 2017 года, я на працягу некалькіх дзён праводзіў рэкалекцыі для сясцёр назарэтанак. Адну канферэнцыю я прысвяціў Ружанцовай малітве. Апроч іншага, я тады гаварыў, што Ружанец — біблійная малітва, і што можна чытаць яе, дапаўняючы біблійнымі тэкстамі, якія паказваюць сутнасць, душу Ружанца. Некаторыя законніцы пачулі пра гэта ўпершыню і вельмі захапіліся, для іх гэта стала важным адкрыццём. Менавіта падчас гэтых рэкалекцый у мяне з'явілася думка распавесці нашым вернікам пра гэты малітоўны метад і арганізаваць у Магілёве Ружанцовы кангрэс. На наступны дзень я расказаў пра ідэю назарэтанкам і папрасіў маліцца ў гэтай інтэнцыі! Адважным належыць свет! Далей справа пайшла з бліскавічнай хуткасцю. Біскупы і мае браты дамінікане прынялі ідэю правядзення кангрэса ў магілёўскай катэдры, вялікую дапамогу нам аказалі выдавецтва «Про Хрысто» і часопіс «Ave Maria». Мы знайшлі грошы на выданне кнігі з ружанцовымі разважаннямі ў дапаўненне да малітвы аўтарства ксяндза Марка Дзявецкага, які даў згоду на пераклад і выданне. З магілёўскімі парафіянамі мы запісалі на CD чатыры часткі Ружанца паводле гэтага метаду. Быў падрыхтаваны фільм пра Ружанцовую малітву. На дзіва, прыняць удзел у кангрэсе прыехала больш за 200 чалавек, і нам удалося ўсіх размясціць і накарміць, што здавалася немагчымым. Толькі пасля кангрэса мы зразумелі, што гэта справа Божай Маці і таму яе неабходна працягваць.

Калі гаварыць пра мэту кангрэсаў, скажу адно: толькі завяршыўшы другі кангрэс, мы ўжо пачалі рыхтаваць трэці, і я глыбока перакананы, што людзі, якія любяць Ружанец, — гэта духоўная эліта Беларусі. Святы папа Ян Павел II у лісце «Rosarium Virginis Mariae», прысвечаным Ружанцу, менавіта дамініканам даручыў распаўсюджваць гэтую малітву. Таму відавочна, што мы слухаем парады святога Папы і кангрэсы ў Магілёве — гэта магчымасць для людзей, якія моляцца на ружанцы, атрымліваць добрую духоўную і інтэлектуальную фармацыю.

*— Вы — прафесійны музыкант, нават пішаце песні. Якое месца ў Вашым жыцці цяпер займае музыка, якая пераплялася з Вашым пакліканнем?*

— Музыка навучыла мяне сістэматычнасці і руплівасці ў працы. Каб развівацца ў музыцы і лепш граць на кларнеце, мне трэба было шмат практыкавацца, і я штодня граў каля гадзіны з паловаю. Бог даў мне такую ахвоту ў навучанні. У родным доме я часта закрываўся ў ванным пакоі і практыкаваўся. Суседзі гаварылі, што чуюць, як я граю гамы, эцюды і канцэрты, і ім падабалася. Музыка навучыла мяне працаваць у калектыве. Граючы ў аркестры або спяваючы ў хоры, неабходна слухаць іншых і падпарадкоўвацца дырыжору. Уменне слухаць іншага чалавека вельмі важнае ў жыцці. Я шмат гадоў вучыўся супрацоўніцтву, граючы з татам і двума братамі на вяселлях і вечарынах. Гэта была вельмі цяжкая праца: часам мы гралі па 14 гадзінаў на дзень, і нас шмат куды запрашалі, бо, апроч іншага, нашая музычная група не піла алкаголю. Часам пасля цэлай ночы працы я прачынаўся ад таго, што ўсё цела баліць.

Папрацаваўшы на вяселлі, у нядзелі мы спалі да паўдня, а ўвечары ішлі на святую Імшу. Гэта быў вельмі добры досвед і вялікая фінансавая падтрымка для шматдзетнай сям'і: нас шасцёра дзяцей, а працаваў толькі тата. Я ніколі не забуду калядныя канцэрты ва ўніверсітэце Адама Міцкевіча ў Познані, дзе я скончыў музычную школу і Акадэмію музыкі да таго, як стаў дамініканінам. Тады я вельмі любіў наведваць сімфанічныя канцэрты, а ў перыяд Божага Нараджэння «калядаваў» рэктар Акадэміі, прафесар Стэфан Стулігрош разам са сваім сусветна вядомым хорам хлопчыкаў «Познаньскія салавейкі». Гэта было ў 80-я гады, зала філармоніі была перапоўненая, а прафесар Стулігрош паміж выкананнямі калядак гаварыў пра дар зачатага жыцця, якое адважна бараніў публічна. Сведчанне веры гэтага вядомага хармейстра вельмі ўразіла мяне і выклікала вялікую пашану. Праз некалькі гадоў я быў пробашчам у парафіі Карбелюва, але сам не вёў заняткі па рэлігіі з дзецьмі, гэтым займалася свецкая катэхетка, а я вучыў дзяцей пачатковых класаў музыцы. Пра гэта папрасіла мяне дырэктар школы, бо ў ваколіцах не было нікога з музычнай адукацыяй. Правінцыял ордэну даў згоду, і я навучыў дзяцей граць на флейтах. Мы стварылі вялікі флейтавы аркестр, які граў на святых Імшах для дзяцей. Гэта быў вельмі натхняльны досвед, я лепш пазнаў настаўнікаў і вучняў. Сёння, шчыра кажучы, я ўжо музыкант без практыкі. Але я вельмі ўдзячны Пану Богу за шматгадовую музычную прыгоду, знаёмства з цудоўнымі музычнымі творамі, знакамітымі кампазітарамі і выканаўцамі і за сваіх педагогаў. Гэта была бясцэнная школа выхавання, культуры і жыцця, якую нічым немагчыма замяніць.




У пілігрымцы да Сант'яга дэ Кампастэла.

— *Што яшчэ захапляе Вас, якія хобі Вы маеце?*

— Чым старэйшым я станаўлюся (у гэтым годзе мне спаўняецца 60), тым больш я люблю чытаць. Мяне захапіў сваім прыкладам мой брат у ордэне, з якім мы разам працуем у Магілёве, айцец Павел Мажэйка OP, які ўмее выкарыстоўваць свой час творча. Цяпер я чытаю адразу некалькі кнігаў, але больш за ўсё мне падабаецца «Артадоксія» Гілберта Кіта Чэстэртана. Я ў захапленні ад генія і пачуцця гумару гэта вядомага англійскага пісьменніка, які ў свой час навярнуўся ў каталіцтва, і, чытаючы, я часта смяюся з уласнага няведання многіх рэчаў і з таго, што ёсць урыўкі, якіх я зусім не разумею, — Чэстэртан быў сапраўды геніем. Не дарастаць некаму нават да пятаў таксама можа быць прычынаю радасці! Яшчэ мне вельмі падабаецца шпацыраваць з ружанцам, і я радуюся, што мой галандскі ровар, якому ўжо больш за 20 гадоў, усё яшчэ мне служыць. Я вельмі люблю катацца на ровары, а яшчэ люблю кіраваць машынаю, асабліва тады, калі мы з парафіянамі ездзім у пілігрымкі. Дзякуй Вам за гэтую размову. Успаміны, якімі я падзяліўся з чытачамі, зноў абудзілі ў маім сэрцы ўдзячнасць Божаму Провіду за сцежкі, якімі вёў мяне Бог, за маю сям'ю і за цудоўных людзей, якіх ён ставіў і цяпер ставіць на шляху майго жыцця. Я давяраюся малітве чытачоў і прашу, калі гэта магчыма, у маі адзін раз прыняць у маёй інтэнцыі святую Камунію ва ўдзячнасць за мой удзел у святарстве Хрыста на працягу 25-ці гадоў, і каб я меў Божую ласку быць верным у сваім пакліканні да самага канца. Няхай Бог вам аддзячыць!

— *Ойча, дзякуй вялікі за шчырую размову. Мы, супрацоўнікі часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria» і выдавецтва «Про Хрысто» сардэчна віншуем Вас з юбілеем і абяцаем Вам сваю малітву.*

*Размаўляла*
*Юлія Шэдзько.*

# Сучасны апокрыф

Кожны з нас, у большай ці меншай ступені, знаёмы са зместам кананічных Евангелляў: з прыпавесцямі Езуса, Яго настаўленнямі і рознымі гісторыямі з жыцця людзей той вельмі далёкай для нас эпохі. Аднак пасланне Евангелля не губляе сваёй надзённасці нават сёння, яно здольнае ўплываць на нашыя паводзіны, думкі, успрыняцце свету. Яно застаецца заўсёды актуальным дзякуючы свайму глыбокаму сэнсу, які выходзіць па-за межы гісторыі і часу. Яно не старэе, але заўсёды захапляе чалавека розных эпохаў і розных краінаў.

Хрысціянін, які разважае над Божым словам і хоча наследаваць Езуса сёння, часта задае сабе пытанне: «А што зрабіў бы Езус у маёй сітуацыі?» Так распачынаецца працэс актуалізацыі Евангелля і яго інкультурацыі, а ў пэўнай ступені нават стварэнне «сучаснага апокрыфа».

Паняцце *апокрыф*[1] было запазычана ад гностыкаў для назвы раннехрысціянскіх твораў, якія не лічыліся Касцёлам боганатхнёнымі, а таму не былі ўключаныя ў канон Бібліі. З часам апокрыфамі сталі называць таксама мастацкія творы з біблійным сюжэтам, але з пэўнай інтэрпрэтацыяй аўтара. Напэўна, апокрыфам у гэтым сэнсе можна было б назваць нашумелую ў мінулым годзе ў нашым оперным тэатры драму «Саламея»[2] англа-ірландскага драматурга Оскара Уайльда.

Калі б сёння вучні Езуса пісалі Евангелле Хрыста, то рабілі б гэта, як і раней, не прыгожай мовай, але простай, магчыма, нават з жаргонамі і дыялектамі. І чыталі б гэтую кнігу не вучоныя і паспяховыя людзі, але ў першую чаргу простыя: самыя бедныя сярод убогіх, з якімі не лічацца ў грамадстве, якіх адкінулі і пра якіх забыліся жыхары элітных дамоў і прыгожых багатых асабнякоў, тыя, хто не атрымаў бліскучай адукацыі, хто не можа ганарыцца сваім выхаваннем, хто не меў у сям'і цяпла і любові, хто з прычыны сваіх памылак апынуўся за кратамі, ад якіх усе адвярнуліся, каго сустрэла невылечная хвароба. А героямі Евангелля сёння замест пракажоных сталі б, напэўна, наркаманы, замест гаспадароў вінаградніку — кіраўнікі розных інстытуцый, а замест фарысеяў — тыя, хто… а, магчыма, мы самі.

У нашым XXI стагоддзі таксама не спыняюцца спробы перанесці біблійны сюжэт на сучаснасць. Адну з такіх спробаў зрабіў нават не пісьменнік, а каталіцкі святар, бібліст К. Бардскі[3].

Перад сваім невялічкім выданнем «Е-вангелле. А калі б Езус нарадзіўся сёння?»[4] (названае таксама «Варшаўскае Евангелле»), якое пабачыла свет у 2016 г., аўтар змясціў фрагменты з апостальскай адгартацыі *Evangelii gaudium* папы Францішка:

«Не трэба думаць, што евангельскае пасланне заўсёды перадаецца пры дапамозе сталых акрэсленых формул ці ў канкрэтных словах, якія выяўляюць абсалютна нязменны змест. Яно перадаецца ў такіх розных формах, што іх нельга апісаць ці сістэматызаваць» (папа Францішак, *Evangelii gaudium*, 129).

«Трэба мець адвагу знаходзіць новыя знакі, новыя сімвалы, новыя спосабы перадачы слова, новыя формы прыгажосці, якія з'яўляюцца ў розных культурных колах, у тым ліку з нязвыклымі формамі выяўлення прыгожага» (папа Францішак, *Evangelii gaudium*, 167).

У анатацыі да кнігі ксёндз Кшыштаф Бардскі піша: «Новая евангелізацыя, да якой заахвочваў нас св. Ян Павел II. Новая мова, новая наррацыя, новае бачанне рэчаіснасці папам Францішкам. Спрадвечная навізна Евангелля.

Прыгожае і незвычайнае апавяданне пра Езуса, які нарадзіўся і жыве ў XXI ст. Што кажа Ён пра розныя паводзіны людзей? Як увайшоў у сённяшнюю рэчаіснасць? Якое Яго жыццё і якая Яго дзейнасць? Наколькі Ён папулярны сярод людзей і наколькі Ён дзівак, не падобны да іншых, рэвалюцыянер ці рытуаліст?

Можна пайсці далей і паразважаць — перш чым зазірнуць у кнігу — як людзі ўспрынялі б Яго цуды і вучэнне пра палявыя лілеі і нябесных птушак, калі б Ён жыў сёння, сярод нас; як адзін з нас? Што б сказалі пра Казанне на гары з Яго словамі «благаслаўлёныя міласэрныя», і наколькі сур'ёзна было б успрынята Яго настаўленне пра любоў да ворагаў?

Запрашаем па-новаму зразумець сутнасць паслання Добрай Навіны пра Езуса Хрыста».

Прапануем увазе чытачоў некалькі кароткіх апавяданняў аўтара ў перакладзе на беларускую мову. Паспрабуем крыху ўявіць, што было б, калі б Езус нарадзіўся сёння, і не ў Бэтлееме, а дзесьці ў Беларусі…

*Марына Пашук*

---

[1] Ст.-грэц. ἀπό-κρῠφος (ἀπό ʻадʼ + κρύπτω ʻпішуʼ) — схаваны, скрыты, патаемны, таемны.

[2] Аднаактавая драма на біблійны сюжэт была напісана па-французску ў 1891 г. — «Salomé» — спецыяльна для Сары Бернар, якую О. Уайльд называў «змяёй старажытнага Ніла». У Лондане яе забараніла цэнзура. П'еса была надрукавана ў 1893 г., а ў 1894 г. выйшаў яе пераклад на ангельскую мову з ілюстрацыямі Обры Бёрдслі. Упершыню спектакль па гэтым творы быў пастаўлены ў Парыжы ў 1896 г. У аснове сюжэта — гісторыя смерці біблійнага прарока Яна Хрысціцеля (у п'есе ён названы на габрэйскі манер Ёхананам), пра якую згадвае евангельскі тэкст (Мц 14, 1–12). Версія драматурга адыходзіць ад кананічнага тэксту і пераносіць падзеі ў часы аўтара.

[3] Кшыштаф Бардскі нар. 28 студзеня 1962 г. у Варшаве. У 1980–1981гг. вывучаў ангельскую і нямецкую філалогію ў Лісабонскім універсітэце. Там жа займаўся на курсах габрэйскай і арабскай мовы і культуры, вывучаў санскрыт і індыйскую культуру. У 1987 г. стаў магістрам тэалогіі і атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне. Праз год абараніў ліцэнцыят па тэалогіі, а ў 1988 г. распачаў вучобу ў Папскім Біблійным Інстытуце ў Рыме. У 1990 г. атрымаў *Diplôme d'Etudes françaises*, а таксама *Diplôme de Langue française (niveau III–2)* у Парыжскім Каталіцкім Інстытуце. Ліцэнцыятам біблійных навук стаў у 1991 годзе. У 1993 г. вывучаў габрэйскую мову на інтэнсіўных курсах (г. зв. Ulpan) у Ерузалеме, а таксама юдаізм у Інстытуце Пьера дэ Рацісбона. Прымаў удзел у археалагічных раскопках у Beth-Gimal. У 1997 г. абараніў з адзнакаю *summa cum laude* доктарскую працу з біблійных навук у Папскім Біблійным Інстытуце ў Рыме. Ступень доктар габілітаванага ў галіне тэалогіі біблійнай атрымаў у 2004 г., а ў 2006 г. стаў прафесарам надзвычайным. Прэзідэнт Польшчы ў 2012 г. надаў яму тытул прафесара, а ў 2013 г. ён стаў прафесарам звычайным.

[4] Сама назва «Е-вангелле» падкрэслівае сучасны характар перадачы евангельскага паслання як «добрага, радаснага паведамлення» сёння – *e-mail*-а (*заўвага перакладчыка*).

---

**Марына Пашук** – доктар біблійнай тэалогіі, супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993), Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998) і Універсітэт імя кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (2016).




Кс. Кшыштаф Бардскі каля помніка Сымону Буднаму ў Нясвіжы. Ліпень 2018 г.

Кс. Кшыштаф Бардскі

# Е-ВАНГЕЛЛЕ[1]

## А КАЛІ Б ЕЗУС НАРАДЗІЎСЯ СЁННЯ?

**Выпрабаванне**

Летам Езус узяў з сабою намёт, карэмат і спальнік і адправіўся ў самотную вандроўку на Палессе. Калі пасля сарака дзён, апынуўшыся на Прыбужскай раўніне, сеў на траву ля сцежкі, падышоў да Яго д’ябал і пачаў размову:

— Ты марнуеш тут час. Хадзі, я пакажу Табе штосьці.

І перанёс Яго ў Галівуд ды паставіў на Алеі славы.

— Павер у сябе! — сказаў. — Ты абсалютна выключны. Маеш большы талент за ўсіх гэтых актораў, рэжысёраў, сцэнарыстаў разам узятых. Можаш зацьміць іх!

І дадаў:

— Станеш не толькі славутым, але будзеш фарміраваць сумленне чалавека. Зробіш такі фільм, што багатыя пачнуць дзяліцца з беднымі, знікне голад і несправядлівасць. Гэта ж Цябе хвалюе, ці не так?

Д’ябал даў Езусу хвіліну на роздум, пасля чаго сказаў:

— Дастаткова толькі дамовіцца з адпаведнымі вытворцамі. Я дапамагу Табе ў гэтым!

— Адчапіся! — кінуў у адказ Езус. — Не буду супрацоўнічаць з табою, нават калі гаворка ідзе пра слушную справу!

Тады д’ябал перанёс Езуса на Уол-стрыт[2] і паказаў Яму індэксы сусветных фондавых біржаў.

— Я ўсім гэтым запраўляю, — сказаў. — Калі адкрыеш мне свой розум, я адкрыю Табе самыя патаемныя дэталі біржавых гульняў. Ты заробіш такія грошы, што зможаш фінансаваць дабрачынныя справы і праекты аховы здароўя ў краінах Трэцяга свету.

— Адчапіся! — крыкнуў Езус. — Не адкрыю свой розум перад табою! Толькі перад Маім Айцом!

Калі д’ябал пачуў гэта, паставіў Езуса на базыліцы св. Пятра ў Рыме.

— Бачыш, — сказаў. — Ужо дзве тысячы гадоў гэтыя людзі абвяшчаюць Евангелле. І што? Не змаглі вярнуць да Бога паловы чалавецтва. А я ведаю, які зрабіць цуд, каб увесь свет паверыў у Цябе імгненна. Хадзі, скажу Табе.

— Не хачу цябе слухаць, і Мне не патрэбны твае цуды! — адказаў Езус. — Ідзі прэч!

Тады д’ябал уцёк, і анёлы акружылі Езуса бляскам хвалы. Лясныя звяры выйшлі са сваіх норак і пакланіліся Яму. Барсукі, вожыкі, божыя кароўкі і матылі сталі вакол Езуса і радаваліся Яго прысутнасці.



— Твая праўда, — адказаў Езус. — Але не толькі ты церпіш з-за карупцыі. Ты кемлівы і прыдумаеш, як кампенсаваць свае выдаткі. Аднак падумай пра тысячы беспрацоўных, хворых, прыгнечаных працадаўцамі работнікаў. Гэта яны найбольш церпяць з прычыны карупцыі.

І дадаў:

— Менавіта яны будуць патрабаваць кампенсацыі ў доме Майго Айца. Запэўніваю, што кожны, хто несправядліва прыўлашчыў чужыя грошы, плён цяжкой працы, верне ўсё да капейкі. І пры гэтым з улікам адсоткаў.

### Пра падатак

Набліжаўся сакавік, і ўсе размаўлялі пра надыходзячы тэрмін аплаты падаткаў. Тады падышоў да Езуса кіраўнік малога сямейнага бізнеса і сказаў:

— Настаўнік, Ты для мяне з'яўляешся маральным аўтарытэтам. Скажы, што мне рабіць? Мой бізнес ледзь выжывае. Даходаў ледзь хапае, каб выплаціць крэдыты. Я павінен утрымліваць вялікую сям'ю і забяспечыць усім годныя ўмовы жыцця. Ці мог бы не падаваць некаторыя даходы ў падатковай дэкларацыі? Хачу дабра для маёй жонкі і дзяцей…

Езус затрымаўся і апусціў галаву.

— Ці бачыш гэты ходнік? — спытаўся. — Гэтую плітку, па якой ходзіш?

— Бачу, Пане.

— Хіба яе паклала твая сям'я і ці будзе яна рамантаваць гэты ходнік, калі ўзнікне такая неабходнасць?

— Ну, не…

— А ці бачыш вунь той мост? Хто фінансаваў яго будоўлю?

— Здаецца, гэта грошы з дзяржаўнага бюджэта…

— Менавіта, — сказаў Езус. — Таму паступай сумленна і плаці належныя падаткі.

Бізнесовец, аднак, не здаваўся і кінуў у адказ:

— Але ж і так палова гэтых грошай ідзе ў кішэню чыноўнікаў і на хабар. Столькі інвестыцый даўно павінны быць закончаныя. Ці гэта справядліва?

Так адказаў, бо нядаўна выкрылася чарговая гучная справа карупцыянераў, у якой былі замешаны высокія чыноўнікі.

### Малітва

Пры ўваходзе ў метро былі развешаны плакаты з інфармацыяй пра нейкага гуру, які прыязджае ў Мінск весці курс ёгі. Гэта зацікавіла вучняў Езуса, і яны сказалі Яму:



— Езу, навучы нас якім-небудзь малітоўным тэхнікам. А можа лепш маліцца традыцыйна, як вучаць святары? Ці лепш спантанна, як у пяцідзясятнікаў ці ў харызматычным руху адновы ў Духу Святым? А можа з большым забыццём і павагаю, як у Праваслаўнай Царкве?

— Няма дасканалага ўзору і рэцэпта для сапраўднай малітвы, — адказаў Езус. — Кожны з нас непаўторны, таму няма аднаго спосабу малітвы. Аднак, калі так моцна настойваеце, то Я дам вам прыклад. Можаце маліцца так:

Божа, Ты — як нашая маці,
якая бязмежна любіць
нас бескарыслівай любоўю,
нягледзячы на нашую няўдзячнасць,
дурноту і эгаізм.
Якая надзвычай шчодра адарыла нас,
дала кожнаму з нас непаўторны
генетычны код,
твар, сэрца і колер вачэй.
Навучы нас быць чулымі, далікатнымі
і пяшчотнымі,
а больш за ўсё навучы нас спачуваць
кожнаму чалавеку
і кожнай жывой істоце.
І не дазволь, каб мы жылі толькі для сябе,
аслепленыя сваім эгаізмам
і занураныя ў свае патрэбы,
але паказвай нам свой любячы твар
у кожнай сітуацыі нашага жыцця.



## Прыпавесць пра адносіны людзей

Адзін з настаўнікаў падышоў да Езуса і распачаў з Ім размову:

— Ужо шмат гадоў я вучу ў школе і хацеў бы як найлепш выхоўваць маладое пакаленне. Перадаю ім веды, маральныя прынцыпы, пашану да Бога і Айчыны. Імкнуся даваць прыклад прыстойнага і сумленнага грамадзяніна. Ці гэтага дастаткова?

Езус адказаў Яму пытаннем:

— А ці вучыш іх бачыць у кожным чалавека?

Той адказаў:

— Што гэта значыць: бачыць у кожным чалавека?

Тады Езус расказаў такую прыпавесць:

— Адзін студэнт позна ноччу вяртаўся дадому. Раптам яму насустрач выскачылі з брамы дома двое мажных мужчын. Збілі яго, забралі сумку і фірмовую куртку ды пакінулі ляжаць на ходніку.

Праходзіў там пачцівы айцец сямейства, які вяртаўся з працы. Паглядзеў і падумаў: «Напэўна, нейкі п’яніца», і пайшоў далей. Таксама святар, вяртаючыся з вячэры ў знаёмых, бачыў яго, але прайшоў міма.

Праз некаторы час праходзіў міма эмігрант з Усходу, які працаваў чорнарабочым у адным з рэстаранаў. Спяшаўся на працу, бо да раніцы павінен быў усё прыбраць, памыць падлогу і вокны. Аднак, калі ўбачыў пабітага студэнта, пашкадаваў яго. Схіліўся, каб пераканацца, ці ён жывы, а пасля выклікаў таксі і завёз яго ў найбліжэйшы шпіталь. Заплаціў за неабходныя лекі і папрасіў аказаць яму медыцынскую дапамогу. Хто з іх усіх убачыў чалавека ў пабітым студэнце?

— Зразумела, эмігрант з Усходу! — тут жа адказаў настаўнік.

— Правільна, — адказаў Езус, — так мала трэба, каб быць проста чалавекам для іншых.

*Пераклад з польскай мовы Марыны Пашук.*

*Малюнкі Уладзіміра Вішнеўскага.*

[1] З дазволу аўтара варшаўскія рэаліі заменены беларускімі (*заўвага перакладчыка*).

[2] Назва невялікай вузкай вуліцы (англ. *Wall Street*) у ніжняй частцы Манхэтана ў Нью-Ёрку, якая вядзе ад Брадвея да ўзбярэжжа праліва Іст-Рывер. Лічыцца гістарычным цэнтрам Фінансавага квартала горада. Галоўная славутасць вуліцы — Нью-Ёркская фондавая біржа (*заўвага перакладчыка*).

Ірына Зварыка

# Выстава «Сакральная культура Касцёла Беларусі»

Выстава «Сакральная культура Касцёла Беларусі» не абмяжоўваецца паказам твораў выяўленчага мастацтва — яна дае магчымасць убачыць культуру касцёльнага жыцця і ў іншых праявах. У гэтым артыкуле мы наводзім «фокус» на кніжную і музычную культуру Касцёла.

Кніжны шэраг у акрэсленай тэме яскрава прадстаўлены адборнымі, шырокага спектру і, падкрэслім асобна, візуальна вельмі прывабнымі выданнямі. Асноўны іх масіў склалі кнігі са збору Нацыянальнага гістарычнага музея. Група кніг з прыватных збораў і рэгіянальных касцёлаў (касцёл св. Юзафа ў в. Рубяжэвічы Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці; касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці) прыўнесла дадатковы акцэнт у гэты шэраг.

Кнігі камфортна размеркаваліся ў дзвюх гарызантальных вітрынах, кожная з якіх набыла індывідуальнае аблічча і свой эмацыянальны настрой. У першай вабяць сваёй урачыстасцю прадстаўнічыя кнігі, набраныя кірылічнымі шрыфтамі, зручнымі для чытання, падобнымі да праваслаўных выданняў. Аднак гэта два ўзоры друкаў для католікаў візантыйскага абраду, альбо грэка-католікаў. Першая з кніг — канвалют (зборнік) літургічных выданняў 1-й трэці XVIII ст., надрукаваных у слыннай Супрасльскай друкарні. Прывядзём апрацаваныя даследчыкам назвы выданняў, што ўвайшлі ў канвалют: «1) Октоих си ест Осмогласник: Творение пр[е]п[о]добнаго отца н[а]шего Яна Дамаскина. Всесилнаго в Тро[и]ци Б[о]га Бл[а]г[о]д[а]тию, Бл[а]г[о]слав[е]ниемъ Вселенскаго Архиерея Венедикта Папы Римскаго.Типомже Иноковъ Супрасльскго Чину С[вя]таго Василия Великаго изданный. Року 1728; 2) Апограф, или Слог чинный Вечерних и Оутрених пений. Б. в. д. [Супрасль, 1-я трэць XVIIIст.]; 3) Доксастикон се есть Песнославник нарочитый. Б. в. д. [Супрасль, 1-я трэць XVIIIст.]; 4) Месяца септемврия в 16 день Служба святому священномученику Иосафату».

Даследчык Юры Лаўрык каментуе: «Пакольки згаданыя выданні найчасцей выступаюць пад адной аправай і менавіта ў такім складзе, хутчэй за ўсё, канвалют мае выдавецкі характар — то бок, усе гэтыя кнігі былі злучаныя ў зборнік самімі выдаўцамі». З гэтых чатырох, змешчаных пад адной аправай выданняў, асаблівую цікавасць мае Актоіх (зборнік літургічных песнапенняў), датаваны 1728 годам, які сведчыць пра тое, што ў яго афармленні браў удзел Лявон Тарасевіч, выдатны гравёр, творчасць якога прызнана неардынарнай з'явай у мастацтве беларускай кірылічнай кнігі. На жаль, прадстаўлены асобнік пазбаўлены ўсіх гравюраў.

Другі выдатны асобнік з Супрасльскай друкарні айцоў базыліянаў — Літургіён, альбо Службоўнік, дапаможнік для святароў па выкананні царкоўных службаў у грэка-каталіцкіх цэрквах, што пабачыў свет у 1763 г.: «Леитоургиарион си есть Служебник. Вторицею Типом же издаден в Общежительном М[о]н[а]ст[ы]ре Супрасльском Чина С[вя]таго Василия Великаго в Лето Господне 1763 г.»

Рэмарка даследчыка (Ю. Лаўрыка): «…найбольш шырока распаўсюджанае ў XVIII ст. на Беларусі літургічнае выданне. Дадзены асобнік рэпрэзентуе перапрацаваную рэдакцыю, падрыхтаваную на загад мітрапаліта Феліцыяна Валадковіча». Гэтая заўвага аб перапрацаванай рэдакцыі адсылае да праблемаў ўніяцкай Царквы, якія ўзніклі пасля прыняцця ў 1596 г. царкоўнай Уніі[1].

Побач з кірылічнымі годна ляжаць два імпазантныя лацінскія фаліянты, дэманструючы выдатнай якасці медзярыты. У канвалюце з двух твораў аўтарства арцыбіскупа італьянскага горада Равэнны Джыраламо Крыспі змешчаны зборнік яго казанняў-разважанняў паводле чытанняў са Святога Пісання (гамілій) за 1721–1725 гг. і яго ж ліст да Рымскага Папы Бэнэдыкта XIII.

**Ірына Зварыка** — вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася ў Мінску. Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў (1974 г.). Аўтар навуковай канцэпцыі выставы «Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага» (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; май 2002 г. — май 2003 г.); укладальнік і суаўтар аднайменнага каталога выставы (Мінск, Юніпак, 2003 г.). Аўтар навуковай канцэпцыі міжнароднай выставы «Слуцкія паясы» (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; кастрычнік 2005 г. — студзень 2006 г.); укладальнік і суаўтар каталога «Слуцкія паясы» (Мінск, Юніпак, 2008 г.). Аўтар навуковай канцэпцыі экспазіцыі «Беларусь XVI—XVIII стагоддзяў у партрэце і геральдыцы» (Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь). Аўтар навукова-даследчых публікацый у зборніках: «Музейны веснік» (вып. 1, 2003; вып. 2, 2005; вып. 3, 2006; вып. 5, 2011; вып. 6, 2018: Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь); Матэрыялы X Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Беларусі XVI — сярэдзіны XVII ст.: да 440-годдзя выдавецкай дзейнасці Мамонічаў» (17—18 красавіка 2014 г. НББ) і інш.



Імшал 1927 г. з касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Будслаў, Мядзельскі раён Мінскай вобласці.



Рукапіс паводле твораў тэолага Яна Дунса Шкота. Вільня, 1753 г.

1) Crispi, Girolamo. Omilie di Monsignor Girolamo Crispi gia' Arcivescovo di Ravenna, Dette al suo Clero, e Popolo nelle principali Festivita dall'anno 1721, fin al 1725 = Hieronimi Crispiolim Archiepiscopi Ravennatis, Homiliae Ad suum Clerum, Popolumque habitae inter Missarum solemnia, ab anno MDCCXXI usque ad annum MDCCXXV. Edition secunda. Romae: Typis Antonii de Rubeis, MDCCXXXIII; 2) Ad Sanctissimum Dominum Nostrum Benedictum Tertiodecimum Ordinis Praedicatorum P.O.M. Hieronimi Crispi Ferrariensis de Comitibus Montis Alti Archiepiscopi Ravennatis Epistola. S. l. &a.

Канвалют: 1) Крыспі, Джыраламо. Гамілії мансіньёра Джыраламо Крыспі, былога арцыбіскупа равенскага, да свайго клеру і народу падчас урачыстага адпраўлення святой Імшы з 1721 па 1725 гг. Рым, 1733 г. ; 2) Ліст да Найсвяцейшага нашага спадара Бэнэдыкта XIII з ордэну дамініканаў ад Джыраламо Крыспі Ферарскага, з графаў Монтальтумскіх, арцыбіскупа равэнскага. Б. в. д.

Выдадзеныя гаміліі служылі ўзорам красамоўства. Змест ліста да Рымскага Папы нам не вядомы, аднак менавіта гэты ліст праз постаць папы Бэнэдыкта XIII ускосным чынам звязвае гэты зборнік з супрасльскімі выданнямі[2].

Суседні канвалют лацінскага друку аб'яднаў пад сваёй аправай тры выданні: Рымскі Імшал, Службы святым трох ордэнаў (абодва надрукаваны ў Венецыі каля 1781 г.) і Розныя службы каталіцкім святым, шанаваным у колішніх Каралеўстве Польскім і Вялікім Княстве Літоўскім (друк канца XVIII ст.)

Канвалют: 1) Missale Romanum. [Venetiis: apud Nicolaum Pezzana, ca 1781]; 2) Missae propriae Sanctorum Trium Ordinum Fratrum minorum. Venetiis: apud Nicolaum Pezzana, s. a. [ca 1781]; 3) Miscelanea…

Канвалют: 1) Рымскі Імшал. Венецыя: др-ня Міколы Пеццана, к. 1781 г. [Тытульны ліст з выходнымі звесткамі страчаны]; 2) Службы святым трох ордэнаў братоў меншых. Венецыя: др-ня Міколы Пеццана, б. г. [к. 1781]; 3) Розныя службы каталіцкім святым, што ўшаноўваліся на тэрыторыі колішніх Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

«Прапанаваны для агляду асобнік, — каментуе даследчык Ю. Лаўрык, — належаў бэрнардынскаму канвенту ў Будславе, дзе не раз дапаўняўся рознымі службамі айчынным святым, выдадзенымі напрыканцы XVIII ці ў першай палове XIX ст. на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай».

Манументальнасць і статычнасць, якія сыходзяць ад фаліянтаў-канвалютаў, змяняюцца дынамізмам кішэннага фармату кніжак і кніжачак XIX — пачатку XX ст. У асноўным гэта польскамоўныя зборнічкі літургічных і малітоўных тэкстаў, прыгожа аздобленыя і зручныя для карыстання: Szczegółowe przygotowanie do Spowiedzi świętej dla dzieci.Warszawa, 1918.; Złoty ołtarzyk… Wilno, 1902.;



Канвалют (зборнік) літургічных выданняў. 1-я трэць XVIII ст. Супрасльская друкарня. Літургіён, альбо Службоўнік. 1763 г. Супрасльская друкарня.




Гравюра: сцэна благаслаўлення горада ў зборніку казанняў 1721–1725 гг. Джыраламо Крыспі.
Гравюра: сцэна Уваскрасення Пана ў зборніку літургічных выданняў (Рымскі Імшал і інш). 1781 г., Венецыя.

Głos duszy. Zbiór nabożeństwa katolickiego… w Wilnie, 1868.; Służba Boża czyli Nabożeństwo domowe i kościelne… Częstochowa, 1874. Аднак сярод іх вылучаецца дзіўная лацінка: Holas Dušy; Padručnik życciapraktyki relihijnej dla bielarusaŭ; Boh z nami; Bielaruski madlitoŭnik. Гэта беларуская лацінка пачатку XX ст., перыяду першай хвалі беларускага нацыянальнага Адраджэння. Зборнічак «Голас душы» («Holas Dušy»), створаны Канстанцінам Стэповічам (1890–1924), ксяндзом і паэтам, вядомым пад псеўданімам Казімір Сваяк. Дэманструецца яго чацвёртае выданне, ажыццёўленае ў Рыме ў 1949 годзе. Кішэнны малітоўнік «Бог з намі» («Boh z nami») падрыхтаваў і выдаў у 1915 г. у віленскім выдавецтве Znič (Зніч) — Баляслаў Пачобка (1884–1940), каталіцкі святар візантыйскага абраду, настаўнік і рэлігійны публіцыст, актыўны дзеяч беларускага Адраджэння. Гэты асобнік з'яўляецца рэпрынтам 1993 г., выдадзеным у Мінску. У гэту кніжную прастору гарманічна ўпісаліся брашура «Літанія да Найсвяцейшай Панны Марыі» (Мінск, 1992 г.) і рускамоўны Каталіцкі катэхізіс С. Тышкевіча. Арыгінальны асобнік гэтай кніжкі быў выдадзены ў 1935 г. у Харбіне (Кітай). На выставе — рэпрынт 1992 г. (Жоўква, Украіна)[3].

Гэта быў экскурс па адной з кніжных вітрынаў. Другая вяртае ў XVIII ст. У ёй каралюе рукапісны нотны зборнік «Гадзіны» да Найсвяцейшай Панны Марыі на ўвесь тыдзень для ўжывання ў ордэне св. Брыгіты (Godziny na cały tydzień zakonowi S. Brygidy reguły S. Salwatora…). Манускрыпт, створаны ў 2-й палове XVIII ст., належаў жаночаму кляштару ордэну брыгітак у Гродне. Згодна з ордэнскім статутам, хваласпевы ў гонар Панны Марыі выконваліся строга ў адпаведныя гадзіны сутак. Уражваюць памеры манускрыпта, нязвыклы характар напісання нотаў і адчуванне нейкае таямніцы. Лацінамоўны, 2-й паловы




Фрагмент вітрыны з кнігамі XIX–XX стст.



Рукапісны нотны зборнік «Гадзіны» з кляштара брыгітак у Гродне. 2-я пал. XVIII ст. Гродна.
Зборнік прынагодных набажэнстваў «Рымскі рытуал». 2-я пал. XVII – пач. XVIII ст.

XVII — пачатку XVIII ст. «Рымскі рытуал» (Rituale Romanum), што ляжыць побач, — таксама зборнік прынагодных набажэнстваў з нотамі і каментарыямі. Кніга бытавала на беларускіх землях. Яе тытульны ліст з выходнымі звесткамі страчаны. Магчымае месца выдання — Кракаў.

Назавём іншыя выданні, што прадстаўлены ў вітрыне:

— Святая Біблія. Частка другая, якая змяшчае прарокаў з дадаткам Кніг Макавеяў і Новы Запавет (Sacrorum Bibliorum Pars Altera completens Prophetas…). На лацінскай мове. 1740 г., Антвэрпэн;

— Амброс Нешпаровіч. Майстэрня аздобаў, што найважнейшыя тытулы ды панегірыкі Панны і Богамаці Марыі тлумачаць (Ambrosium Nieszporkowitz. Officina emblematum, quae praecipuos Virginis, &Matris Dei Mariae Titulos). На лацінскай мове. 1691 г., Кракаў;

— Самуэль Высоцкі. Слава дастахвальнага ў святых сваіх Бога і святых, Богу мілых… Том 1 (Samuel Wysocki. Chwała Chwalebnego w Swiętych swoich Boga, y Swiętych w Bogu uwielbionych…). На польскай мове. 1747 г., Варшава.

Усе названыя кнігі дэманструюць сваю годнасць, ствараюць адчуванне іх поўнай самадастатковасці. Аднак яшчэ адна, пакуль не названая, выбіваецца з эмацыянальнай раўнавагі пералічаных вышэй фаліянтаў. Увагу прыцягвае тоўсты, раскрыты быццам кніга, рукапіс у зручным кніжным фармаце ў чвэрць аркуша і, як кніга, узяты ў аправу. Почырк бездакорны, выразны і надзвычай дробны — бісерны. Тэкст — лацінскі. Гэта канспект лекцый па курсе, прысвечаным кнігам тэолага Яна Дунса Шкота (каля 1266–1308). Курс праводзіў лектар Вінцэнт Сапліца ў кляштары бэрнардынаў у Вільні ў 1753 годзе. Апроч таго, у рукапісе занатаваны і непасрэдны тэкст кніг (альбо вытрымкі з іх). Прывядзём фрагмент першай старонкі рукапісу з тлумачальнымі звесткамі — у арыгінале і ў перакладзе. Sacra Theologia Speculativa: 1) 1) Liber primus Sententiarum de Deo uno et Trino Iuxta mentem Doctoris



Нотны альбом з запісам верша Якуба Коласа «Не бядуй!».

Subtiliset Mariani in C[onven]tu Custodiali Vilnensi explanatus ac in[c]hoatus s[ub] Superioratu ARPris Francisci Sawicz Anno D[omi]ni 1753 D[ie] 4 Mensis novembris; 2) Theologia Scholastica In secundum librum sententiarum iuxta mentem Doctoris Subtilis et Mariani in[c]hoata explanari Vilnae sub Superioratu ARP Francisci Sawicz Lectoris Jubilati, ex Ministri Provin[cia]lis, p[er] AVPr[um] Vincentium Saplica S[acrae] T[heologiae] Lector[em] G[e]n[era]lem Anno D[omi]ni 1753 D[ie] 4 Mensis 9bris. Vilnae, ca 1753.

Святая тэалогія: 1) Першая кніга курсу пра Бога ў Тройцы Адзінага паводле Яна Дунса Шкота, у кустадыяльным канвенце віленскім выкладанага, а распачатага пры суперыёрстве Найвялебнейшага Францішка Савіча Году Панскага 1753 у 4 дзень месяца лістапада; 2) Схаластычная тэалогія ў 2-й кнізе курсу паводле Яна Дунса Шкота, што быў пачаты выкладацца пры суперыёрстве Найвялебнейшага Францішка Савіча, лектара-юбілята, экс-правінцыяла, Прывялебным Вінцэнтам Сапліцам, Святое тэалогіі лектарам генеральным, Году Панскага 1753 у 4 дзень месяца лістапада. Вільня, к. 1753 г.Вільня, к. 1753 г. *(апрацоўка арыгінальнага тэкставага фрагмента і яго пераклад Юрася Лаўрыка).*

Рукапіс гэты ўражвае і кранае. Стварэнне яго патрабавала ад выканаўцы надзвычайнага напружання і цярплівасці. На думку аўтара перакладу, «у XVIII ст. кніга належала брату Рэгулятусу Дабравольскаму, які, верагодна, яе спісаў і ўзяў у аправу». Для падобнага дзеяння мусіла быць моцная матывацыя[4].

Багаслоўскія штудыі былі звычайнай практыкаю на землях былога ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У канцы XVIII — першай палове XIX ст., пасля масавага скасавання кляштараў, дзе развівалася духоўнае інтэлектуальнае жыццё, філасофская тэалагічная думка на землях Беларусі заняпала, на шчасце, не назаўжды[5].

Імшал 1927 г. разам з манстранцыяй 1783 г. і арнатам з устаўкамі са слуцкіх паясоў 30-х гг. XX ст. стварылі кампазіцыю асобнай вітрыны. Усе названыя прадметы прыбылі на выставу з касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, што ў вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Сегмент музычнай касцёльнай культуры на выставе, па тэхнічных прычынах, прадстаўлены досыць сціпла — у адной вітрыне[6]. Тым не менш, тое, што выстаўлена для агляду, дэманструецца ўпершыню, і гэта надзвычай цікавыя артэфакты, якія некалькімі штрыхамі, эскізна абмалёўваюць стан айчыннай касцёльнай музыкі ў сярэдзіне XIX – 1-й пал. XX ст. Прадстаўленыя матэрыялы — ноты і нотныя зборнікі — належаць Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і прыватнаму збору Святланы Шэйпы, даследчыцы музыкі, кандыдата мастацтвазнаўства. У прадстаўленых нотных зборніках занатаваныя духоўныя творы як сусветных класікаў — Палестрыны, Моцарта, Гайдна, Бетховена, Манюшкі і іншых аўтараў, так і сачыненні таленавітых рэгіянальных кампазітараў, сярод якіх арганісты: Станіслаў Вайткевіч, А. Вялічка, Эдвард Гірдо, Яўхім Глінскі, Юзаф Грым.

Памерам і каларытнасцю сваёй вокладкі прыцягвае ўвагу партытура для чатырохгалосага змешанага хору ў суправаджэнні аргана — «Ecce lignum crucis» («Вось дрэва крыжа»). Аўтар музыкі — Станіслаў Манюшка (1819–1872). Твор не літургічны, для канцэртнага выканання, выклікае моцнае эмацыянальнае ўзрушэнне, адпаведнае настрою Вялікай пятніцы — смутку, калі перажываюцца мука і смерць Хрыста. Аднак рукапіс, які займае 8 старонак і напісаны чорным і чырвоным чарнілами, выкананы рукою Эдварда Гірдо, кампазітара і арганіста касцёла Божага Цела ў Нясвіжы[7]. Гэтай выдатнай асобе меркавалася прысвяціць асобную вітрыну, але, на жаль, не атрымалася. Аднак можна ўбачыць яго аблічча на арыгінальнай фотакартцы, што ляжыць на яго рукапісным нотным зборніку твораў касцёльнага рэпертуару, складзеным у 1920–1930-я гг. у Эйшышках, вёсцы на Віленшчыне (цяпер — тэрыторыя Літоўскай Рэспублікі). Творы Манюшкі часта сустракаюцца ў нотных альбомах Гірдо і іншых яго калегаў-арганістаў. Гэтыя прафесійныя музыканты ў сваёй творчасці кіраваліся прынцыпамі, закладзенымі стваральнікамі руху св. Цэцыліі, натхняльнікамі якога на землях Беларусі і Літвы былі кампазітары Станіслаў Манюшка і Фларыян Міладоўскі[8].

Творчасць Э. Гірдо прадстаўлена яшчэ двума нотнымі сшыткамі. У адным з іх, «Zeszyt do Nut» (1920–1930-х гг.), знаходзяцца творы кампазітара, падрыхтаваныя для ўдзелу ў конкурсе патрыятычнай песні, пра што сведчыць надпіс на фіялетавай вокладцы. У другім, «Śpiew kościelny Soprano» (1-я пал. XX ст.), з белаю фігурнаю налепкаю на вокладцы, змешчаны сачыненні кампазітараў Палестрыны, Манюшкі, Любомічкі і самога аўтара запісаў.

Разлінаваныя нотныя альбомы і сшыткі розных фарматаў купляліся ў крамах. Памеры некаторых з іх вельмі блізкія да памераў сучасных электронных планшэтаў, зручных для пераносу; імі лёгка было карыстацца ў дарозе. У адным з такіх запісана просьба невядомага арганіста да харыстаў дбайна абыходзіцца з нотамі: «Proszę bardzo szanować nóty / Dobry chórzysta poznaje się po jego poszanowaniu nót własnych / nie gnieć i w rolki nie zwijaj / Po odśpiewaniu oddaj p.Organiście».

Адзін з экспанатаў гэтай вітрыны выклікаў у стваральнікаў выставы незвычайнае здзіўленне: гэта нотны альбом пачатку XX ст., прывезены Святланай Шэйпаю з вандровак па былой Дзісненскай

шчыне — рэгіёне, дзе сутыкаюцца межы Беларусі, Літвы і Латвіі. Цвёрдая кардонная вокладка моцна пацёртая, на налепцы добра расчытваецца адзін з трох радкоў надпісу: «Harmonium Altum» («Фісгармонія Альтум»). Унутры, на старонках з нотнымі запісамі, — тэксты розных песняў, запісаных лацінкаю на розных мовах — літоўскай, рускай, латышскай і беларускай. Альбом разгорнуты на старонках з адным з такіх запісаў. Прывядзём некалькі радкоў у арфаграфіі арыгіналу:

Nie biaduj
Nie biaduj što sonce niska
    što prachodzić nudny dzień
Nie biaduj što wosień bliska
    što lehla na ziamlu cień.
Nie biaduj što sniech chałodny
    skryje ziamlu ad wačej,
Nie zahinie kraj twoj rodny
    ŭ ciemnacie lichich načej…

Гэта — хрэстаматыйны верш Якуба Коласа «Не бядуй!»[9]. Мяркуем, што першы ўладальнік альбома прыслухоўваўся да нацыянальных адраджэнскіх праяваў народаў гэтага краю.

Завяршае кампазіцыю вітрыны вертыкальна прымацаваны аркуш з лічбаваю выяваю старонкі са Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года: кірылічнымі літарамі тэкст урачыстага спеву «Багародзіца».

---

1 На працягу ўсяго першага стагоддзя і ў далейшым часе пасля ўтварэння хрысціянскай грэка-каталіцкай канфесіі яе вернікі і святары былі ў разгубленасці, бо не ведалі, напрыклад, як паводзіць сябе падчас літургічных службаў. Раней надрукаваныя альбо рукапісныя кнігі часта прыводзілі да розначытанняў і супярэчнасцяў, таму ўзнікла неабходнасць у друкаванні зусім новых альбо папраўленых кніг. Праблема паступова і паспяхова развязвалася дзякуючы названай у артыкуле вышэй друкарні Дабравешчанскага базыліянскага манастыра ў Супраслі. Хутка заняўшы месца сярод найаўтарытэтнейшых выдавецкіх цэнтраў ВКЛ, яна больш за 100 гадоў (1692–1803) забяспечвала літургічнымі кнігамі і разнастайнай асветніцкай літаратураю тысячы ўніяцкіх цэркваў і вернікаў Беларусі. Вялікую павагу выклікае той факт, што гэты маштабны рэлігійна-асветніцкі праект змог рэалізавацца дзякуючы ініцыятыве ўніяцкага іерарха, нараджэнца Полаччыны, Цыпрыяна Жахоўскага (1674–1693) і фінансавым складкам шараговых святароў. Што да выстаўленага Літургіёна, так прыгожа надрукаванага, ён з’явіўся ў хуткім часе пасля абрання царкоўнага дзеяча беларускага паходжання Феліцыяна Філіпа Валадковіча (1697–1778) Мітрапалітам кіеўскім, Галіцкім і ўсяе Русі (з 1762 г.)

2 У вельмі хуткім часе па сваім абранні Пантыфікам у 1724 г. папа Бэнэдыкт XIII падпісаў пастановы Замойскага Сабору, дакумента надзвычайнай важнасці для развіцця ўніяцкага веравызнання, у тым ліку для развіцця Супрасльскай друкарні.

3 Аўтар выдання, Станіслаў Міхайлавіч Тышкевіч (1887, Кіеўская губерня — 1962, Рым) — буйны тэолаг і філосаф, прадстаўнік слаўнага роду, граф, які абраў шлях духоўнага служэння спачатку як каталіцкі, затым як грэка-каталіцкі святар. У суаўтарстве з Марыяй Валконскай ён надрукаваў любімую многімі кнігу «Дон Боска — сябра беспрытульных». Названыя вышэй, рэпрынтныя, пачатку 1990-х гг. кніжачкі, адчынілі дзверы ў новы вялізны свет веры і айчыннай гісторыі.

4 Інтэрнэт-рэсурс дазволіў пазнаёміцца з уладаром думак аўтара рукапісу. Ян Дунс Шкот (Скот) (Johannes Duns Scotus) — манах францішканін шатландскага паходжання, сярэднявечны тэолаг, філосаф-схаласт. Аўтарытэт яго твораў не згасаў у стагоддзях. Яго кнігі тыражыраваліся ў скрыпторыях, выдаваліся ў друкарнях Венецыі і Рыма, папаўнялі бібліятэкі кляштараў і прыватных асобаў усёй Еўропы. Ян Дунс атрымаў мянушку «doctor subtilis» — «вытанчаны доктар», бо фармуляваў свае думкі вельмі неардынарна, праз ланцужкі лагічных збудаванняў, здабываючы тонкую аргументацыю, няпростую для разумення. Напрыклад, паводле Дунса, паняцце «існага» адносна Бога і Яго стварэнняў мае адзін і той самы сэнс (унівакацыю), іначай, у адваротным выпадку, гэта значыць пры пазнанні па аналогіі, усялякае сцвярджэнне ці адмаўленне Бога ёсць адвольным і не дае аніякіх ведаў пра Яго…Усялякія веды ўзнікаюць з узаемадзеяння аб’екта, які пазнаецца, і розуму, які спасцігае. Спасціжэнне абстрактнае і спасціжэнне інтуітыўнае: беспасрэднае веданне пра існаванне той ці іншай рэчы, калі з розумам узаемадзейнічае беспасрэдна тая ці іншая рэч, тут і цяпер, адначасова і цалкам — інтуітыўнае веданне; веданне пра сутнасць рэчы, пра тое, што яна з сябе ўяўляе — абстрактнае. У выпадку абстрактнага пазнання розум абапіраецца на розумаспасцігальныя формы, якія прадстаўляюць «агульную прыроду» рэчы… [1]. І гэтак далей. «Кіно», як кажуць, не для ўсіх. Тым не менш, брат Рэгулятус Дабравольскі, адзін са слухачоў курса, прачытанага ў 1753 г., верагодна, знайшоў у асобе сярэднявечнага тэолага Яна Дунса Шкота блізкія сабе матывы.

5 Як ні трагічна складаўся лёс нашай краіны далей і яшчэ далей, у канцы XX — пачатку XXI ст., пры першых кволых знаках свабоды, пры больш ці менш спрыяльных умовах гэтая, быццам бы назаўжды зніклая субстанцыя, ізноў мабілізавалася і заўважна сябе выявіла. Сведчанне таму — творчасць і грамадская дзейнасць сучаснага філосафа і доктара тэалогіі Ірыны Дубянецкай, а ў больш шырокім, свецкім кантэксце — прадстаўнічы спіс імёнаў беларускіх інтэлектуалаў, сабраных у «Анталогіі сучаснага беларускага мыслення» [2], [3]. Дух тэалагічных штудый XVI–XVIII стагоддзяў у нашых краях не згінуў марна.

6 Беларуская каталіцкая музычная культура, якая пачала развівацца з канца XIV ст. з пашырэннем дзейнасці каталіцкіх ордэнаў на землях ВКЛ, мела разнастайныя формы — ад аднагалосага мужчынскага грыгарыянскага спеву, арганнага выканальніцтва да шматгалосых месаў і сімфанічнай касцёльнай музыкі. «Адна са з’яў гэтай культуры — песьні беларускага касцёлу» [4].

7 Эдвард Гірдо (2-я пал. XIX ст. – пасля 1947 г.) – кампазітар і арганіст касцёла Божага Цела ў Нясвіжы, адзін з найбуйнейшых кампазітараў касцёльнай музыкі 1-й паловы XX ст. Яго багаты рукапісны нотны архіў, які складаў асобную частку архіўнага комплексу з нясвіжскага касцёла, у 1997 г. быў перададзены ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Багатую, але забытую спадчыну кампазітара адкрыла даследчыца музыкі Святлана Шэйпа, якая ажыццяўляла ўласныя пошукі касцёльнай музычнай спадчыны ў розных рэгіёнах Беларусі і замежжа. Песні Э. Гірдо мае ў сваім актыўным рэпертуары хор «Залатая Горка» касцёла св. Роха (Св. Тройцы) у Мінску. Рэгент хору – С. Шэйпа [5].

8 У канцы XVIII ст., пасля канчатковага далучэння земляў ВКЛ да Расійскай імперыі, у выніку мэтанакіраваных дзеянняў царскага ўраду па знішчэнні каталіцкай канфесіі пераважная большасць ордэнскіх кляштараў, цэнтраў каталіцкай адукацыі, была скасавана, што прывяло, у тым ліку, да заняпаду касцёльнай музыкі і спеваў. У касцёлах запанавалі адсутнасць ці недахоп арганістаў і сяброў хору, дылетантызм і аматарства сярод тых, хто спрабаваў нешта падтрымліваць. У 30-я гг. XIX ст. стала зразумелым, што так прымітыўна, не ў лад размаўляць з Богам, выконваючы малітоўныя спевы, нягодна. Адказам на такое становішча з’явіўся несанкцыянаваны музычна-адраджэнскі рух адукаваных музыкантаў, мэтаю якіх было развіццё якасці спеўнай і інструментальнай культуры Касцёла праз дабрачыннае павышэнне кваліфікацыі кадраў, стварэнне вартасных сачыненняў, фармаванне рэпертуару, выданне і распаўсюджванне спецыяльнай асветніцкай літаратуры па праблемах касцёльнай музыкі. Рух дабрачынных музычных суполак (таварыстваў), які ахапіў усю Цэнтральную Еўропу, атрымаў імя св. Цэцыліі, даўняй апякункі музыкі і музыкантаў. Неацэнную ролю ў яго стварэнні і развіцці на землях Беларусі і Летувы адыгралі Станіслаў Манюшка і Фларыян Міладоўскі. Рух дзейнічаў да канца XIX ст. і даў бліскучыя вынікі [6], [7].
У гэтай сувязі важна ўзгадаць, што ў Мінску, у касцёле св. Роха (Св. Тройцы) на Залатой Горцы, на працягу 26-ці гадоў (1871–1897) дзейнічала вучэльня арганістаў [8]. Праз 100 гадоў, у канцы 1991 г., менавіта тут былі падрыхтаваны ўсе фарматы прапановы на конкурс па стварэнні новага дзяржаўнага гімна з тым, каб стварыць спеў вершаў Наталлі Арсенневай на музыку Міколы Равенскага «Магутны Божа» гімнам Рэспублікі Беларусь. Перададзеныя ў Міністэрства культуры клавіры для хору былі заўважаны легендарным дзеячам культуры Віктарам Роўдам і праз пэўны час харавое выкананне прагучала ў эфіры. Спеў гэты цяпер з’яўляецца нефармальным духоўным гімнам краіны.

9 Тэкст напісаны сінімі чарніламі з выразным каліграфічным націскам на літарах. Верш Якуба Коласа «Не бядуй!» упершыню пабачыў свет у 1907 г. у газеце «Наша Ніва», № 28. Рэдакцыйная абвестка кожнага нумара паведамляла: «Першая Беларуская Газэта з рысункамі. Выходзіць раз у тыдзень рускімі і польскімі літарамі». На нашу думку, уладальнік нотнага альбома пазнаёміўся з вершам, надрукаваным «польскімі» літарамі ў «НН». Хутчэй за ўсё, тэкст запісваўся па памяці, на што паказваюць некаторыя недакладнасці. Апроч таго, тэкст скарочаны на адзін слупок (прапушчаны чацвёрты) і зменена іх паслядоўнасць (месца трэцяга слупка заняў пяты), у выніку чаго змянілася драматургія верша: на наш погляд, ён стаў больш дынамічным і менш тужлівым.

**БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ**


1. Ян Дунс Скот [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://newacropolis.org.ua/ru/articles/duns-skot-ioan – Дата доступу: 08.02.2019.
2. Разанаў А., Бабкоў І., Усманава А. і інш. *Код прысутнасці: анталогія беларускага мыслення 2000–2015. – Мінск: Логвінаў, 2016.*
3. Міхеева Л. Код прысутнасці. Праклён і выратаванне беларускіх інтэлектуалаў [Электронный ресурс]. – Рэжым доступу: http://journalby.com/news/kod-prysutnasci-praklyon-i-vyratavanne-belaruskih-intelektualau-674. – Дата доступу : 21.02.2019.
4. Неўдах У. Беларуская каталіцкая музыка. Касцельныя песьні. Для зьмешанага хору: Музычнае выданне. – Менск: БКГ, 1992. – С. 3.
5. Лицкевич С. Золотые орехи Эдварда Гирдо [Электронны рэсурс]. – Режым доступу: https://www.sb.by/articles/zolotye-orekhi-edvarda-girdo.html – Дата доступу : 31.01.2019.
6. Шэйпа С. Беларускае таварыства святой Цэцыліі // Наша вера. № 4, 2001.
7. Шэйпа С. Цэцыліянскі рух і рэформа касцёльнай музыкі пачатку XX стагоддзя // Наша вера. № 1, 2004.
8. Шэйпа, С. Сакральная культура касцёлаў Беларусі. Музычная практыка Каталіцкага Касцёла ў Беларусі [працоўны матэрыял] / С. Шэйпа // Асабісты архіў С. Шэйпы.

Андрэй Шпунт

# «У абароне Бога ад блюзнерстваў кожны вернік — жаўнер»

Эпоха Асветніцтва багатая на шматлікія разнастайныя постаці — пераважна актыўныя, супярэчлівыя, авантурныя — ці то ландскнехт, ці то касцёльны іерарх. На гэтым неспакойным тле людзі нармальныя пачынаюць выклікаць большую цікавасць. Вось, напрыклад, наваградскі кашталян Гедэон Яленскі, які, паводле характарыстыкі Севярына Урускага, «умелы юрыст, але адсталых поглядаў».

У 1778 г. у нясвіжскай друкарні Радзівілаў убачыла свет невялікая кніжка пад назваю «Чатыры пункты, для ведання кожнаму неабходныя» (праз дзевяць гадоў перавыдадзеная ў Варшаве, перакладзеная на французскую мову) — плён заклапочанасці Яленскага распаўсюджваннем у свеце асветніцкай атруты. Дастаткова прывесці некаторыя ўрыўкі:

«Пункт першы. Ёсць Бог.

<…> здаровы розум пацвярджае, што ёсць Бог; <…>

Калі прыйдзем да нейкага дому і ўбачым, што ўсё добраўпарадкавана <…> хіба ж не здагадаемся адразу, што павінен быць у гэтым доме гаспадар?

Пункт другі. Душа чалавека несмяротная.

<…> Чалавек ёсць найдасканалым і найшляхетнейшым стварэннем <…>.

Пункт трэці. Ёсць узнагарода і вечная кара.

(У пацвярджэнне аўтар прыводзіць спасылкі са Старога і Новага Запавету.)

Пункт чацвёрты. Патрэбна было і ёсць аб'яўленне Святога Пісання.

<…> праз Святое Пісанне (Бог) навучыў нас праўдам, да якіх уласным розумам <…> не дайшлі б <…>.

Адказ на абвінавачванне, што аб'яўленне Святога Пісання ці аб'яўленая рэлігія не былі патрэбныя <…>.

Несумненна, што найвышэйшы Аўтар прыроды, ствараючы чалавека, уліў розум, даў несмяротную душу і прышчапіў у розуме і ў сэрцы першасны закон <…> не рабіць другому таго, што не жадаў бы сабе <…>.

Сапраўды, больш шчаслівыя звяры, якія не маюць ні розуму, ні закону, чым чалавек, які розум мае, а не ведае аб Богу; які мае права, у сэрцы напісанае, а дрэннымі звычаямі яго парушае».

Кніжка на самай справе — даволі прымітыўная апалогія хрысціянства, хаця кс. Каліноўскі, місіянер і прафесар віленскай семінарыі, у прадмове аддае належнае аўтару, бо «ў абароне Бога ад блюзнерстваў кожны вернік — жаўнер».

Не трэба спяшацца з высновамі, бо гэта той выпадак, калі трэба глядзець не на слабы твор, а на ўсё жыццё аўтара, яго дзейнасць і параўнаць яго, напрыклад, з сённяшнімі дзяржаўнымі мужамі...

Гедэон Яленскі не быў ні багасловам, ні мысляром (ды й навошта, калі св. Тамаш Аквінскі варты быў цэлай кагорты і тых, і другіх), але ўсё ж такі не мог не зрабіць свой пасільны ўнёсак у барацьбу з пошасцю. Мабыць, сапраўды, свету, што пачаў з'язджаць з глузду, трэба было самаю простаю моваю нагадаць аб тым, што ёсць Бог, што душа чалавека несмяротная і г.д.

Сапраўды, Яленскі лепш гаварыў, чым пісаў, прычым настолькі, што яго прамова ў Менску 3 сакавіка 1742 г. ад імя адвакатуры з прычыны закрыцця Галоўнага Літоўскага Трыбуналу, трапіла ў свайго роду топ — 100 выдатных прамоваў у Рэчы Паспалітай, аб'яднаных каралеўскім сакратаром Янам Астроўскім-Данейкавічам у збор «Swada polska» («Польскае красамоўства», Люблін, 1745. Т. I).

У абароне вечных каштоўнасцяў Яленскі абапіраўся не толькі на свае здольнасці: ён вызначыўся таксама ўдзелам у перакладзе з нямецкай мовы Ёгана Готліба Вальпургера «Косматэалагічныя заўвагі аб найважнейшых Боскіх цудах і праўдах, якія ў валадарстве натуры і ласкі знаходзяцца»

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.


Tu krzyż na czole położyć ustach y sercu mowiąc
Jezu Nazarenski Krolu Żydowski Zmiłuy się nademną.
Krzyż także uczynić przed sobą y po bokach mowiąc:
Oto krzyż Pański, uciekaycie strony przeciwne, zwycięża lew z pokolenia Judy potomku Dawidow Zbawicielu swiata zbaw nas.
JEZUS MARYA JOZEF.
Avanżier.

CZTERY PUNKTA
Do
WIADOMOSCI KAZDEMU
NAYPOTRZEBNIEYSZE
Przez J.W. J.Mci Pana
GEDEONA
JELENSKIEGO
STAROSTĘ SĄDOWEGO MOZYRSKIEGO
Kawalera Orderu Swiętego Stanisława
NAPISANE.
J.W. J.Mci Panu
RAFAŁOWI
JELENSKIEMU
KASZTELANOWI NOWOGRODZKIEMU
Tegoż Orderu Kawalerowi
PRZYPISANE.
w NIESWIZU
Od Drukarni Xiążęcey.

Вокладка кнігі Гедэона Яленскага «Cztery punkta do wiadomości każdemu naypotrzebnieysze». Нясвіж, 1778.

(Вільня, Акадэмічная друкарня, 1785).

Адзіны з хрысціянаў, які жыў, верагодна, у часы Антанінаў, вольнаадпушчанік па імені Герма, у творы «Пастыр» заўважае, што заможныя хрысціяне – гэта таксама камяні, з якіх будуецца Касцёл. Яленскі быў вельмі заможным чалавекам. Тытулаваўся старостам суховіцкім, насовіцкім і нестановіцкім. Калі ў 1752 г. з Вільні ў Мазыр прыбылі сёстры марыявіткі, быў іх галоўным фундатарам, а пасля таго, як пасябраваў з кс. Францішкам Багамольцам SJ, нашым суайчыннікам з Віцебшчыны, паэтам, лінгвістам, гісторыкам і выдаўцом, не шкадаваў грошай на яго праекты. У прадмове да перавыдадзенай кнігі львоўскага кашталяна Андрэя Максімільяна Фрэдра «Przysłowia mów potocznych, albo przestrogi obyczajowe, radne, wojenne» (Варшава, 1769), (вельмі цікавы збор афарызмаў), кс. Багамолец пісаў: «славуты ў Айчыне нашай муж вяльможны Гедэон Яленскі <…> які ні выдаткаў, ні працы не шкадуе на выратаванне ўжо амаль загінуўшых з-за сваёй рэдкасці, годных несмяротнай памяці твораў нашых старых аўтараў».

Добрыя справы Яленскі рабіў не толькі пры дапамозе ўласных сродкаў, але і як дзяржаўны чалавек. На Сойме 1786 г. падтрымаў, у прыватнасці, праект, «каб капіталы духоўных аб'яднанняў», (скасаваных аўстрыйцамі ў рэчышчы рэформаў імператара Юзафа II), «што засталіся ў краіне, былі накіраваныя на грамадскія патрэбы (крамы, шпіталі, дапамогу ўбогай шляхце)».

…«Не маю сумнення, — сцвярджаў кс. Багамолец, — што Вам нашчадкі ўзаемнасцю заплацяць»…

### Кароткая бібліяграфічная даведка

Гедэон Яленскі нарадзіўся ў 1712 годзе. Паходзіў са шляхты герба «Корчак зменены», аселай у пачатку XVII ст. у мінскім і наваградскім ваяводствах, што займала пасады ў Мазырскім павеце. Быў малодшым сынам Антонія Даджьбога, падчашага мазырскага і адзінай з дзвюх яго жонак з Жабаў ці Кацярыны з Галіашаў. Брат Рафала Юзафа, кашталяна наваградскага, Міхала, падкаморыя мазырскага і Кацярыны, базыліянкі з Вільні.

Верагодна, скончыў Віленскую акадэмію.

Чашнік мазырскі (1738).

Гараднічы мазырскі (1742).

Падчашы мазырскі (1745).

Падстароста мазырскі (1752).

Суддзя земскі мазырскі (1765).

Падкаморы мазырскі (1769).

Староста мазырскі (1771–1786).

Пісар дэкрэтовы асэсарскіх судоў (1752–1776).

Пасол ад Мазырскага павету на Соймы 1758, 1761, 1762, 1764, 1766, 1767 гг. У 1761 г. быў адзіным з 43-х пасloў, што сарвалі надзвычайны Сойм з-за немагчымасці правесці скарбовую рэформу.

Удзельнік дэлегацыйнага Сойма 1774 года. Набліжаны Станіслава Аўгуста.

Кавалер ордэнаў св. Станіслава (1776) і Белага Арла (1783).

Старшыня асэсарскіх судоў у Гародні ў 1777 і 1778 гг.

Актыўны ўдзельнік Соймаў 1782, 1784, 1786 гг.

Пасля 1786 г. адышоў ад палітычнага жыцця.

У шлюбе з Магдаленаю з Ромераў меў дзвюх дачок — Анэлю (Абуховіч) і Тэрэзу (Рдултоўскую).

Памёр у лютым 1798 г.

**Літаратура**
1. Иосиф II//*Энциклопедический словарь, Брокгауз и Ефрон*. Т. 5. — Москва, Большая Российская энциклопедия, 1994. — С. 451–452.
2. Нарский, И. Просвещение//*Философский энциклопедический словарь*. — Москва: Сов. энциклопедия, 1989. — С. 518–519.
3. Свенцицкая, И. С. *Раннее христианство: страницы истории*. — Москва: Политиздат, 1994.
4. Jeleński, G. *Cztery punkta dla wiadomości każdemu najpotrzebniejszych*. — Nieśwież, 1778.
5. Rabowicz E. Jeleński Gedeon//PSB. T. XI. — Wrocław—Warszawa—Kraków, 1964–1965. — S. 140–141.
6. *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich.* T. VI. — Warszawa, 1885. — S. 756.

Язэп Янушкевіч

# Самы вядомы ў свеце мінчук

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Станіслава Манюшкі*




Сёлетні месяц травень-май для нас, сучаснікаў XXI стагоддзя — гістарычны: роўна 200 гадоў таму, 5 (17) мая 1819 года ў маёнтку Убель, які належаў Чаславу і Альжбеце (з Маджарскіх) Манюшкаў, нарадзілася немаўлё. З-за слабасці здароўя, небяспечнай для жыцця, было яно ахрышчанае ў той самы дзень «адною вадою». Праз тыдзень адбыўся поўны хрост: гучны, урачысты, з паўдзясяткам сваякоў Манюшкаў і не менш годных іншых сваякоў, як і належыць пракаветнай літоўскай шляхце. Нашчадка «па мячу» даўно чакалі Манюшкі. З трывогаю. Бо ва ўсіх дзядзькоў, братоў Часлава Манюшкі, нараджаліся спрэс дзяўчаты.

Ці не таму пры хросце першынца хлапчука бацькі далі сыну ажно чатыры імёны: Станіслаў-Ян-Эдвард-Казімір. Дзіўным збегам абставінаў дакумент пра хрост ані разу й нідзе да сёння не друкаваўся, бо іначай манюшказнаўцы на ўсёй планеце параўналі б, да прыкладу, што знакаміты Шапэн меў толькі падвоенае імя Фрыдэрык-Францішак, а наш Станіслаў Манюшка — удвая болей. Дзякуючы новаму кіраўніку архіўнай галіны краіны Віктару Курашу афіцыйны сайт «Архівы Беларусі» апошнім часам рупліва папаўняецца радаводнымі дакументамі. Вось адпаведная касцёльная вытрымка пра нашага юбіляра ў перакладзе з лацінскай мовы Алеся Жлуткі.

«З двара Убель. У год 1819, 5 мая я, Вінцэнт Сяліцкі з Кангрэгацыі Святой Місіі, ахрысціў з адной вады з-за слабасці народжанага сёння з імёнамі Станіслава-Яна-Эдварда-Казіміра, сына найяснейшага спадара Часлава Манюшкі, капітана польскага войска, рыцара святога Яна Ерузалемскага і найяснейшай Альжбеты з дому Маджарскіх, яго жонкі, законных сужэнцаў. Хроснымі былі Грыгорый Мяшкевіч і Аксенія Крычыха, сведкамі — Андрэй Езуіта і Францішка Астрыкоўна. У той жа год, дзясятага дня месяца мая, я, той жа самы, давяршыў абрады хросту над названым вышэй немаўлём. Сведкамі гэтых абрадаў былі вяльможны спадар Адам Манюшка, каморнік Ігуменскага павету, і вяльможная спадарыня Марыля Маджарская, яснавяльможны спадар Эдвард Ванькові́ч, харужы Мінскага павету, і вяльможная спадарыня Ганна Манюшкаўна, найяснейшы спадар Дамінік Манюшка, маёр польскага войска, рыцар святога Яна Ерузалемскага, і вяльможная спадарыня Марыяна Маджарская, найяснейшы спадар Юзаф Манюшка, харужы Барысаўскага павету, кавалер святога Яна Ерузалемскага і вяльможная спадарыня Ганна Главацкая».

Бацькі немаўляці не снілі й не думалі, аднолькава як і паўдзясятка Часлававых братоў не магла ведаць, што вось гэты нованароджаны, прыйсце якога так шчодра й гучна святкавалася ў першатравеньскай раскошы над рэчкай Волмай-Валмянкай, будзе першым й адзіным дзіцем у іхняй сям'і, адзіным нашчадкам працягу разгалінаванага роду з мілагучным прозвішчам Манюшка. Аднолькава як ніхто не ведаў, што яму наканавана будзе застацца ў гісторыі беларускай і польскай культур (ды і ўсёй

---

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар звыш 400 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

Еўропы) славутым кампазітарам, арганістам і дырыжорам Станіславам Манюшкам.

Навучаўся Стах напачатку у сямейных абставінах, дзе першаю скрыпкаю была яго матуля Альжбета з роду Маджарскіх (таго самага, продкі якога лічацца заснавальнікамі на нашых землях ткацтва слынных слуцкіх пасаў), а таксама асветныя дзядзькі: Адам, Дамінік, Казімір, Юзаф Манюшкі.

Да прыкладу, Дамінік Манюшка (1780–1848) — асветнік-думанік, філантроп, які шмат у чым апярэджваў сваю эпоху: задоўга да царскага маніфэста 1861 г. падбаў пра вызваленне сялянаў ад прыгоннага права, раздаўшы спадчынную зямлю ў вольнае карыстанне сваім падданым. Другі дзядзька, Казімір Манюшка (1795–1836), абараніў кандыдацкую дысертацыю пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта. Паміраючы ад сухотаў у Радкаўшчыне (яшчэ адзін маёнтак, набыты дзедам кампазітара, таксама Станіславам Манюшкам), усю маёмасць сваю пакінуў братанцу, будучаму кампазітару. Найбольшую каштоўнасць ад Казіміра мела багатая бібліятэка з тысячай тамоў.

Першапачатковая хатняя адукацыя пазней працягвалася ў гімназіях Варшавы, Менска, у берлінскім музычным інстытуце. Першыя творы пакуль яшчэ малавядомага нават у Беларусі-Літве кампазітара былі напісаны ў Мінску і пастаўлены на тутэйшай сцэне на пачатку 1840-х гадоў: «Чарадзейная вада», «Спаборніцтва музыкантаў», «Латарэя». Падзеяй сталася пастаноўка 9 лютага 1852 г. п’есы «Ідылія» на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча, дзе паны прамаўлялі па-польску, а сяляне і войт Навум гаварылі па-беларуску. І, як пазнейшыя класічныя творы кампазітара «Галька», «Страшны двор» і інш. праславілі яго ва ўсім свеце, дык дзякуючы «Ідыліі» кампазітар Станіслаў Манюшка, поруч з В. Дуніным-Марцінкевічам, лічыцца бацькам нашай нацыянальнай оперы.

Чым яшчэ вылучаецца творчасць генія і чым яна нам дарагая? У ягонай творчай спадчыне налічваецца не адзін дзясятак кампазіцый для фартэпіяна і аргана, аб’яднаных назваю «Песні нашага Касцёла». «Чыстая, глыбокая і непахісная вера Станіслава Манюшкі суправаджала яго крокі ад пачатку да самага скону жыцця. Хрысціянскія погляды, прывітыя бацькамі, а таксама шматвяковымі традыцыямі шляхецкага асяроддзя, якое ўзгадавала кампазітара, у многім абумовілі яго рэалізацыю ў асабовай і творчай прасторы. Вучань варшаўскага арганіста-віртуоза Аўгуста Фраера і вялікага знаўцы духоўнай музыкі Карла Рунгенхагена ў Берліне, ён усебакова раскрыў сябе як касцёльны музыкант і менавіта на рэлігійную музыку скіраваў значную плынь сваёй магутнай творчай энергіі. Каля васямнаццаці гадоў сваёй музычнай дзейнасці — з 1840 па 1857 год — Манюшка прысвяціў працы арганіста ў віленскім касцёле святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста. Апрача штодзённых абавязкаў суправаджэння Імшаў і набажэнстваў, кампазітар знаходзіў час на рэпетыцыі з хорам і арганізацыю духоўных канцэртаў, пры Таварыстве дабрачыннасці заснаваў музычную школу для сіротаў, ладзіў заняткі ў прыкасцёльных залах» (С. Немагай).

Паказальна, што ўсе рэлігійныя творы Станіслаў Манюшка ахвярна выдаваў уласным коштам, бо яны былі яму вельмі дарагія і невыпадковыя ў яго творчасці.

Першы біёграф творцы, Аляксандр Валіцкі, у пасмяротным нарысе (Варшава, 1873 год) пакінуў каштоўныя сведчанні пра ўнутраны, духоўны свет і каардынаты быцця творцы на штодзень. «Пры сваёй высокай адукацыі, якую займеў, захаваў жывую і гарачую веру, якая рэдка ў каго сустракаецца. Высока шануючы ўладу розуму, ніколі не дазваляў яму паглыбляцца ў аналіз пачуццяў, а заадно і веры, таму не зносіў аніякіх рэлігійных дыспутаў. Веру захаваў ажно да смерці такую, якую меў у маленстве. З усёй прастатой верыў у кожнае слова катэхізісу, як таго патрабуе Касцёл. Звычайна некалькі разоў у год прыступаў да споведзі і заўсёды ў вельмі раннюю пару, бо не жадаў з таго рабіць параднасці. Аднак з гэтага не трэба меркаваць пра яго як пра фанатыка. Наадварот, паважаў веравызнанне і перакананні іншых, але за гэта патрабаваў, каб і іншыя паважалі ягоныя перакананні. <…>

Звычайна вельмі рана, бо а пятай гадзіне ўставаў, а ўлетку нават раней, адразу ішоў у касцёл на Імшу. Гэта быў звычай, ад якога магла ўстрымаць яго толькі хвароба. Вярнуўшыся з касцёла, зараз жа садзіўся за працу, і амаль усе ягоныя кампазіцыі-творы паўсталі ў гэтую пару. <…> Калі выходзіў з дому ў тэатр, каб дырыжыраваць уласнай операй, тады, зачыніўшыся ў сваім кабінеце, кленчыў перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай і даручаў сябе Яе апецы. Ані разу гэтага звычаю не занядбаў».

Што ж, на абсягах забранай Бацькаўшчыны моцная вера жывіла хоць нейкай надзеяй на лепшую будучыню і дадавала сілаў вытрымаць паняверку.

«Эстэтычныя прынцыпы, што сфарміравалі аблічча рэлігійных песень і дуэтаў Манюшкі, былі абумоўленыя як аб’ектыўнымі фактарамі, якія склаліся на той час у Каталіцкім Касцёле былой Рэчы Паспалітай і Вялікім

Княстве Літоўскім у прыватнасці, так асабістымі поглядамі і перакананнямі самога кампазітара. Станіслаў Манюшка не мог не ўлічваць непрывабнага стану тагачаснай літургічнай музычнай практыкі, заняпад якой быў абумоўлены закрыццём многіх касцёлаў і кляштараў, знішчэннем і заняпадам вялікай часткі інструментарыя і рэцэсіяй прафесіяналізму. Сваёй творчасцю ён імкнуўся адпавядаць тагачасным сацыякультурным запатрабаванням, згодна з якімі яго рэлігійныя сачыненні былі арыентаваныя на выканальніцкія магчымасці пераважна паўпрафесійных спевакоў і арганістаў, якіх на той час у касцёлах працавала большасць. Асэнсоўваючы неабходнасць рэфармавання касцёльнай музыкі ў былым ВКЛ, а затым і ў каронным Польшчы, Манюшка паставіў перад сабой мэту стварэння якаснага і даступнага літургічнага і пазалітургічнага рэпертуару — месаў, рэлігійных песень, харавых і арганных твораў», — піша наша вядомая музыказнаўца Святлена Немагай.

Мы цяпер сапраўды можам ганарыцца тым, што святкуем значны юбілей не проста знакамітага кампазітара, але і адначасова хрысціяніна каталіка, які сваім жыццём і творчасцю будзе так доўга служыць узорам нашчадкам, як доўга будзе гучаць і захапляць ягоная цудоўная музыка.

Найлепшы манюшказнаўца мінулага XX стагоддзя слушна падкрэсліваў, у чым яшчэ сакрэт Станіслава Манюшкі: маўляў, звыкшы высока ацэньваць мастакоў такога рангу, як Міцкевіч, Славацкі, Шапэн, мы часта недаацэньваем дзейнасць тых, хто застаўся ў Польшчы, хоць менавіта яны ўзялі на сябе найцяжэйшы абавязак служэння свайму народу ў новых умовах, замяняючы адсутнасць зачыненых па ўсёй краіне культурных установаў. Іх дзейнасць разгортвалася пад пільным наглядам цэнзуры і паліцыі, якія абмяжоўвалі — да пакутаў — іх творчую волю.

Бо што зрабіў навагрудскі Адам Міцкевіч дзеля ўтрымання духу народа пасля паразы Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў, напісаўшы свайго «Пана Тадэвуша», тое пасля чарговага вызвольнага, але трагічнага адкрытага супраціву сваіх сучаснікаў у другой палове XIX ст. — паўстання 1863–1864 гадоў пад началам Кастуся Каліноўскага (у польскай гісторыяграфіі — Студзеньскае паўстанне) зрабіў кампазітар Манюшка сваім «Страшным дваром».

«Як Адам Міцкевіч пасля паразы паўстання 1830–1831 гадоў у незваротным расстанні з Айчынай з сумотна-светлай любоўю да яе творыць шырачэзную карціну нацыянальнага жыцця (пераважна ў шляхецкім асяроддзі) — эпічную паэму «Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве» (такая яе поўная назва; разгорт падзеяў у паэме заканчваецца 1812 годам), гэтак і Станіслаў Манюшка ў далечыні ад родных мясцінаў творыць высокай прыгажосці музычную карціну з жыцця сваіх суайчыннікаў незабыўнага мінулага — оперу «Страшны двор», але ўжо пасля паразы паўстання 1863–1864 гадоў. У вернасці зямлі, што іх узгадавала, абодва вялікія творцы знаходзілі новыя духоўныя сілы і натхненне, а іхнія творы, жывыя і паўнакроўныя, неслі ў сабе надзею на свабоду, якую ў народа ўсё ж не забраць. Толькі так, напэўна, і маглі сапраўдныя мастакі-патрыёты ўдыхнуць у душы суайчыннікаў надзею на перамогу ў будучыні» (Скорабагатаў В., Мархель Ул., Каржанеўская Г. Манюшка на Радзіме. – Убель, 2019. С. 45.)

А для мяне асабіста творца «Галькі» і «Страшнага двара» яшчэ паўстае не толькі змагаром-барацьбітом, захавальнікам-прадаўжальнікам, які ў сваіх руках утрымаў паходню нацыянальнага існавання народа між Дняпром і Бугам, над берагамі Нёмана й Дзвіны, але нагадвае сваёй прыроднай сціпласцю нашага класіка Янку Купалу. Калі пасля смерці Фрыдэрыка Шапэна адна з пісьменніц заявіла: «Мы не перасталі б праліваць слёзы па Шапэну ў скарбніцу вечнай скрухі, калі б Манюшка не змякчыў наш боль сваімі напевамі», дык стваральнік «Галькі» на гэта адказаў рэзка і рашуча: «Калі хтосьці настолькі дурны, што можа суцяшацца мною пасля страты Шапэна, дык гэта не мая віна, бо я ніколі не ставіў сябе ў адзін шэраг ні з адной еўрапейскай знакамітасцю, тым больш з Шапэнам, якога я бязмежна люблю. Таксама недарэчна было адзначаць добрыя якасці маёй музыкі ў параўнанні з Маерберам, бо ён піша для парыжскага тэатра, я ж — для нашага айчыннага карыстання, а гэта, як вядома, сфера, у якой вельмі цяжка атрымаць поспех...».

Хіба не прабіваецца тут выразнае, славутае Купалава: *«Я не паэта, о крый мяне Божа! Не рвуся я к славе гэткай німала…»*

І колькі яшчэ іх, прызабытых, малавядомых, чакаюць нашага годнага ўшанавання…

Толькі з эпохі Манюшкі мне бачыцца неабходнасць займець асобныя манаграфіі пра Ахіла-Джузэпэ Банольдзі, Аляксандра Валіцкага, Валéнта-Волеся Ваньковіча, Яна Дамеля, Тадэвуша Ладу-Заблоцкага, Яна Карловіча, Рамуальда Падбярэскага, Яна Рустэма. Што тут доўга пералічваць, калі пра самога Манюшку ў нас так і не з'явілася дысертацыйнае даследаванне, у адрозненне ад суседніх летувісаў і нават далёкіх італьянцаў, немцаў, не кажучы пра польскамоўныя манаграфіі. Вядома,

каб зразумець цэлае, яго часам дзеліш на часткі, але як можна падзяліць на часткі адзін народ, нацыю?

Гісторыя нашай Айчыны апошніх стагоддзяў — гэта гісторыя пра тое, як на месца ратных ваяроў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага й Жамойцкага прыйшлі руплiўцы на палетках культуры. І на гэтым новым талкавіску, пазбаўленыя падтрымкі ад уласнай дзяржавы, штодня адчуваючы каланіяльны ўціск заваёўнікаў, не здаліся духова. І перамаглі.

І адзін з тых слынных ваяроў-песняроў — Станіслаў-Ян-Эдвард-Казімір Манюшка.



* * *

Ва ўрачыстасць Унебаўшэсця Пана ў мінскім катэдральным касцёле 30 мая адбылося асвячэнне мемарыяльнай дошкі з барэльефам у гонар кампазітара Станіслава Манюшкі. Аўтар твора — скульптар Валяр'ян Янушкевіч.

У сваёй пастырскай навуцы, прамоўленай перад асвячэннем, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч закрануў тры розныя тэмы, мудра з'яднаўшы ўсё ў адно цэлае: свята Унебаўшэсця, 20-ю гадавіну трагедыі на Нямізе і 200-годдзе знакамітага сына нашай Айчыны.

«У сённяшнюю ўрачыстасць святы Касцёл адзначае Унебаўшэсце Пана. На 40-ы дзень пасля Уваскрасення Езус Хрыстус узыходзіць на нябёсы. Ён вяртаецца да свайго Нябеснага Айца, выканаўшы сваё заданне. І ўсе мы павінны ісці наперад, развівацца, перамагаючы шмат цяжкасцяў, бо заўсёды ў жыцці ёсць цяжкасці… Але пры гэтым трэба бачыць і мэту свайго жыцця, ведаючы, што для нас найгалоўным з'яўляецца Божая ласка, патрэбная для збаўлення…

Мы павінны добра ведаць і памятаць, што «без Бога ні да парога». Тая трагедыя, якая сталася 20 гадоў таму, за сто метраў адсюль, на Нямізе, калі людзі растапталі адзін аднаго, выклікае пытанне: чаму так сталася? 53 чалавекі… 250 было паранена. А гэта ж было таксама свята Унебаўшэсця Пана. І ў гэты дзень тут было арганізавана свята піва. Піва было пастаўлена вышэй за Езуса.

…Заданне кожнага хрысціяніна, кожнага верніка, якое выплывае з сённяшняга свята, — гэта менавіта памятаць пра тое, што мы не можам страціць самы каштоўны дар, якім з'яўляецца Божая ласка. І мы павінны быць яе прапагандыстамі ў нашым свеце.

Такім прапагандыстам быў Станіслаў Манюшка. Музыцы яго найперш навучала мама, потым ён вучыўся ў Мінску, потым — у Варшаве, у Берліне. Працаваў арганістам у Вільні, у касцёле святых Янаў. Потым пераехаў у Варшаву, дзе быў дырыжорам Варшаўскай оперы. За жыццё стварыў шмат музычных рэлігійных формаў, такіх як «Вастрабрамскія літаніі». Манюшка быў музыкантам, кампазітарам і сваім талентам служыў людзям, служыў Богу. Сваёй творчасцю Манюшка яшчэ раз падкрэсліў значэнне слова «культура». Вельмі часта мы ўжываем гэта слова, да канца не асэнсоўваючы яго. У ім коранем з'яўляецца «культ», а гэта азначае, што слова павінна мець духоўны характар. Сёння мы найчасцей бачым субкультуру, наогул тое, што не вядзе да Бога, але ад Бога. <…> Зазначу яшчэ, што Станіслаў Манюшка служыў усім людзям, людзям розных нацыянальнасцяў, людзям розных поглядаў. Сваёй дзейнасцю ён аб'яднаў тры краіны, тры народы: Беларусь, Літву і Польшчу. Гэта прыклад для кожнага з нас знайсці паразуменне, знайсці супольную мову. Няхай жа гэтая падзея і свята Унебаўшэсця Езуса яшчэ раз напомняць нам пра тое, што мы павінны быць каталізатарамі сучаснага свету.

Няхай памяць пра нашага вялікага земляка, Станіслава Манюшку, жыве ў нашых сэрцах! І няхай добры Бог прыме яго ў сваё Валадарства, каб ён там далучыўся, як выдатны кампазітар, як выдатны музыка, да анёльскіх хораў, каб разам праслаўляць Бога, які вядзе нас сваім шляхам у краіну вечнага шчасця ў небе».

*Фота Міколы Новікава.*



Лідзія Камінская

# Мастак святла і Божых таямніцаў

*Пра адметнасць творчасці Сяргея Шэмета*

Гартаючы кнігу водгукаў на адной з мастацкіх выставаў, прачытала цікавы, не банальны запіс: *«У Вашы пейзажы хочацца ўвайсці і застацца ў іх»*. Так, ёсць такія пейзажы — і даўнія агульнапрызнаныя, і не надта вядомыя, якія вельмі нас кранаюць, і таму ў іх *«хочацца ўвайсці»*. А яшчэ ёсць пейзажы, каля якіх стойваецца дыханне. Каля іх няма жадання *«ўвайсці»*, каб не парушыць нават гэтым жаданнем іх дасканалую гармонію, іх таямніцу, у якой нібы сабраныя праменні Божай хвалы — *«над Беларусяй ціхой і ветлай»*, як геніяльна-проста напісала Наталля Арсеннева. Менавіта так успрымаецца пейзаж Сяргея Шэмета «Гальшаны. Аранжавы вечар» (2003), дзе Божыя праменні сабраныя, а не рассыпаныя, і цёплага бурштынавага святла і бязмежнага спакою на карціне столькі, што здаецца, быццам святло ідзе не зверху, з глыбіні палатна. І неба на палатне не блакітнае, а таксама залаціста-цёплае, і толькі лёгкія блакітна-бэзавыя фарбы воблака-зігзага нагадваюць пра тое, што гэта ўсё ж такі неба. Напэўна, так можна маляваць шчасце… Напэўна, так можна маляваць радасць ад усведамлення таго, што гэты свет падараваны табе *«проста так»* і назаўсёды. Так можна маляваць любоў і ўдзячнасць. Проста рэчка, проста яе берагі, парослыя травою, кустоўем і дрэвамі, проста — хаткі ўдалечыні і проста касцёл, які не дамінуе і не ўзвышаецца, — проста ёсць. Так Сяргей Шэмет далучае нас да свайго роздуму пра Божы свет — просты і таемны… Так ён запрашае нас у родныя мясціны, у свой маленькі рай на зямлі — у «Гальшаны ўвечары» (2005), у «Яблыневы сад» (2006), на «Далёкае возера» (2003) і ў свае «Ашмяны над ракою» (2010), ставячы на гэтым шляху мноства букетаў з ружамі — «Чырвоныя ружы» (2008), «Белыя ружы» (2011), «Ружы на стале» (2007)…

Пра творчасць Сяргея Шэмета мы ў сваім часопісе і згадвалі і асобна пісалі ўжо двойчы. Першаю была публікацыя Галіны Багданавай «Пленэр пад знакам духоўнасці» (№ 3, 2004 г.), у якой апавядалася пра мастацкі вернісаж, прысвечаны 500-годдзю Будслава, а папярэднічаў гэтаму вернісажу пленэр «Будслаў-2004», у якім прынялі ўдзел дзесяць беларускіх мастакоў — Мікалай Кірэеў, Юрый Алісевіч, Пётра Багданаў, Ігар Гардзіёнак, Вольга Гардзіёнак-Кірэева, Ліліяна Гудава, Ірына Каваленка, Таццяна Сіплевіч, Лада Шчасная і Сяргей Шэмет. Гэта была ўнікальная акцыя, але найперш яна была па-святому прыгожая, гарманічна-ўзнёслая, з трапяткімі свечкамі ў руках і каля карцінаў і, вядома ж, з незабыўнымі ўражаннямі і пачуццямі, якія засталіся ў сэрцах і на палотнах. Адна з працаў — краявід Сяргея Шэмета, была тады падараваная кардыналу Казіміру Свёнтку, якому прысвячалася фотавыстава побач з мастацкай экспазіцыяй…

Другой асобнай публікацыяй менавіта пра карціны Сяргея Шэмета было эсэ Дануты Бічэль, якая напісала пра выставу мастака «У пошуках сіняй птушкі» ў гродзенскай галерэі імя Антонія Тызенгаўза. Сваё эсэ Данута Бічэль назвала «Сіняя птушка шчасця — гэта Будслаў» (№ 1, 2006 г.), і ўжо самою гэтаю назваю было вельмі многае сказана і пра асобу мастака, і пра змест яго творчасці. Захопленая святлом і цеплынёю фарбаў на палотнах Сяргея Шэмета, Данута Бічэль і на вокладцы сваёй кніжкі «Дайсці да Каложы» (2017) папрасіла нашага мастацкага і тэхнічнага рэдактара Алега Глекава змясціць выяву яго «Каложскай царквы» (2005), і цяпер Каложа атуляе сваёю бурштынавую цеплынёю старонкі адметнай духоўнай паэзіі. Менавіта ў жаданні святла, вечнага, высокага, таемнага, мы вырашылі яшчэ раз звярнуцца да творчасці Сяргея Шэмета напярэдадні Будслаўскага фэсту.

Мастакі вельмі па-рознаму малююць Будслаў, дакладней — яго слынны касцёл. Сёння ўсе католікі ўпэўнена могуць ска-

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978–1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980–1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986–1992), у часопісе «Роднае слова» (1992–2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.



Каложская царква. 2005.



Гальшаны. 2008.

заць: «Наш Будслаў», а некаторыя з мастакоў гэтак жа ўпэўнена могуць сказаць: «Мой Будслаў», і гэта будзе іх шчаслівую творчаю праўдаю. Здавалася б, як можна па-рознаму маляваць адну і тую ж архітэктуру, той самы помнік? Можна, калі для цябе гэта не проста архітэктура, не проста культавы помнік, а... І тут можна гаварыць розныя словы: святыня, надзея, апірышча, паратунак, збаўленне, цуд, Сіняя птушка... А можна не гаварыць нічога, бо няма нічога больш уласнага, інтымнага, чым нашы адносіны з Богам, асабліва — з Божаю Маці. Вось так і нараджаецца па-дзіцячаму наіўнае, уласніцкае слова «мой» — «мой Будслаў», і хоць гэтага слова няма ў назвах карцінаў, яно ціха жыве ўнутры, у сэрцы.

У большасці палотнаў нашых мастакоў будслаўскі касцёл дамінуе як дасканалы, надзейны, светла-ўзнёслы карабель. Моцна ўкаранёны на зямлі, ён нібы гатовы стартануць уверх, у неба, і запрашае нас да гэтага палёту, і аднойчы гэты палёт адбудзецца (для кожнага з нас), а касцёл застанецца на зямлі, рыхтуючы да нябеснага падарожжа іншых пілігрымаў. Менавіта як нябесна-зямны карабель паказаны будслаўскі касцёл на палотнах Мікалая Кірэева («Будслаўскі матыў») і Таццяны Сіплевіч («Будслаў»), а Вольга Гардзіёнак-Кірэева на карціне «Будслаў» увогуле намалявала дзівосна-казачны рай, у сінім небе якога, акружаная зоркамі, лунае Маці Божая з Дзіцем на руках. Крыху казачным, але і рэальна зямным (бо да яго прытуленыя мястэчковыя пабудовы) паказаны Будслаў на палатне Сяргея Шэмета, таксама з простаю і вельмі напоўненаю назваю — «Будслаў» (2004). Рэальна зямным яго робіць і звілістая пясчаная дарожка да касцёла, а казачнасці дадаюць нерэальна яркія, незямныя фарбы: на ўсхваляванай лілова-сіняй зямлі нібыта пакінула сваё дыханне Сіняя птушка, а дзіцячае жаданне мастака сказаць «мой Будслаў» выявілася ў тым, што ён па-дзіцячы, агульным чырванавата-бурштынавым абрысам моцна, шчыльна прытуліў да касцёла і дрэвы, і як бы ўсё мястэчка. Гэты «Будслаў» Сяргея Шэмета, дакладней — яго касцёл, больш нагадвае замак ці палац, бо ў ім жыве Маці Божая, і, напэўна, для таго, каб паказаць, што гэта Яе жытло, Яе замак, мастак змясціў Яе абраз проста ў небе над касцёлам.

Ёсць у Сяргея Шэмета і пазнейшая выява Будслава, дзе касцёл намаляваны дакладна-рэальна і таксама падобны да нябесна-зямнога карабля, і над ім таксама змешчаны абраз Маці Божай. Гэтае палатно адметнае рысамі класічнасці, характэрнай для напісання гістарычных помнікаў, але дрэвы абапал дарожкі да касцёла відавочна нагадваюць пілігрымаў, якія нібы застылі ў малітоўнай пашане. На гэтым палатне больш прасторы неба, і гэтая прастора, і дарожка з дрэвамі-пілігрымамі нібы заклікаюць: прыходзьце, у Маці Божай Будслаўскай для ўсіх хопіць месца!.. Згадаю, што адна з выяваў Будслава Сяргея Шэмета была змешчана на вокладцы нашага часопіса (№ 2, 2013 год), а на вокладцы гэтага нумара мы вырашылі змясціць «Сквер у Будславе» (2009) — вельмі цікавая праца, у якой Сяргей Шэмет, цалкам адступіўшы ад рэалізму, праз густыя фарбы і шчыльную кампазіцыю наблізіўся да мастацкага ўвасаблення Хрыстовай просьбы-малітвы: «Каб усе былі адно»... (Ян 17, 21). У гэтае мастакоўскае «адно» Сяргей Шэмет аб'яднаў і касцёл, больш падобны да казачнага воблака-замка, і дрэвы-пілігрымы, якія ўжо не «ідуць» паасобку, а згуртаваліся ў *адно*, быццам прыціхлі на малітве, а можа, перадаюць праз свае кроны традыцыйны каталіцкі знак супакою, а ў сярэдзіне дрэваў, у кронах, як дзіцячы «сакрэт», які не адразу ўбачыш, мастак змясціў лёгкую выяву Маці Божай з Дзіцем — гэта Яна робіць нас *адным*, усіх прытуляючы да сябе, — лістотаю, кронамі, карэннямі. Мы — дрэ-



Будслаў. 2015.

вы, і Яна (з Ім на руках!) — сярод нас. У агульную прыглушанасць шчыльных фарбаў палатна прабіваецца ўпэўненае святло — так бывае раніцаю, калі аднаўляецца Божая міласэрнасць, бо мы проста прачнуліся, і проста зноў жывыя, а прыглушанасць фарбаў быцця зноў нясе ў сабе таямніцу спакою і суцяшэння...

Для Сяргея Шэмета зварот да святла і болесцяў Божых таямніцаў, да духоўных вобразаў і сюжэтаў не быў ні пакутлівым шляхам у пошуках свайго «я» ў жыцці і ў мастацкай творчасці, ні прарывам да адвечных хрысціянскіх праўдаў. Евангельскія вобразы і сюжэты натуральна, як паветра, з маленства ўваходзілі ў яго жыццё праз касцёл — ён каталік, нарадзіўся ў Ашмянах, а хрысцілі яго ў Барунах, бо і ў Ашмянах, і ў Гальшанах касцёлы ў 1970-я гады былі зачыненыя. У размове ён па-дзіцячы шчыра прызнаўся, што ў маленстве не вельмі разумеў сэнс некаторых малітваў (асабліва «Веру ў Бога...»), але мама хацела, каб сынок іх ведаў, а ён быў (і ёсць) паслухмяным, ну і яшчэ, відаць, жыве ў ім тое, што генетычна ўласціва кожнаму, хто нарадзіўся ў хрысціянскай заходнебеларускай сям'і, — боязь Божая. Сузіранне суровых стацый Крыжовага шляху, якія ёсць у кожным касцёле, таксама фармавалі і гэтую добрую Божую боязь, і пашану да пакуль яшчэ не ўсвядомленых таямніцаў. Як і ўсе ў маленстве, любіў казкі і асабліва ілюстрацыі да іх, таму такімі прыцягальнымі на доўгія гады сталі вобразы Сіняй птушкі шчасця і чароўна-таемнай царэўны-лебедзі на карціне знакамітага рускага мастака Міхаіла Врубеля. З юнацтва быў захоплены паэзіяй Лермантава, Каўказам, а пазней — творчасцю Андрэя Таркоўскага (нават зняў свой кароткаметражны фільм).

У Сяргея Шэмета вельмі добрая адукацыя: у 2010 годзе ён абараніў, што рэдка здараецца з мастакамі, доктарскую дысертацыю па тэме «Пошук святла — мастацкая інтэрпрэтацыя ў біблейскім сюжэце» ў Акадэміі мастацтваў імя Яна Матэйкі ў Кракаве.

...Вядома ж, можна навучыцца выдатна маляваць (пісаць, як настойліва гавораць некаторыя мастакі), але нельга навучыцца *быць мастаком* — бачыць, раптоўна адчуваць, ведаць, што гэта табе падуладнае, што ты зможаш і нават павінен, бо не дарэмна ж табе дадзены гэты адметны дар. Як можна (як трэба?) маляваць евангельскія сюжэты, калі ўжо створаныя сусветна вядомыя шэдэўры? Можна. Сяргей Шэмет па сутнасці стварыў сваю адметную мастацкую Евангеліяну, і нават не шкада, што яна раскіданая па-за межамі Беларусі, бо і Звеставанне, і Спасланне Святога Духа, і Вербніца, і Пасха належаць не дзвюм культурам (беларускай і польскай), а ўсяму свету. Пералік евангельскіх сюжэтаў, створаных Сяргеем Шэметам, будзе доўгім і важкім, і наўрад ці трэба яго рабіць, бо найперш карціны трэба глядзець і... таксама бачыць.

Думаючы пра евангельскія вобразы і сюжэты ў творах Сяргея Шэмета, запінаюся на слове «сюжэт», бо мастак па сутнасці адлюстроўвае даўно вядомыя кожнаму хрысціяніну рэальныя дзеі і падзеі, якія ажываюць для нас кожны год у нашай хрысціянскай практыцы. І якая ж з іх найважнейшая ў нашым жыцці? Мудрацы гавораць, што гэта — смерць, і гэта востра разумееш перад палатном Сяргея Шэмета з назваю «Таямніца Пераходу» (2017). Калі наш мастацка-тэхнічны рэдактар Алег Глекаў надрукаваў для мяне гэтую работу на камп'ютары, я паклала яе ў сумачку і, едучы ў метро, адчувала, што ў мяне там нібыта ляжыць... частка Плашчаніцы, настолькі моцная энергетыка ў гэтай працы.

...Мы ўсе, як Езус на гэтым палатне, аднойчы будзем накрытыя белым покрывам нябыту. Як пазнаць (апазнаць) нежывога, які амаль цалкам закрыты покрывам? І покрыва такое дарагое, бела-серабрыстае, урачыста-чыстае, з мноствам доўгіх хвалістых складак. Так дарага, беражліва, прыгожа атуляюць вельмі дарагога, роднага чалавека, каб хоць гэтак нарэшце злагодзіць змучанае, скалечанае, скрываўленае. Так мастак атуліў цела Езуса. На бела-ўрачыстым покрыве няма ні крыві, ні плямаў (гэта не Плашчаніца). Пад ім нібыта яшчэ ёсць дыханне. Там адбываецца Пераход — таямніца Пераходу. І покрыва нібы набывае лёгкую рухомасць і значнасць іпастасі вады, якая выцекла з Яго боку і стала ўрачыстым покрывам Пераходу. Складкі — як хвалі вады. Лёгкасць. Ужо лёгкасць... Не з праху — у прах, а з Духа — у Дух. Покрыва з крыві — уверсе. І ўвесь Езус, нябачны пад покры-

вам, як доўгенькая серабрыстая рыбка, працятая ўвесну нечым невыносна балючым і выкінутая на бераг Збаўлення. Як пазнаць Яго пад покрывам? Вось Яго рука, правая, прабітая, звернутая да нас («Я з вамі!»), амаль дакранаецца да краю палатна, у якога, здаецца, не можа быць рамкі... Нага, таксама правая, аголеная амаль да калена, з прабітаю ступнёю... Ужо не баліць... І раптам ясна разумееш сэнс урачыстага свята Божага Цела, калі адзінае шчыльнае мноства людзей, працэсія, як вялікая жывая рыбіна, містычнае жывое Цела Хрыста, ідзе за Ім, прысутным у Гостыі. Перад такімі творамі стаяць на каленях... І нават іх хвіліннае сузіранне працінае важным усведамленнем таго, што перад гэтаю Ахвяраю ўсё мізэрнае, але роспачы няма, бо Хрыстус апазнаны і пазнаны, і ўрачыста-чыстае покрыва на Ім абяцае Уваскрасенне, і ў гэтым сэнс смерці як найважнейшай падзеі ў жыцці кожнага чалавека — хрысціяніна. Важна, што чакае нас *пасля*... А яшчэ важнае разуменне, што Езус не толькі *найвышэйшая сутнасць*, але і *чалавек*, і праз Яго кожны чалавек — *не толькі чалавек*, бо вяршыня яго сутнасці ўзыходзіць у сферу Божага невядомага, і яго канчатковае прызначэнне раскрываецца менавіта праз смерць, *Пераход* і ўваскрашэнне. І тут хочацца працытаваць радкі Караля Вайтылы з яго «Развагаў пра смерць» (у перакладзе Крыстыны Лялько):

<. . .>
*таемнасць Пераходу,*
*у якой*
*парадак прамінання адваротны,*
*бо прамінаем ад жыцця да смерці —*
*такі ўжо досвед і рэальнасць.*
*Праз смерць і да жыцця —*
*вось таямніца.*

Езус — гэта Пазнанне, якое пераўзыходзіць усе нашы пазнанні...

Пра што можна гаварыць пасля «Таямніцы Пераходу»? Напэўна, пра спакойны, усёдаравальны твар Маці Божай на Шэметавых палотнах і пра Езуса шчаслівага — Езуса ў вінаградніку, таксама поўнага любові і спакою — і такі Езус ёсць на палатне Сяргея Шэмета, і Яго выява таксама была змешчаная на адной з вокладак нашага часопіса (№ 1, 2016)...

А яшчэ хочацца сказаць пра анёлаў на палотнах Сяргея Шэмета. Яны ў яго сапраўды адметныя і розныя, хоць і ўзятыя з адной сферы — Валадарства Нябеснага. Шэметавы анёлы, узятыя ў трохкутнік, як гэта рабілі майстры італьянскага рэнесансу, нагадваюць рыбак — водна-касмічных, і гэтае падабенства дасягнутае не толькі вертыкальнасцю формы, выцягнута-завостранага трохкутніка, але і выбарам фарбаў — спалучэннем сонечна-залацістых (бо Езус прыйшоў на зямлю як Святло і Сонца) і блакітна-сіне-фіялетавых (фарбаў таямніцы і пакуты). У Шэметавых анёлаў сумныя чалавечыя твары, менавіта чалавечыя — яны не маюць прыкметаў полу, і ўсё ж бесцялесныя істоты, створаныя фантазіяй мастака, трошкі падобныя да людзей (як пісаў Булат Акуджава, «*і грустные, как жители земли*»). Асобныя выявы анёлаў я назвала б партрэтамі — яны нават так і падпісаныя мастаком, канкрэтна, як пра асобу: «Анёл» (2008). Іншыя анёлы (не партрэты), з традыцыйнымі крыламі (і без іх), з традыцыйным супакаяльна-мірным жэстам рук і німбамі, насяляюць многія творы Сяргея Шэмета: «Звеставанне» (2004), «Спасланне Святога Духа» (2005), «Пастухі» (2007)...

Шэметава Евангеліяна падобная да поўнаметражнай стужкі, створанай адзінствам біблійных падзеяў, таемнасцю фарбаў і нябачнай прысутнасцю Святога Духа, знакавым увасабленнем якога з'яўляюцца анёлы і рэдкія выявы птушкі, як на палатне «Святая Сям'я па дарозе ў Егіпет» (2004). Дзіўным чынам таемнасць Шэметавых фарбаў (светла-сініх, сініх, бэзавых, фіялетавых, смарагдавых) стварае ўражанне, што неба і вада (асабліва вада) разлітыя амаль ва ўсёй яго Евангеліяне — не асобна, а менавіта разам, узаемапранікальна, быццам стварэнне свету ўсё яшчэ працягваецца і з вады хросту нараджаюцца новыя дзеці Божыя, і Святы Дух усё яшчэ *носіцца* над водамі, як сказана ў Кнізе кніг. У асобных працах Сяргея Шэмета выразна дамінуе неба з яго пераможным залатым святлом, як на карціне «Звеставанне» (2009), але ў палотнах «Цудоўны ўлоў» (2002), «Акварыум» (2009) дамінуе-пануе таемная вада — гэтыя палотны насычаныя адным з найважнейшых сімвалаў-знакаў хрысціянства — рыбаю, і хочацца, каб гэты Божы ўлоў быў бясконцым, як бясконцыя Яго неба і вада...

Мастацкая Евангеліяна, створаная Сяргеем Шэметам, здаецца, невычэрпная для сузірання і размовы пра яе, і мы абавязкова яшчэ вернемся да творчасці гэтага сапраўды адметнага хрысціянскага мастака. Дарэчы, ён выдатны партрэтыст, які стварыў серыю рэальных святарскіх партрэтаў — ксяндза Міхала Сапоцькі, Яна Паўла ІІ (Караля Вайтылы), польскага ксяндза Марыюша Трабы, біскупа Гжэгаша Кашака і іншых цікавых асобаў.

...На шчасце, нашы беларускія мастакі, у адрозненне ад пісьменнікаў, стварыўшы сваё творчае братэрства, застаюцца адным непарушным, моцным цэлым — яны, кожны па-свойму, малююць-пішуць-ствараюць у прасторы палотнаў сваю беларускую Беларусь, у тым ліку веруючую, хрысціянскую, і мы чакаем ад іх новых выставаў і новых твораў, бо яны прыгожа, годна «*ідуць праз вернасць*» самім сабе і свайму Краю. Разам з усімі ідзе праз веру і вернасць мастак Сяргей Шэмет, які ўсведамляе, што святло яго творчасці немагчымае без святла Найвышэйшага Творцы, без ласкі Маці Божай, адна з выяваў якой чакае сваіх пілігрымаў у Будславе, дзе амаль кожны год падчас славутага фэсту праліваецца ачышчальны дождж — святая вада са святога неба.

Аркадзь Шпунт

# «Час усё адкрые...»

*Пра рэстаўрацыю партрэта Януша Радзівіла, які прыпісваецца пэндзлю Даніэля Шульца*



Партрэт Януша Радзівіла да пачатку рэстаўрацыі.
На 3-й с. вокладкі — партрэт Я. Радзівіла пасля рэстаўрацыі.

У Беларусі рэстаўрацыя рэдка абыходзіцца «прэвентыўнай тэрапіяй». Часцей — гэта «апаратыўнае ўмяшальніцтва». Гэта драма, схаваная між слаёў запісаў. Спасцігаючы яе, рэстаўратар часам пражывае тое імгненне, у якое пэндзаль аўтара арыгінала пераадольваў адлегласць ад палітры да паверхні палатна. Тады рэальнасць мінулага і яе вобраз зліваюцца ва ўвасабленне рэчаіснасці нашмат больш рэальнай, чым хісткая штодзённасць. Тады, падыходзячы да акна ў майстэрні, раптам бачыш узвядзенне гіганцкага даху, які ператварае стары стадыён у новы, вачыма прыдворнага мастака польскіх каралёў або вачыма гетмана, партрэт якога змешчаны ў цябе на мальберце.

...Біяграфія князя Януша Радзівіла поўная супярэчлівых звестак, і ў гэтых звестках можна хутчэй заблытацца, чым даведацца, кім жа быў князь на самай справе, і калі, у якім дакладна годзе, быў напісаны яго партрэт...

Прычынаю для перадачы партрэта на рэстаўрацыю было выяўленне нязначных разбурэнняў фарбавага слою. Адразу пасля паступлення ў майстэрню помнік культуры, як і належыць, быў даследаваны рэстаўратарамі і супрацоўнікамі хіміка-фізічнай лабараторыі музея. Рэнтгенаграма паказала, што пад слоем жывапісу партрэта, у арыгінальнасці якога ніхто не сумняваўся апошнія паўвеку, ёсць выява кірасы (у ніжнім левым кутку карціны) і выява рукі, якая паказвае на яе...

Аб папярэдніх рэстаўрацыях партрэта ніякіх звестак няма. Нават пра рэстаўрацыю 70-х гадоў мінулага стагоддзя, зробленую спецыялістамі Рускага музея Міхаілам Маркавым і Ананіем Брындаравым, вядома толькі паводле дамоўнай і сметнай дакументацыі, якая выпадкова захавалася ў майстэрнях. Пасля рэстаўрацыі Маркава і Брындарава партрэт быў уведзены ў экспазіцыю Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, паказаны на некалькіх міжнародных выставах і не раз апублікаваны. Неаспрэчны аўтарытэт знаных спецыялістаў з Ленінграда не дазваляў сумнявацца ў арыгінальнасці партрэта, аднак тое, што мастацтвазнаўцы вывучалі і аналізавалі ў мінскім партрэце, аказалася рэстаўрацыйным запісам XX стагоддзя, які абнавіў рэстаўрацыйны вымысел XIX стагоддзя, выкананы на руінах арыгінала XVII стагоддзя. Тым не менш, у 1981 г. Таісія Андрэеўна Карповіч — першы даследчык радзівілаўскіх партрэтаў у беларускай гістарыяграфіі, выказала меркаванне, што аўтарам партрэта з'яўляецца польскі мастак нямецкага паходжання Даніэль Шульц (1615–1683).

У апісанні стану патрэта пры яго паступленні на рэстаўрацыю ў 2017 г. было пазначана, што арыгінальная аснова жывапісу — палатно, сшытае з чатырох частак. Немагчыма было вызначыць першапачатковы фармат карціны з-за таго, што па краях яна была абрэзаная. Палатно было прадубліраванае на ільняное палатно з дапамогаю воскава-маслянай масцікі і нацягнутае на рассоўны экспазі-

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.





Фрагмент выявы правай рукі Януша Радзівіла: 1 – да пачатку рэстаўрацыі; 2 – пасля першых расчыстак; 3 – пасля раскрыцця аўтарскага жывапісу.

цыйны падрамнік. Заўважнымі былі пропісы па ўсёй паверхні жывапісу, празмернае пакрыццё лакам і нязначнае асыпанне грунту разам з фарбавым слоем.

У працэсе рэстаўрацыі высветлілася, што партрэт панаўляўся тры разы, і гэта не супярэчыць матэрыялам хіміка-фізічных даследаванняў. Першы фрагментарны запіс быў зроблены, мяркуючы па стылі раскрытага жывапісу, у XVIII стагоддзі. Але чым была выкліканая неабходнасць схаваць пад запісам выяву даспехаў і ўказуючы на іх жэст рукі — невядома, хоць відавочна, што не тэхнічны стан жывапісу змусіў аўтара зрабіць гэты запіс.

Другі запіс быў выкананы ў XIX стагоддзі менавіта з прычыны плачэўнага стану партрэта. Страты жывапісу былі значнымі. На шчасце, ацалелі выявы галавы, абутку, упрыгожанняў адзення; у асноўным захаваліся фрагменты жывапісу, у фарбавым слоі якога былі бяліла.

Рэстаўратары XX стагоддзя падвялі грунт у месцах страты і выканалі рэканструкцыю, якую яны разумелі даволі своеасабліва, бо сказілі аўтарскі замысел да непазнавальнасці. Магчыма, моцна счарнелы аўтарскі лак не даў разгледзець у ацалелых фрагментах ні колеру, ні малюнку арыгінала. Рэстаўрацыю XIX стагоддзя завяршылі, напісаўшы ў левым ніжнім кутку карціны нумар «71». Захаваўшы гэты нумар, у 70-я гады мінулага стагоддзя ленінградскія спецыялісты Маркаў і Брындароў рэстаўравалі партрэт. Бясспрэчна, імі былі выкананыя зандажы і пробныя расчысткі, але захаванасць ніжняга жывапісу, напэўна, была такою нязначнаю, што яе раскрыццё падалося ім немэтазгодным, тым больш што запіс выглядаў адносна прыстойна.

У працэсе рэстаўрацыі ленінградцы замацавалі фарбавы слой, падвялі грунты ў месцах страты, прадубліравалі аснову на воскава-смаляную масціку, выдалілі забруджанні і пацямнелы лак, выканалі таніроўкі і... адправілі партрэт у экспазіцыю Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, дзе ён паспяхова знаходзіўся пяцьдзясят гадоў.



Фрагмент партрэта Януша Радзівіла (левы ніжні кут) з выбарачным зандажом.

Мэтаю рэстаўрацыі 2017 года было раскрыццё аўтарскага жывапісу, бо, як вядома, асноўны сэнс рэстаўрацыі — захаванне арыгінала. Захаванасць фарбавага слою, выяўленая пробнымі расчысткамі, дазволіла аднавіць партрэт, захоўваючы ўсе прынцыпы навуковай рэстаўрацыі. Першым для расчысткі быў выбраны левы ніжні куток карціны з бачнаю на рэнтгене выяваю даспехаў. Далей ад запісу былі вызваленыя атрыбуты, якія ляжаць на стале, драпіроўка і частка фону.

Раскрыццё жывапісу вялося паэтапна. Пасля дадатковага рэнтгенаграфічнага даследавання выявы правай рукі была выканана яе поўная расчыстка: выдалены тры слаі запісу і выдалены пачарнелы аўтарскі лак. У выніку расчысткі правага боку партрэта быў выяўлены фон з архітэктурнымі элементамі, бачнымі

на рэнтгенаграме. Высветлілася, што ўстаўка палатна па ніжняй частцы карціны была цалкам перагрунтаваная ў XIX стагоддзі. Заключным этапам працы было раскрыццё цэнтральнай часткі партрэта, на якой выявілася пастозная фактура першапачатковага жывапісу. Расчыстка выявіла нюансы экспрэсіўнага жывапісу — выразна ўбачыўся рух пэндзля, які характарызуе аўтарскую манеру працы.

Рэтуш стратаў выконвалася ў перыяд з кастрычніка 2017 года да канца снежня 2018 года. Зразумела, што захоўваліся ўсе правілы навуковай рэстаўрацыі: фарба наносілася толькі ў межах яе страты, фактура паверхні і колер аднаўленай часткі палатна выконваліся максімальна блізка да фактуры і колеру прылеглых частак жывапісу, таніроўка выдалялася (пры неабходнасці) без усялякай шкоды для захаванасці аўтарскага фарбавага слою.

Падчас таніравання рэстаўратарам было зразумела, што аднаўленне стратаў жывапісу ў такім аб'ёме цалкам магчымае без адсябяціны, калі пазбавіць саміх сябе ад спробаў цэласнага ўспрымання, не іграць аптычнымі ілюзіямі, «выключыць» у сабе ўласцівасць нармальнага чалавека мысліць гештальтам. У працэсе напаўнення колерам «архіпелаг» стратаў паступова, нібы сам па сабе, ператвараўся ў камерную прастору чытэльных выяваў, у тым ліку выявы жупана атласнага, сцёганага, з літымі гузікамі, абшытага залатым шнурам па петлях і месцы злучэння верхняй тканіны з падкладкаю, і вось тады футравы каўнер аб'ёмнай дэліі з зашпількамі ювелірнай працы шырока лёг на плячах зусім не шыракаплечага, калі меркаваць па малюнку, які прыпісваецца Хондыусу, князя Януша.

Нівеліроўка і рэтуш стратаў арыгінальнага фарбавага слою праводзіліся на старых (XIX ст.) рэстаўрацыйных грунтах, выключна ў межах стратаў, алеем па акварэльнай пракладцы, пругкімі пэндзлямі мінімальных памераў. У працэсе таніравання праявіліся, выбудаваліся тонкія, нечытэльныя ў хаосе стратаў дэталі і нюансы жывапісу. Праявілася жывапісная манера аўтара, нягледзячы на тое, што грунт XIX стагоддзя не імітаваў фактуру аўтарскага жывапісу, і гэта стварала праблему адлюстравання паверхні пры нанясенні на жывапіс лаку.

Істотнаю праблемаю была поўная страта першапачатковай выявы левай рукі, і таму было вырашана таніраваць ацалелыя фрагменты запісу XIX ст.

У працэсе работы абмяркоўвалася магчымасць аднаўлення кончыкаў вусоў і пасмы валасоў на галаве князя, бо рэшткі аўтарскага слою сведчылі пра наяўнасць гэтых дэталяў. Рэканструкцыя была выкананая паводле самага блізкага аналага — малюнка, які прыпісваецца Вільгельму Хондыусу. Маштабная сетка на згаданым малюнку, яго павелічэнне ў маштабе, сумяшчэнне контураў з выяваю жывапісу і супадзенне дэталяў пацвердзілі меркаванне супрацоўніка аддзела старажытнабеларускага мастацтва Станіслава Чавуса пра тое, што малюнак з'яўляецца падрыхтоўчым натурным накідам да партрэта і, магчыма, зроблены рукою самога аўтара партрэта — Даніэля Шульца.

У выніку чацвёртая рэстаўрацыя партрэта Януша Радзівіла дае мастацтвазнаўцам магчымасць для далейшага вывучэння партрэтнага жывапісу XVII ст. і ўдакладнення аўтарства мастака эпохі барока — прыдворнага майстра польскіх каралёў Даніэля Шульца. Пасля рэстаўрацыі партрэт Януша Радзівіла здабыў веліч, уласцівую гэтаму палкаводцу і палітыку, для якога Вялікае Княства Літоўскае ў супярэчлівай сітуацыі, што склалася ў Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVII ст., заблытанай і незразумелай да сённяшняга часу, была вышэй за ўсё.

Сёння, нягледзячы на не цалкам завершаную рэстаўрацыю, можна ўпэўнена гаварыць пра адкрыццё ўнікальнага помніка гісторыі і культуры, пра вяртанне партрэта ў навуковую прастору і экспазіцыю Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

...Эпіграфам да нашай працы можа быць цытата з ліста князя Януша Радзівіла дваюраднаму брату князю Багуславу ад 26 жніўня 1655 года: «Аднак час усё адкрые»: *«Здаецца мне, што Масква не хоча сварыцца са шведамі, якія за нас з маскалямі сварыцца гатовенькія і ўжо рыхтуюць ім у тыл гасцей. Богам і светам пакінутыя, калі прынялі тую пратэкцыю, калі нас, Літву, выдалі, і калі маскаль стаў у Вільні, чаго Вялікая Польшча не перажывала; а мы з бяды куды кінуцца мелі? Ва ўсялякім выпадку яшчэ не канец, ратаваць нас могуць, і нам адступіць можна. Кажуць, што даўно гэтае замышляў; няхай д'ябал пракляне маю душу, калі аб гэтым думаў раней. З таго часу, як мы з Вільні пісалі ліст, пачалася гэтая справа, калі інакш ратавацца спосабу не было.* ***Аднак час усё адкрые...***»

* * *

...Метамарфозы партрэта Януша Радзівіла ад часоў яго напісання да нашых дзён маглі б стаць нагодаю для стварэння мультыплікацыйнага гістарычнага фільма. Змены партрэта ў часе маюць свае прычыны...



Аварыя з карэтаю Лесінга каля вёскі Гесэн. Мастак Макс Котт.

Георг Освальд Котт

# Падарожжа Лесінга да Евы Кёніг у Вену

З таго часу як герцагскі двор пераехаў у Браўншвайг, Вольфенбютэльскі замак з ягонымі амаль трохстамі пакоямі пустуе. Толькі Лесінг туліцца ў дзвюх мансардах. Наколькі багата выглядае палац звонку з ягонымі вадзянымі ірвамі, упрыгожаным мастом і высокай гадзіннікавай вежаю, настолькі цьмянае ўражанне робіць будынак унутры: змрочны, халодны і са скразнякамі. Нават чарнілы застываюць на марозе. Лесінг цягне наверх кош, даверху напоўнены дровамі. Прыступкі лесвіцы скрыпяць, і прагнілыя масніцы пры кожным кроку пагражаюць зламацца. Па калідорах бегаюць спалоханыя крахтаннем пісьменніка пацукі.

Раздумваючы, ускудлачваючы валасы, Лесінг ходзіць туды-сюды па сваёй абстаўленай нешматлікай мэбляй каморцы. Як гэта часта бывае, дыміць печ, вецер задзімае ў комін, і пакой не награваецца. За акном сядзяць на таполях зграі варонаў, і з галінаў капае птушыны памёт. Карканне перашкаджае Лесінгу, ён адчыняе акно, барабаніць апалонікам па жалезным чане. Вароны з крыкам узлятаюць, робяць два-тры кругі вакол цэйхгаўза і ратонды і зноў апускаюцца на дрэвы.

Лесінг наракае. Двухаблічным бачыць ён гэты Вольфенбютэль. Вось ужо пяты год жыве ён у гэтым цесным горадзе: усё яшчэ халасцяком, пад падазроным наглядам жыхароў — перш за ўсё пастараў. У параўнанні з Берлінам і Гамбургам, дзе ён доўгія гады дзейнічаў у асяроддзі сяброў і аднадумцаў і дзе зарадзілася ягоная слава як філосафа і пісьменніка, Вольфенбютэль для яго — пакінуты Богам глухі закутак. Толькі бібліятэка і ўтрымлівае яго ў гэтым месцы, гэтая ўнікальная кніжная скарбніца, адроджаная Александрыйская бібліятэка, як ён яе называе. Пісьменнік ведае: кнігі — гэта адушаўлёныя стварэнні. Яны дыхаюць, у іх ёсць твар, яны размаўляюць з намі, захоўваюць мінулае, адкрываюць невядомае, яны, нібы чараўнікі, ствараюць новыя прасторы, акрыляюць чалавека. Адукаваны Лесінг карыстаецца скарбам: даследуе, робіць адкрыцці, папаўняе кніжны фонд і стварае ў зацішку Вольфенбютэля несмяротныя творы.

Але ў гэтыя дні яго нішто не трымае. Туга па ягонай заручанай Еве Кёніг у Вене неадольная. Таму

**Георг Освальд Котт** — пісьменнік, паэт. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Зальцгітэры. Закончыўшы рамесніцкае навучанне, вывучаў дыеталогію і германістыку; працаваў выкладчыкам у прафесійнай школе і ва ўніверсітэце ў Гановеры. Аўтар радыёп'есаў, апавяданняў, эсэ і вершаў, некаторыя з якіх пакладзеныя на музыку і перакладзеныя на розныя мовы. Аўтар 25-ці кнігаў, сярод якіх апошнія — выданні вершаў: «След ад воза» (Берген/Галандыя, 2001), «Палёт сарокі» (Хаўцэнберг, 2006), «Марыенборн» (Хаўцэнберг, 2014), «Вершы за ўсмешку» (Лейпцыг, 2014). Узнагароджаны прэміяй «Новая кніга» ў Ніжняй Саксоніі і Брэмене (1998), Крыжом за заслугі Ніжнесаксонскага ордэна (2011) і інш. Сябра Саюза нямецкіх пісьменнікаў і ПЭН-клуба. Жыве ў Германіі, у Браўншвайгу.

ён піша герцагу прашэнне аб адпачынку. Пасля гэтага манарх дазваляе прасіцелю аўдыенцыю ў Браўншвайгскай рэзідэнцыі.

Лесінг зняў два сціплыя пакоі ў доме гандляра віном Ангота, прытулак, у якім ён заўсёды жыве, калі яго цягне ў Браўншвайг. Тут ён атрымлівае імпульсы ў тэатры ці ў размовах з мысліцелямі, якія жывуць побач, такімі як Эшэнбург, Эберт, абат Ерузалем і іншыя.

Недалёка ад маленечкай кватэры пісьменніка знаходзіцца гатычны касцёл святога Эгідыя. Ён узвышаецца над горадам, проста-такі ўпіраецца ў нябёсы, нібы катэдра. Яго размяшчэнне ўнікальнае ў параўнанні з іншымі святынямі Браўншвайга: ён стаіць на ўзгорку, які ўзнімае яго над навакольнымі дамамі, і ўжо здалёку надае нешта ўзвышанае сілуэту горада. Лесінг зноў і зноў захапляецца гэтым месцам, дзе яго позірк скіроўваецца над Больвегам[1] да касцёла святой Катарыны[2] і дзе вежы сабора з абодвух бакоў ўпрыгожваюць краявід.

Па дарозе ў герцагскі замак, якраз перад новым каталіцкім касцёлам у стылі барока на Фрызэнштрасе, ён сустракае старога Маквіца, падзёншчыка, які часам бывае на пасылках у пісьменніка. Маквіц паказвае на касцёл, моршчыць лоб і ўзрушана кажа: «Вы толькі паглядзіце на гэты будынак! Цяпер каталікі вяртаюцца — і так блізка ад замка». Лесінг усміхаецца, пярэчыць: «Добра, спадзяюся, іх прыйдзе яшчэ болей. Там, дзе ёсць добрыя суседзі, выдатна жывецца!»

Пісьменнік заходзіць у герцагскі замак праз уваход для парабкаў. Слуга ў ліўрэі вядзе яго праз заблытаны будынак да пярэдняй перад асабістымі пакоямі манарха і кажа яму пачакаць. Пасля бясконцай гадзіны слуга з’яўляецца зноў і адчыняе



Вольфенбютэльскі замак,
дзе Лесінг доўгі час жыў у цеснаце.
Фота Георга Освальда Котта.

двухстворчатыя дзверы. Герцаг прымае Лесінга весела. Але менавіта гэтая таварыскасць робіць Лесінга асцярожным, і таму ён аб’яўляе свой родны горад Каменц мэтаю падарожжа. І яшчэ дадае, што шлях, магчыма, можа праходзіць праз Лейпцыг ці Берлін. Пра сапраўдную мэту свайго падарожжа, Вену, ён не кажа ні слова, добра ведаючы, што гэта выклікала б у герцага падазрэнні, таму што двор у Вене ўжо шмат разоў паддобрываўся да Лесінга. У правячых манархаў прынята выхваляцца адзін перад адным вучонымі людзьмі, якіх яны трымаюць пры двары: у Патсдаме стары Фрыдрых фанабэрыцца Вальтэрам. Кароль Даніі запрасіў Клапштока ў Капенгаген, а Анна Амалія заключыла дамову з Віландам у Веймары. У гэтым шэрагу герцаг Браўншвайгскі з Лесінгам пры двары займае надзвычай добрую пазіцыю. І ён гэта ведае. Таму ён трымае свайго бібліятэкара на доўгім ланцужку і задавальняе яго прашэнне аб адпачынку. Аднак у канцы аўдыенцыі ён крычыць яму ўслед: «Але ж не спакушайцеся!»

Мігам упакаваныя дарожны мяшок і сумка. Паштовая карэта адпраўляецца. Сігнал ражка робіць Лесінга радасным, яго тугу як рукой зняло. Лейпцыг вабіць. Шлях вядзе на паўднёвы ўсход. У вёсцы Гесэн здараецца першая аварыя: зграя здзічэлых бяздомных сабак з брэхам накідваецца на карэту, коні палохаюцца, экіпаж нахіляецца, спаўзае ў калдобіну і перакульваецца. Складзены на даху багаж коціцца ў лужыны. Фурман падае з козлаў і са страху адпускае павады. Коні ўстаюць на дыбкі і ў паніцы іржуць. З’яўляецца каля тузіна жыхароў вёскі, прыцягненых гэтым відовішчам. Яны выцягваюць Лесінга з паланкіна. На шчасце, ён абышоўся толькі драпінай. Сяляне прывыклі да такіх прыкрасцяў. Яны падсоўваюць пад экіпаж бэлькі, паднатужваюцца і ставяць карэту вертыкальна, пакуль яна, яшчэ крыху хістаючыся, зноў не стаіць на колах.

Пазней Лесінг піша ў лісце да свайго брата: «...Больш за шэсць разоў я перакульваўся і больш за дзесяць разоў захрасаў. Нарэшце ўвечары ў чацвер я прыехаў у Лейпцыг, замест таго каб прыбыць туды ў аўторак ранкам ...»

Аднак цяжкасці падарожжа хутка забытыя. Абуджаюцца ўспаміны: калі ён быў студэнтам у Лейпцыгу, ён нарэшце адчуў сябе вольным ад бацькоўскага кантролю і муштры ў княжацкай школе ў Майсэне. Тады ў Лейпцыгу Лесінг напісаў п’есы для тэатра, і Караліна Фрэдэрыка Нойбер са сваёю трупаю нават паставіла яго «Маладога вучонага». Як у часы студэнцтва, ходзіць пісьменнік па горадзе, наведвае знаёмыя яму месцы. Таксама ёсць яшчэ ігральныя дамы і кабакі з былога часу, і яны нават пахнуць гэтак, як раней. Тут ён мог бы

яшчэ некаторы час пабадзяцца, але атрымліваецца інакш: Эрнэстына Крыстына Райскэ, прывабная ўдава, пераследуе яго, раптам апынаецца там, дзе ён фланіруе, і больш не адступае ад яго ні на крок. Яна кожны дзень складае праграму. Ён бурчыць, але дазваляе ёй гэта. Але, калі яна цягне яго паслухаць духавы аркестр, ён у наступнай паштовай карэце ўцякае ў Берлін.

На Шпрэе ён доўга не затрымліваецца. Туга па Еве робіцца ўсё мацнейшаю. Таму ён едзе далей у Дрэздэн, адтуль, спешнай поштаю, праз Прагу — у Вену. Ён прыязджае запылены і галодны, спыняецца ў заезным доме «Оксэн». Тры гады ён не бачыў сваю любімую Еву. Ён хуценька прымае ванну, чысціць вамс і нацельную бялізну. Не ўзяўшы ў рот ні крошкі, ён спяшаецца з дому. Карчмар паказвае яму дарогу ў прадмесце «Аўф дэр Відэн», дзе жыве Ева; дзе яна, стаўшы ўдавою, у апошнія гады спрытна і з розумам вывела з даўгоў занядбаныя фабрыкі свайго мужа і цяпер можа з невялікім прыбыткам прадаць іх. Сёння добрасумленная дама таксама сядзіць за сваімі разліковымі кнігамі. Дзверы ў кантору злёгку адчыненыя. Лесінг бачыць любімую жанчыну, якая з лупаю ў руцэ разбірае ліст. Готхальд Эфраім дрыжыць, у яго сэрца выскоквае з грудзей. Ева чуе шолах, паварочваецца, бачыць нарачонага, ускоквае так, што зэдлічак з грукатам падае на падлогу. Абое кідаюцца адно да аднаго, сутаргава абдымаюцца, задыхаюцца ад блізкасці. Пачынаюцца бясклапотныя дні. Нібыта пажар, распаўсюджваецца навіна: Лесінг у Вене.

Тэатр робіць перастаноўку ў рэпертуары, ставіць у гонар Лесінга «Эмілію Галоці». І ўсе высокапастаўленыя асобы на Дунаі запрашаюць пісьменніка ў госці. Марыя Тэрэза таксама просіць яго ў свой палац. За ім прыязджае карэта. Каля галоўнага ўвахода



Памятны абеліск Еве Кёніг на былых могілках за царквою Святой Тройцы ў Вольфенбютэлі. Фота Георга Освальда Котта.

салютуе варта. Два лёкаі адчыняюць дзверцы карэты, адкідваюць прыступку, здымаюць капелюшы і кланяюцца. Цырымоніймайстар суправаджае Лесінга ў палац Шонбрун. Яны праходзяць праз Вялікую галерэю, дзе велічэзныя люстры адбіваюцца ў бліскучым паркеце. Імператрыца прымае пісьменніка ў Блакітным салоне — пышна ўбраным памяшканні са шпалерамі з рысавай паперы, кітайскімі вазамі і мэбляй з інкрустацыяй. Наведванне гэтага прыстанішча лічыцца асаблівым гонарам. Такім чынам кожны дзень у Вене робіцца для Лесінга святам, і Готхальд Эфраім з Еваю нават снуюць вясельныя планы. Вяселле павінна адбыцца яшчэ ў гэтым годзе.

Але гэтая ідылія рэзка заканчваецца: у Вене раптам з'яўляецца прынц Леапольд Браўншвайгскі. Лесінга адразу ж выклікаюць да яго. У імператарскім доме для гасцей на мармуровай лесвіцы стаіць малады прынц дваццаці двух гадоў, у ботах са шпорамі, і абвяшчае: адпачынак скончыўся, з гэтага моманту Лесінг павінен служыць аднаму толькі прынцу і мігам сабраць свае рэчы для падарожжа ў Італію.

Ужо наступным ранкам пісьменнік павінен рушыць у дарогу. Дарожная карэта бітком напакаваная ўскладзенымі адзін на адзін і замацаванымі рамянямі чамаданамі і куфрамі Леапольда. Для торбы Лесінга амаль што няма месца. Ева Кёніг абдымае свайго любага нарачонага на развітанне і хавае слёзы. Прынц рэзка патрабуе тут жа вырушыць у дарогу. Лесінг яшчэ раз махае насоўкаю з ад'язджаючай карэты. Экіпаж хутка знікае ў ранішнім тумане. Некаторы час Ева яшчэ чуе грукат падковаў па бруку.

* * *

Лесінг павінен быў суправаджаць прынца Леапольда Браўншвайгскага з Вены па Італіі. Падарожжа працягвалася з 25 красавіка да 15 снежня 1775 года. Ева Кёніг не атрымала ад свайго заручанага за гэтыя восем месяцаў ніводнай вестачкі. Лісты Лесінга да Евы Кёніг не адпраўляліся па прызначэнні.

*Пераклад з нямецкай мовы Алены Сямёнавай-Герцаг.*

**Літаратура:**
1. Paul Raabe: Hamburger Köpfe – Eva König, mit einem Geleitwort von Helmut Schmidt; Hamburg 2005.
2. Dieter Fratzke und Wolfgang Albrecht (Hrsg.): Dialog in Briefen und andere ausgewählte Dokumente zum Leben Gotthold Ephraim Lessings mit Eva Catharina König; Erbepflege in Kamenz Schriftenreihe des Lessings-Museums; Kamenz 1981.
3. Dieter Hildebrandt: Lessing – Biographie einer Emanzipation; München Wien 1979.

[1] Больвег — назва вуліцы ў цэнтры Браўншвайга (заўв. перакл.).

[2] Царква святой Катарыны — евангелічна-лютэранская царква ў Браўншвайгу (заўв. перакл.).



Мар'ян Дукса. Фота 1967 г.

# «Адна дарога, і яна — да Бога...»

Так напісаў у адным з вершаў вядомы паэт, чалавек глыбокай веры, сябра нашай рэдкалегіі Мар'ян Дукса, аднойчы і назаўсёды вызначыўшы свой жыццёвы і творчы шлях.

Ён нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на азёрнай Мядзельшчыне, на хутары каля вёскі Каракулічы. Закончыў філфак Белдзяржуніверсітэта, працаваў настаўнікам у школе, выдаў каля дзясятка кніг паэзіі, стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, выгадаваў двух сыноў, дачакаўся ўнукаў…

Большую частку жыцця Мар'ян пражыў у старажытным і спрадвечна каталіцкім мястэчку Солы на Смаргоншчыне, дзе ў самым цэнтры, на шырокім пляцы стаіць прыгожы касцёл Маці Божай Ружанцовай, які мастацтвазнаўцы слушна называюць музеем фрэсак Пётры Сергіевіча. Там шмат роспісаў нашага слыннага майстра, якія ён выканаў у 30-я гады мінулага стагоддзя, калі будавалася гэта святыня. На яе франтоне, над уваходам, змешчаны заклік Хрыста: «Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас»

(Мц 11, 28–30). Мар'янава сэрца заўсёды ўдзячна адгукалася на гэты Хрыстовы заклік: ён прыходзіў сюды на святую Імшу, спяваў у касцёльным хоры, заходзіў і тады, калі хацеў «*на вуліцы тлумнай*» пакінуць «*сваё ўтрапенне*»… Пра сольскі касцёл Мар'ян пісаў у вершах і ў прозе, а Пётру Сергіевічу прысвяціў верш «Мастак на касцёльных рыштаваннях»…

У квартальніку «Наша вера» Мар'ян Дукса друкаваўся з самага першага нумара. У наступным годзе мы з ім маглі б адзначыць срэбраны юбілей нашага творчага сяброўства. На жаль, ужо не адзначым… Якімі непапраўна-балючымі бываюць у такіх выпадках гэтыя «не»: не адзначым, не сустрэнемся, не паразмаўляем, калі ўспаміны сапраўды становяцца больш рэальнымі за саму рэальнасць. І я, на жаль, у чарговы раз пераканалася ў гэтым: падчас нечаканай і спешнай дарогі ў Солы на апошняе развітанне з сябрам у маю малітву за яго, як у жалобны вянок, пастаянна ўпляталіся ўспаміны — эпізоды нашых рэдкіх сустрэчаў і шчырых, даверлівых размоваў, і паўставаў ён, як жывы, па-маладому танклявы, падцягнуты, з крыху разгубленаю ўсмешкаю на прыгожым, натхнёным твары паэта, з прытоеным сумам у светлых вачах…

Апошні раз Мар'ян прыехаў да нас у рэдакцыю ў мінулагоднім снежні, на самым пачатку Адвэнту. Зайшоў з вялікім пакетам чырвонабокіх яблыкаў. Убачыўшы маё здзіўленне, сказаў: «У тваім жа садзе сёлета не было яблыкаў».

Ён заўсёды цікавіўся маім хутарам, садам, домам, і гэта было найпершае, пра што Мар'ян пытаў мяне ў нашых тэлефонных размовах. І я была ўдзячная яму за магчымасць паразмаўляць пра самае блізкае майму сэрцу…

У ягонай душы жыла непазбыўная віна перад маці, якой, на яго думку, ён не дадаў сыноўняга цяпла, была віна перад роднаю хатаю, якой не зберог, не захаваў для нашчадкаў. У адным з вершаў, надрукаваным у мінулагоднім 2-м нумары часопіса «Наша вера», ён пісаў:

*Не беспрычынна, ды толькі захутка*
*У небыццё праваліўся мой хутар…*

З родным хутарам у Мар'яна быў звязаны таксама балючы ўспамін ягонага маленства, калі на пачатку 50-х сям'ю Дуксаў як заможных хутаранцаў саветы хацелі вывезці ў ссылку. Тады іх уратавала… завея: яна так пазамятала дарогі, наарфавала такія высокія гурбы, што сельсаветчыкі доўгі час не маглі дабрацца да хутара, а потым, відаць, выканалі рэпрэсіўную разнарадку і забылі пра свой нялюдскі намер: Мар'янава сям'я засталася ў роднай хаце…

Хутаранскае маленства, цішыня і адасобленасць сфармавалі Мар'янаў характар і яго душу: ён быў паэтам-самотнікам. Адчувалася, што нават рэдкія візіты ў Мінск даваліся яму нялёгка… Як сам прызнаваўся, у яго было глыбока-ўнутранае несупадзенне з гэтым прагматычным часам… У адным з апошніх вершаў паэт пісаў:

*Эпоха прыйшла не мая.*
*Рулюе паўсюдна прагматык.*
*Учэпісты практык. А я*
*на ўзбочку — музейны рамантык.*

Цяпер, пасля Мар'янавага адыходу, часта думаючы пра яго і ягоную паэзію, я неяк зусім іначай — больш уважліва, перачытала яго вершы і, здаецца, глыбей і лепш яго зразумела і адчула.

Увесь гэты час на маім пісьмовым стале ляжыць ягоная невялікая кніжыца паэзіі з вельмі красамоўнаю назваю «Прыйсці да алтара». Яна выйшла ў серыі «Бібліятэка часопіса „Наша вера“» ў 2003 годзе. Мар'яну тады было 60–капа гадоў, як кажуць у народзе, чалавечая і творчая сталасць. Гэта невялікая, сціплая, як сам паэт, кніжыца з прыгожаю выяваю будслаўскай базылікі на нябеснага колеру вокладцы вельмі важная ў яго творчай біяграфіі. Колькі там глыбока хрысціянскіх, кранальных радкоў, колькі яго сыноўняй, адданай любові да Бога і да Божай Маці, да Касцёла! Паэт там па-дзіцячы непасрэдны, шчыры і адкрыты ў сваіх пачуццях, у кожным парыванні душы. Вось як, да прыкладу, у гэтым вершы, у якім ён апісвае сваю ранішнюю дарогу ў касцёл у далёкім маленстве:

*Бегла дарога, кацілася,*
*як парыванне з душы.*
*Як жа ты, сэрцайка, білася*
*у прадчуванні Імшы*!..

А ў вершы, які даў назву гэтай кнізе, у апошняй страфе, яшчэ задоўга да адыходу ў вечнасць, Мар'ян як бы падсумаваў свой зямны шлях:

*Найлепшая пара —*
*адчуць з абдымкаў змогі,*
*што ўсе твае дарогі*
*вялі да алтара.*

Сімвалічна, што Пан Бог паклікаў да сябе нашага сябра менавіта 19 красавіка, у Вялікую пятніцу, як быццам Збаўца запрасіў яго падзяліць з Ім гэтую таямніцу Пераходу ад зямнога жыцця да вечнага. І так хочацца верыць, што Мар'ян пачуў Ягоныя словы: «Сёння будзеш са Мною ў раі» (Лк 23, 43). Здаецца, ён іх заслужыў.

*Крыстына Лялько*

Сяргей Законнікаў

# Валун каля Лінца

Лінец — гэта маляўнічае невялічкае азерца на Вушаччыне, якое саграе маё сэрца з гадоў маленства. У нашым краі «вачэй зямлі» (так у першых сваіх вершах я назваў водную сінечу, раскіданую паміж лясоў, узгоркаў, ніў і лугоў) маецца шмат. Пасля палявой, адкрытай усім вятрам вёскі Галі, у якой жыў да сямі гадоў, дзе ў летнюю спякоту высыхалі нават калодзежы, Глыбачка, затуленая цішынёю ў азёрна-лясной старонцы, куды перавялі на працу бацькоў-настаўнікаў, здалася сапраўдным раем.

За час маёй вучобы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (1964–1969) нямала студэнтаў перабыло ў бацькоўскай хаце. Вёска, яе прыгожыя ваколіцы з першага прыезду спадабаліся Мар'яну Дуксу — аднакурсніку і аднагрупніку. Манюсь, так звычайна па-сяброўску я звяртаўся да яго, стаў у нас сапраўды сваім чалавекам.

Мы і ў Мінску часта былі разам не толькі на лекцыях, практычных занятках і агульных мерапрыемствах. Сутыкаліся ў залах «Ленінкі» — галоўнай бібліятэкі рэспублікі, наведвалі пасяджэнні літаратурных аб'яднанняў — універсітэцкага, якое вёў наш выкладчык, сам паэт і літаратуразнаўца, чалавек вялікай душы, з заўсёднай прыветлівай усмешкаю, незабыўны Алег Антонавіч Лойка, і пры газеце «Чырвоная змена», дзе куратарам пачынаючых літаратараў быў Уладзімір Андрэевіч Паўлаў. У інтэрнаце на Паркавай магістралі, якая цяпер мае гучную назву праспект Пераможцаў, мы жылі на пятым паверсе, блізка адзін ад аднаго. Прыбягалі раз-пораз пазычыць хлеба або солі, перакінуцца слоўкам. Яднаў нас і агульны занятак: у вольны ад вучобы час выпускалі насценныя газеты, але не афіцыёзныя, з адной сумнай перадавіцай на гіганцкі аркуш, а вясёлыя, гумарыстычныя, стракатыя зместам і ярка аформленыя. Яны звычайна вывешваліся на калідоры, чытаць іх на пяты паверх збягаўся ўвесь інтэрнат, а «кватаравалі» ў ім не толькі філолагі, але і журналісты, юрысты, біёлагі, географы...

Відаць, найбліжэй нашы душы сышліся ў вандроўках па розных кутках Беларусі, па Літве, дзе мы доўга шукалі цётку Мар'яна, і па маёй маляўнічай малой радзіме. Мне хацелася падзяліцца з сябрам чароўным багаццем тутэйшай прыроды, улюбёнымі куточкамі, дзе меў рыбацкія, грыбныя, ягадныя і іншыя сакрэты, а таму паступова адкрываў яму цікавыя мясціны. Напрыклад, паказаў такавішчы ўнікальных, старажытных, асцярожных прыгажуноў глушцоў і не менш цікавых цецерукоў, баравіковыя россыпы ў Старым і ў Новым барку, ураджайныя паляны лісічак, журавінавыя паплавы, плантыцыі дурніц (буякоў, або галубоняў), якія растуць у балотах паміж багульніку.

Наша хата стаіць на беразе возера, якое мае такую ж назву, як і вёска, — Глыбачка. Перайшоў вуліцу-дарогу, і ты ўжо ў царстве вербаў, аеру і чаратоў, на зручнай шырокай кладцы, да якой туліцца човен.

«Хатняе» азерца прыкладна аднолькавае памерамі і не менш рыбнае, чым Лінец, што сінее далей — за хмызнякамі і могілкамі. Але я хадзіў вудзіць рыбу менавіта з «дрыгвы», якая мелася на суседнім вадаёме.

Зялёная пляцоўка, зладжаная прыродай з торфу, каранёў аеру і асакі, ягадніку журавін, моху, дзеразы і невядома чаго яшчэ, вісла над вадой і таму надта хісталася пад нагамі. Па змайстраваных з жэрдак вузкіх кладках трэба было асцярожна прасоўвацца да вялікіх лазовых кустоў, што раслі на самым краёчку. Калі саступіш з кладкі, то адразу праваліўся.

У Лінцы і дагэтуль ёсць ліні — рыба прыгожай зеленавата-серабрыстай або цёмна-бурай з бронзавым адлівам афарбоўкі, а таксама немалой сілы. На вуду я зрэдку лавіў толькі невялікіх ліньકоў. Дарослая рыбіна, а ліні растуць да 70-ці сантыметраў і бываюць вагою да сямі кілаграмаў, з лескай расправіцца імгненна.

З гэтым кутком звязана маленства і юнацтва, ён дарагі мне, а таму я адразу ў першы прыезд абуў сябра ў гумовікі і павёў на Лінец. Мар'ян агледзеў мае запаветныя мясціны, пахмыкаў і сказаў, што аддае перавагу бліжэйшаму возеру: там з чаўна можна паставіць невялікую сетачку, папалохаць боўткай рыбу ад берага і мецъ хуткі вынік. Трэба сказаць, што Манюсь не быў заядлым рыбаком, не меў вытрымкі цярпліва сядзець з вудай, але такі спосаб лоўлі яму падабаўся. Па прыездзе ў Глыбачку, не здымаючы фарсістых «сталічных» чаравікаў і штаноў, ён лез у човен, гукаў бацьку: «Ну што, Іван Васільевіч, пашастаем па чаратах, паганяем карасёў?»

Мар'ян рана адчуў страту блізкага чалавека. У 30-я гады яго бацька ездзіў на заробкі ў Амерыку. Цяжкая праца за акіянам дазволіла сабраць грошай, на якія па вяртанні дадому селянін займеў кавалак зямлі з бярозавым гаем, уласны хутарок.

Пасля вайны ў час «раскулачвання» мясцовыя «пралетарыі» ехалі на нагружаных вазах ля хутара, свісталі ў пальцы, гігікалі і крычалі: «Гэй, Мікола, выходзь! Паглядзі, як мы твой бярэзнік пад корань выразалі!» А затым бацька захварэў і памёр. Не толькі прыгожы бярэзнік, але і ўсё лепшае беларускае сялянства выразала пад корань крывавая сталіншчына, ад якой немагчыма пазбавіцца да цяперашняга часу, бо яе рэцыдывы перашкаджаюць нашай нацыі акрыяць і ўзмацнець.

Мар'ян не меў нават фатаграфіі бацькі, але ў думках і вершах звяртаўся да яго пастаянна:

*Ну як, мой балесны, пазнаць цябе, як,*
*калі апынуся на верхніх нябёсах?..*

Сваімі душэўнымі перажываннямі ён дзяліўся часта, а таму мне было зразумела, чаму Мар'ян так хінецца да майго бацькі, а той ставіцца да яго з асаблівай увагай, цеплынёй і ласкай. Пасля ён пісаў бацьку ў лісце: «*Глыбачка, мусіць, зусім заснягала. І лодка, мусіць, умерзла, няма цяпер як закінуць невадок, няма, як той казаў, той вераснёўскай ідыліі, калі можна было шастаць паміж чаратоў*».



Сяргей Законнікаў і Мар'ян Дукса
на радзіме Сяргея Законнікава
ў в. Глыбачка Ушацкага р-на. 1967 г.

Наш край багаты на камяні. На думку вучоных, ледавік прывалок іх сюды каля 18–20 тысяч гадоў назад са Скандынавіі або з Выбарга. Я паказаў сябру ў Новым барку каменны масіў ля дарогі, шмат разрозненых валуноў. Асабліва ўпадабаў Мар'ян вялікі камень на беразе Лінца, каля якога расла старая вольха. На яго плоскай паверхні можна было свабодна размясціцца некалькім чалавекам і нават паставіць палатку ад дажджу. Тут Манюсь звычайна пісаў вершы. Ён браў з сабою перакус, посцілку, пару цікавых кніг, блакнот, агульны сшытак, аловак, ручку-самапіску і зашываўся сюды на паўдня.

Аднойчы на валуне ён забыў сігнальны экзэмпляр свайго першага зборніка вершаў «Спатканне» (1967), за які яго пазней прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. Дарэчы, Мар'ян пацяшаўся над тымі, хто лічыў, што ён «уехаў у літаратуру на трактары». Па інерцыі, як павялося ў СССР з 20–30 гадоў, лічылася пахвальным, калі пачынаючы літаратар мае працоўную біяграфію. Прытым, чым цяжэйшая праца (каваль у горадзе, даярка, механізатар у вёсцы), тым лепш. Мар'ян з гумарам піша маім маці і бацьку: «*Дзякую за тое, што вы мяне ўгледзелі па тэлевізару. Гэты Валянцін Лукша, які рызыкнуў мяне прадставіць шырокай арміі тэлегледачоў, вельмі ўжо стараўся падкрэсліць, што я хлопец вясковы, па сваёй сутнасці «прасцяк» — маўляў, толькі ўчора хадзіў па калгасных палетках басаnож… Яшчэ ён хацеў сказаць, што я ўехаў у беларускую літаратуру на дызельным трактары ДТ-54, але гэта я яму катэгарычна забараніў, своечасова скеміўшы, што ў такім выпадку мяне, мусіць, не пакахае ні адна беларуская дзяўчына…*»

Магчыма, мне, як сябру, найбольш выразна бачылася і адчувалася, якой тонкай душэўнай арганізацыі быў гэты неардынарны, ад прыроды далікатны, сціплы чалавек, які любіў волю, адзіноту, думанне, засяроджанасць...

Калі пайшла мода прываблiваць нечым у вёску турыстаў, то ў 1988 годзе тром валунам каля Глыбачкі надалі ахоўны статус. Не ведаю, ці ёсць сярод іх магутны падмурак Мар'янавых маладых вершаў, але «Глыбачанскія валуны» сталі геалагічным помнікам рэспубліканскага значэння.

Пасля сканчэння ўніверсітэта і размеркавання Мар'ян пачаў настаўнічаць у вёсцы Солы Смаргонскага раёна, ды так у ёй і застаўся. Малады педагог працаваў шчыра і самааддана, але быў невысокай думкі пра адукацыю ў таталітарнай дзяржаве. Як ён успрымаў сваё настаўніцтва, сведчыць ліст да майго бацькі: «*Добры дзень , Іван Васільевіч! Ваша прозвішча, прызнаца, гучыць ужо для мяне як*



Мар'ян Дукса сярод удзельнікаў літаб'яднання пры газеце «Чырвоная змена». 1965 г.

*пошчак з мінулага — усё-такі як даўно я бываў у Вас, гутарыў аб усім на свеце, а болей аб літаратуры, у прыватнасці беларускай, і аб яе «шляхах да рэалізму». У мяне такое адчуванне, што быццам я ўвесь гэты час размотваў драціну часу… Качулка з намотаным дротам стаіць на вашым двары, яна круціцца, круціцца, а я адыходжу ад Глыбачкі ўсё далей і далей з драцiной у руках…*

*За гэты час я паспеў выпусціць у нябёсы чатыры пакаленні ластавак са школьных сцен, зараз калышу пятае пакаленне. І самому хацелася нырнуць у нябёсы, але, мусіць, нейкая варажбітка зачаравала мяне, і я так і не змог скрануцца з Солаў, якія мне, услых кажучы, станоўча абрыдлі.*

*Так, за гэтыя гады я ўволю накаштаваўся «вучэбна-выхаваўчага працэсу», які мне апошнім часам уяўляецца судовым працэсам, бясконцай цяганінай «чыноўнікаў ад асветы» і іншай верхаводкі з настаўнікамі, якія заўсёды ў пройгрышы. Лявон Зяблік мог больш разлічваць на справядлівасць і праўду, чым сёння настаўнік. Таму-сяму здаецца, што паправіць, палепшыць «карэнным чынам» мараль нашага грамадства можна, калі штодзённа сцёбаць па лытках настаўніка («так ведущее нас провиденье указало: да он же привык!»).*

*Увогуле, правінцыя ёсць правінцыя. Напачатку, калі я прыехаў, абывацелі раёна выказалі некаторую зацікаўленасць маёй асобай, але гэта хутка прайшло, і многіх пачало тузаць, што я пішу «сцішкі» і трымаюся вертыкальна. Зараз, скажам, на апошнім савеце раяна, мне далі недвухсэнсоўна зразумець, што мая прысутнасць у школе непажадана. Заг. раяна, відаць, хоча паўзці ўверх, наша асвета раёна займае другое месца ў вобласці, таму ён баіцца, бо маё выхаванне, хоць і стараннае, можа, але не заўсёды ўвекавечана ў пратаколах, папках, стэндах і вітрынах, можа, яму (а раптам!) перашкодзіць у дасягненні плеценага крэсла. Такая мэта, і раптам нейкі Дукса (настаўнік, арганізатар з Солаў) з яго дзівацтвамі. Трэба ж — такая неадпаведнасць, такія антонімы!»*

Нашае з ім ліставанне было вясёлым, забаўным, але поруч з гумарам былі і сур'ёзныя праблемы. Часцей за ўсё ён звяртаўся да мяне словамі: «Мой князь». Я адчуваў, што Мар'яну цяжка хадзіць «у хамуце», што яму патрэбна творчая праца, звязаная з літаратурай. Вось яго крык душы: «*Увогуле зараз волі мнагавата, хоць выпрабаванне воляй не менш цяжкае, чым любой службай, тым больш калі гэта воля яшчэ не падмацавана матэрыяльным базісам. Працаваць я гатоў з рання да вечара, толькі не служыць, „блюсці" ўсякія субардынацыі і штодзённа адчуваць, як такая ж, як ты сам, вош кусае цябе без асаблівага сораму. Нешта, князь ты мой, тут не так, не існуе на свеце аргументаў, каб сёння пераканаць мяне, што гэта — норма. Я па сваёй натуры абсалютна пасіўны (Вольга Іпатава ў сваёй рэцэнзіі гаварыла пра гэта), але апошнім часам падшыбае да актыўнага вышуку прычын. Ведаеш, многіх не пашкодзіла б патузаць такой, як зараз у мяне, няпэўнасцю становішча — цікавая складваецца псіхалогія, а таксама погляды. Праўда, усё гэта вядзе да страшэннага нігілізму, твой цынізм пачынае прымаць аблічча Мефістофеля, і ты фактычна становішся антычалавекам. Тут адно выратаванне — вера ў Бога. Свядомае адлучэнне сябе ад жыцця зямнога павінна суправаджацца верай у іншае быццё, інакш… Ну, хопіць!*».

Некалькі разоў я прапаноўваў яму перабрацца ў Мінск, але ён усё ніяк не адважваўся на такі паварот у лёсе. Відаць, адчуваў, што страціць сваю волю, якая ёсць, няхай сабе і «галодная», няўтульная, бо і ў горадзе трэба будзе служыць. А ў вёсцы ўсё ж пад бокам маецца прырода, прастора для думання, філасофіі, фантазіі, творчага ўскалыху душы.

Да літаратуры, асэнсавання яе ролі мы вярталіся рэгулярна: «*Зараз я паціху карпею над рукапісам, які трэба аддаць у выдавецтва на пачатку лета. Адна ў мяне ніва, іншай няма і, відаць, не будзе, трэба займацца паэтычнай сяўбой. Ці трэба гэта каму — а халера яго ведае. Можа, усё, што*

*мы робім, нікому не патрэбна. Жыццё — гэта свет ілюзій і Сізіфавых камянёў. Але ж некаму гэты свет патрэбен. Нічога, хутка спусцяцца гуманоіды і ўсё нам растлумачаць».*

Мар'ян меў добры літаратурны густ і адметны крытычны патэнцыял, яго меркаванні пра паэзію вызначаліся высокай дакладнасцю і эстэтычнай бездакорнасцю. Адносна творчасці многіх сучасных паэтаў ён заўважае: «*Зашмат аморфнасці, надумана „беларускай улагоджанасці", што таксама не зусім адпавядае сапраўднасці. Я тут маю на ўвазе, што паэт павінен выразна, не скажона данесці сваю нацыянальную ментальнасць. І ўсё-ткі пастаянна ставіць нейкую „звышзадачу" — маральную, нацыянальную, філасофскую, тым самым і ствараць атмасферу высокай энергіі, як гэта мы бачым у Панчанкі, Вярцінскага ці ў тваёй чарнобыльскай паэме (адзін раз пабудзем нясціплымі)*».

Пазней ліставанне сышло ў Лету, але мы ніколі не шкадавалі грошай на доўгія тэлефонныя размовы, хоць часам падсмейваліся над сабою: ці хопіць пенсіі расплаціцца за мудрагелістыя разважанні, няпросты зместам дыялог? Мар'ян часта казаў, што нашыя гаворкі пра літаратуру, культуру, увогуле пра жыццё маглі б праз трансляцыю па тэлебачанні ці радыё прынесці значную асветніцкую карысць.

Сябра здзіўляўся таму, як я на працягу чатырнаццаці гадоў знаходжу новыя і новыя тэмы для штотыднёвага «Пункту гледжання» ў незалежнай газеце «Свободные новости плюс». Я адказваў: «Манюсь, ці табе такое казаць? Ты ж можаш з нічога зрабіць верш, прытым не прахадны, а моцны дэталямі, метафарамі і філасофіяй. Рэгулярна пісаць публіцыстыку на самыя розныя агульначалавечыя тэмы дапамагаюць якраз вершы. Думанне над імі — выдатная трэніроўка!»

Мне няма патрэбы шчодра цытаваць паэтычныя радкі Мар'яна. Цяпер азнаёміцца з творчасцю любога паэта — не праблема: ёсць кнігі, публікацыі ў інтэрнэце. Скажу толькі, што яго вершы і паэмы як былі з рамантычнай маладосці, так і засталіся чалавечнымі, гуманістычнымі, гранічна шчырымі, даверлівымі. А для мяне — гэта самыя галоўныя і важныя якасці сапраўднай паэзіі.

Мар'ян быў шчырым вернікам, спяваў у касцёльным хоры. Ад маці яму перадалася вялікая духоўная чысціня. Ён дзяліўся са мною глыбіннымі душэўнымі памкненнямі і перажываннямі, захапляўся незвычайнай прыгажосцю і неўміручай, неадольнай сілай веры. Мы гутарылі пра долю нашага народа, пра яго духоўныя ўзлёты і падзенні ў выніку здрады сабе, пра менталітэт тутэйшага люду, у якім намешана столькі добрага, але разам з тым і кепскага, нават агіднага...

Духоўныя пошукі Мар'яна былі плённымі. У сваёй апошняй прыжыццёвай кнізе «Птушка вечнасці — душа» ён піша:

*Адолеўшы ўсе кладкі і масты,*
*адбі паклон усім сваім дарогам.*
*Нутром адчуй: не памыліўся ты,*
*што вельмі рана паяднаўся з Богам.*

Калі я згадваю Мар'яна, то ў памяці першым выплывае фотаздымак рамантычнага хлопца са зборніка «Спатканне», а затым і сам ён, лежачы на посцілцы, рассцеленай на вялізным камені, з агульным сшыткам і алоўкам у руцэ. Малюнак маладосці даў штуршок развітальнаму вершу.

## Кніга на валуне

*Памяці Мар'яна Дуксы*

Час знікае за дальняй гарой,
Тчэцца, нібы палавік на кроснах…
Шэры валун ля вольхі старой
Столькі пабачыў, што думаць млосна.

Ён у зямлю ўрастае глыбей,
Ды пазірае высока ў нябёсы.
Возера білася хвалямі ў глей,
Потым стаіўся свет шматгалосы.

Лёс, быццам шлях, туды нас вядзе,
Дзе хваліцца няварта і нечым.
Золата сонца блішчыць на вадзе —
Хто ўкрадзе яго ці прысабечыць?

Гэтак жа ўзрушаць радасць і боль,
Што назаўжды захаваліся ў слове.
Творцы не паляць масты за сабой,
Нават з нябыту служаць любові.

Праўды дзень яшчэ не прыйшоў,
Толькі Богу ніяк не зманіш.
Вольны народ з жывою душой —
Ці не пра гэта мы марылі, Манюсь?

Безліч стагоддзяў без нас праміне,
Ды не састарыцца гутарка тая...
Кніга ляжыць на сівым валуне,
Вецер яе асцярожна гартае.

# «Пропаведзь, дадзеная Богам…»

*Пайшоў з жыцця добры чалавек — католік, педагог, паэт, сябар…*



Здаецца, яшчэ ўчора мы разам ездзілі шчаслівай вандроўнай сябрынай — з пісьменнікаў-землякоў, сівых краязнаўцаў і па-хрысціянску клапатлівых бібліятэкарак — па цудоўных, сагрэтых далікатным паўночным сонцам літаратурных мясцінах Маладзечаншчыны, Смаргоншчыны. Ездзілі ў старэнькім, прыцемненым, як келля, мікрааўтобусе — у пошуках новых чалавечых душаў, узараных жыццёвымі нягодамі, але яшчэ не засеяных добрым зернем цэльнага светабачання нашага роднага, прыгожага Свету. Душаў простых тутэйшых людзей самага рознага ўзросту — адкрытых на слова, на ідэі ўдасканалення асобы і збаўлення ад пакутаў малазразумелай штодзённасці… «Твая пара сяўбы», — гэтак афарыстычна вызначыў наш асветніцкі місійны слоган гадоў 30 таму лепшы рамантык ад паэзіі і сапраўдны вернік Мар'ян Дукса. Ён назваў так некалі свой (не першы ўжо) зборнік вершаў (1985). Назваў, прадчуваючы і будучыя «Заснежаныя ягады» (1989), і «Горн прымірэння» (1993), і «Валуны на пагорках» (1994) у спадзяванні адысці ад вострай сацыяльнай і маральнай крытыкі чалавечых і цывілізацыйных заганаў і ў рэшце рэшт «Прыйсці да алтара» (2003)…

А нядаўна, страшна нечакана, па нябачным тэлефонным провадзе, як па калючым дроце ці па біблійнай ссохлай галіне голага цёрну, прыйшла сумная вестка, што нашага мілага Мар'яна не стала. Ён адышоў у Вечнасць, у іншую, таямнічую вертыкальную вандроўку, ужо з іншымі персонамі, хутчэй — іх душамі, аснову якіх складаюць людская Памяць, Вера і Надзея. Душы, захутаныя ў вэлюм Любові…

Сёння, азіраючыся назад, пасля сумнага развітання назаўсёды, здаецца: так, як мы ў тыя плённыя на сустрэчы 2010-я гады, некалі, амаль 2000 гадоў таму, вандравалі па свеце Апосталы — настаўнікі новага хрысціянскага вучэння, а з імі вучні, аўтары першых кананічных біблійных тэкстаў, зваротаў, лістоў да мясцовых жыхароў…

Не ведаўшы яго асабіста амаль 50 гадоў свайго жыцця (да сораму!), а толькі завочна, па кнігах і публікацыях у прэсе, па рэдкіх партрэтах каля вершаў і ў літаратурна-мастацкіх зборніках на чорна-белых уклейках, я тады ўжо прыкмеціла яго ўлюбёны фасон пуловера, надзетага паверх кашулі ці глухой «вадалазкі»: пуловер з выразам у выглядзе лацінскай літары «V» («Viktoria»? «Перамога Дабра»?), у апошнія гады падкрэсленай нават у новых мадэлях аздобаю-пункцірам. Пры ўсёй сваёй чалавечай сціпласці і адпрыроднай, нават прыроджанай засяроджанасці (бо першыя яго гады жыцця сельскім хлопчыкам прайшлі сярод траваў, кветак, кустоў, дрэваў, жывёлаў і птушак, драўляных і цудоўных механічных металічных рэчаў у доме і на падворку), Мар'ян Дукса выглядаў разам са сваім адметным мастацкім стылем «выштукоўваннія зразумелых вершаваных радкоў» пэўным паэтычным Князем, Кіраўніком несфармаваных душаў, Правадыром у адкрыты ім звышцэнны свет Паэзіі. Паэзію ён у сваіх пазнейшых вершах параўноўваў з законам веры і разважаў разам з нябачным суразмоўцам, ці яна, як рэлігія, проста «*прыстанішча кволых*» ці, што парадаксальна, відавочнае «*прыстанішча мудрых тытанаў*»… У апошнія гады, калі ён спяваў ужо ў касцёльным хоры, друкаваўся ў каталіцкіх часопісах «Ave Maria» і «Наша вера», мы пазнаёміліся наяве ў Маладзечне. Аказалася, што мы з ім абое нарадзіліся ў Маладзечанскай вобласці (былой Вілейскай). Іх абедзвюх ужо не існуе, а мы, абое былыя настаўнікі і сучасныя паэты — ёсць! Гэтае адчуванне жыццёвай радасці, як і нявінныя тэлефонныя святочныя віншаванні па некалькі разоў на год у 2010-я гады, давалі вялікае пачуццё сяброўства, сваяцтва, бязмежжа, бясчасся… Мы некалькі гадоў нават абменьваліся па пошце ўласнымі кнігамі — забытымі «найлепшымі падарункамі» калегаў па слове. Асабліва ўразіла мяне зялёная кніга вершаў «Птушка вечнасці — душа» (2015). Я напісала на яе далікатны водгук пад назваю «А людскія высілкі зноў квітнеюць ружамі» (цудоўны радок з верша Мар'яна Дуксы!), пазней надрукаваны ў «Нашай веры». Яго паэзія для мяне як філолага заўсёды поўная мудрых і прыгожых афарызмаў, як Біблія, а таксама аўтарскіх неалагізмаў, аказіяналізмаў і іншых

наватвораў, на што здатны толькі ўпэўнены ў сваёй творчай сіле Майстар: напрыклад, *«залатыя прызмеркі»*, *«лаціняцца назовы»*, *«арэоліць мундзір»*, *«марудна-абамлелыя аблокі»*. Уладар свайго паэтычнага свету, Мар'ян ствараў новыя словы і новыя творы, пачуцці ў іх.

У тыя гады я звярталася да яго з падкрэсленай пашанаю — спадар Мар'ян. Яго даволі рэдкае імя і прозвішча перакладаецца з даўно памерлай у народным ужытку, але жывой у высокіх сферах лацінскай мовы як «Марскі Арыстакрат (Герцаг, Князь, Дож, Военачальнік, Правадыр)». Ён такім па сваёй сутнасці і быў. Яшчэ раз успамінаю, што, калі мы, пісьменнікі, вандравалі на мікрааўтобусе па маршруце «*Там, дзе Уша серабрыцца*», я бачыла, што зрэдзьчасу з намі ездзіў і шляхетна ўбелены натуральнай сівізною чалавек — Мар'ян Дукса. Без гальштукаў-«бабачак», карункавых жабо ці парэзаных, як багет, джынсаў… Я тады тайна любавалася асветленай залатым сонцам яго прыемнай знешнасцю прыгожага творчага чалавека, у якім, як казаў Антон Чэхаў, усё было прыгожа: і цела, і душа, і думкі, і абраная ім вера.

Мы вандравалі, заязджаючы ў мястэчковыя школы, бібліятэкі, музей Францішка Багушэвіча ў пошуках *«забытых слоў»*, *«прыгаршчаў суніц»* на ўзбоччы, праз нейкую *«зону супрацiўлення»*, на абяцаныя спатканні з чытачамі і, здаецца, насамрэч пачутых павольных крокаў самога Багушэвіча па драўляных дошках падлогі яго дому…

Светлая памяць табе, дарагі Мар'яне! Твае словы, афарызмы, назвы кніг гучаць, уплятаюцца ў нашу далейшую гарызантальную вандроўку па грэшнай зямлі. Будзем помніць, што ты казаў; «*Паэзія — гэта пропаведзь, заўсёды гуманістычная па сваёй сутнасці. Пропаведзь, дадзеная Богам*».

*Людміла Сільнова*

# «Нястомны шыпшыннік!..»

## *Светлай памяці Мар'яна Дуксы*



Мар'ян Дукса, Славамір Хадаронак, Мікола Федзюковіч, Яўген Крупенька, Данута Бічэль, Яўгенія Янішчыц. V Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў у Маскве. 1968 г. Фота С. Панізьніка.

Як цяпер, чую я звонкі, бадзёры голас Мар'яна Мікалаевіча: «Дзень добры! Як справы?» Бачу яго добрую ўсмешку, уважлівыя вочы. Гэты чалавек іскрыўся светлай, шчырай энергіяй, адорваў акружаючых яго людзей цяплом сваёй душы, заражаў сваім аптымізмам, які ён пранёс праз усё жыццё, не страціў падчас выпрабаванняў і нягодаў. Безумоўна, дапамагала яму ў гэтым яго творчасць. У ягоных вершах адлюстроўваюцца боль і радасць, перажыванні і трывогі, шчаслівыя імгненні і светлыя надзеі. Тонка адчуваў ён прыгажосць роднага краю, быў песняром прыроды і чалавечай душы, моцна перажываў за наш час, за залішнюю прагматызацыю жыцця, страту духоўнасці: *«Эпоха прыйшла не мая. // Рулюе паўсюдна прагматык. // Учэпісты практык. А я // на ўзбочку — музейны рамантык»*. Але любоў да Айчыны была мацнейшаю за горыч расчараванняў: «*Ты — толькі ад Бога, //святло з-пад аблокаў. // Ты — дрэва, з якога // кроў сыціцца сокам*».

Вельмі любіў паэт сваю вёску Солы з прыгожым касцёлам у цэнтры, у якім маліўся і спяваў у парафіяльным хоры... Ягоная шчырасць і душэўнасць заўсёды адчуваліся і ў размовах па тэлефоне, за многія кіламетры. Пасля такіх размоваў з Мар'янам Мікалаевічам надоўга заставалася пачуццё бадзёрасці, нібы сонейка зазірнула ў душу і сагрэла яе сваім святлом. Я вельмі ўдзячная лёсу і ганаруся тым, што мне давялося быць знаёмаю з гэтым высакародным чалавекам. Тое, што яго цяпер няма сярод нас, — вялікая страта для ўсіх: для яго сям'і, яго родных і блізкіх, для яго сяброў і калегаў, для ўсіх чытачоў. Нам у суцяшэнне засталіся ўспаміны і вершы, праз якія паэт працягвае размову з намі, у якіх ён таксама жыве.

Мне здаецца, што душа яго і з нябёсаў назірае за намі, лунае над Соламі, над Беларуссю і па-ранейшаму хоча зрабіць нешта добрае, даць параду, дапамагчы. Ён сам — нібы нястомны шыпшыннік з яго верша: «*Хоць снежныя хмары // збіраюцца дзесьці — // у неба // з калючага лезеш адзення. // Далей — у зіму — // парываешся несці // трываласць пладоў // і нястомнасць цвіцення*».

*Алена Сямёнава-Герцаг*

# Мар'ян Дукса

## ПРЫЙСЦІ ДА АЛТАРА

Прыйсці да алтара,
калі заззяе ранне
і знакам веры стане
світальная зара.

Прыйсці яшчэ тады,
як радаснае сэрца
крыніцай гулка б'ецца,
не знаючы бяды.

Прыйсці да алтара,
з адданасцю укленчыць,
якападзе на плечы
зямных турбот пара.

Ад клопатаў усіх
заныюць ногі-рукі.
І часам прыйдуць мукі
ў душу на нейкі міг.

Прыйсці да алтара,
як згаснуць сонца чары
і зацвіце на твары
вячэрняя зара.

Хоць ходзіш ты цяжэй,
стамляе ўжо дарога,
але цяпер да Бога
табе бліжэй, бліжэй...

Найлепшая пара —
адчуць з абдымкаў змогі,
што ўсе твае дарогі
вялі да алтара.

* * *

У кожнага шлях свой да Бога,
адметны, адзіны, як лёс, —
ці веццем спавіты бяроз,
ці пылам гасцінца старога.
Той шлях выпадае нядобры —
ад тупкіх дарог убаку,
цярэбіцца па цаліку
праз лужыны, снег і калдобы.
У кожнага шлях непаўторны —
праз сонца, сутонне імжы,
праз музыку светлай душы,
праз смутак, маўклівы і чорны.
І тут не паробіш нічога —
на гладкія надта шляхі
твае не пускаюць грахі...
У кожнага шлях свой да Бога.

* * *

Гэту дарогу раннюю
з памяці, з грунту не змыць.
Самай прыемнаю ранаю
так настальгічна шчыміць.
Нават зусім не палохае
гойсаннем частых ваўкоў.
Гусценька мройнай чаромхаю
апаясана з бакоў.
Пахнуць лісцём вербалозіны,
сцелецца дух верасоў.
Закалыханае возера
гляне з калыскі лясоў.
Птаства з галля шматгалосае
хваліць раскошу цяпла.
Гэта дарога шматвёрстная
надта ўжо спеўнай была.
Гэту дарогу нядзельную
ты не забудзеш ніяк.
Вабіла вежа касцельная
з далечыні, як маяк.
Паружавелая зранку,
зырылася чысцінёй.
Думкі — крылатыя жаўранкі
так і кружылі над ёй.
Бегла дарога, кацілася,
як парыванне з душы.
Як жа ты, сэрцайка, білася
у прадчуванні Імшы!..

* * *

Адна дарога, і яна — да Бога.
Якая ўсё ж у гэтым яснасць духа!
Адна дарога, хоць іх вельмі многа.
Адна — між іншых варыянтаў руху.

Ёсць добрае, прыкіньце самі, выйсце
з блукання, утрапення і пакуты.
Навокал стрэлкі клічуць нас кудысьці,
убок так цягнуць іншыя маршруты.

Маўчаць яны пра свой нікчэмны фініш,
пра блізкі попел гонару людскога.
А сэрца мудрае нічым не спыніш...
Адна дарога, і яна — да Бога.

* * *

Пакіньце мне маю адзіноту,
сплецены з вецця ціхі будан.
Баюся я зведаць чарговы падман,
найлепш з галавой акунуцца ў самоту.

Пакіньце мне маю адзіноту.
Я праўду сваю расцугляю тады.
Угледжу сябе я ў люстэрку вады —
і твару спакойнаму ўсцешуся ўпотай.

Пакіньце мне маю адзіноту,
якая, як мак, расцвіце у глушы.
Вясенняй мелодыі ўласнай душы
не адпавядаюць вашыя ноты.

Пакіньце мне маю адзіноту,
якая, як радасны мак, расцвіце.
І ў сэрцы, і ў сэрцы няўзнак прарасце
яшчэ раз, яшчэ раз світальная цнота.

* * *

Святыя Пётра і Андрэй,
хвала вам чыніцца вякамі.
Былі вы проста рыбакамі,
што веславалі ў ветравей.
Ды рэзка вас з'іначыў лёс,
перамяніў занятак сталы.
Лавіць вы чалавекаў сталі...
На гэта блаславіў Хрыстос.

Мой лёс, і ты мяне прыгрэй,
удачаю пацеш хоць зрэдку.
Зірніце на маю вы сетку,
святыя Пётра і Андрэй.
Не старанна й шчыра плёў,
ткаў вечарамі і начамі.
І вось яна перад вачамі —
сабраная з патрэбных слоў
і звітая з найлепшых дум...
І вось яе цераз хвіліну
з надзеяй у натоўп закіну —
у чалавечы вір і тлум.
А радасць у мяне адна:
як невадам, я словам дужы
шматлікія тапельцы-душы,
глядзіш, і выцягну са дна.

* * *

Можа, з зорнага каўша
выпадкова заляцела
у збянтэжанае цела
птушка вечнасці — душа.

Выпала з нябёс сваіх,
некаму зрабіла ласку,
трапіўшы ў зямную пастку,
затрымаўшыся на міг.

Лёгка, нібы мімаходзь,
для прыгоды ці забавы
увайшла у нашы справы,
азарыўшы небам плоць.

Кроплю скінула цяпла
у пахмурны дзень балесны.
Шчодрая, агонь нябесны
сэрцу цёмнаму дала.

Хутка — зноў у родны дом.
Бо не хочацца адчайна
быць заўжды несумяшчальнай
з каламутным нашым дном.

Кліча млечная шаша.
Праз надзею і бяссілле
слізгаціць нячутным крыллем
птушка вечнасці — душа.

* * *

У бездань скідваючы злое,
усё, што не пасуе нам,
душа, ты тою стань скалою,
дзе веры узнясецца храм.

Тым маналітам цвёрда-шчыльным,
які не здольны на разрыў —
апорай у служэнні шчырым,
каб час яе не пакарыў.

Асенняй і парой вясновай,
калі стыхія горы рве,
будзь той магутнаю асновай,
якая ўніз не паплыве.

Душа, не будзь жа той скалою,
дзе сохне веры вінаград,
дзе нават цёплаю вясною
халодны снег застацца рад.

Скалою стань такой, якая
ад сонца роднага й дажджоў
заўсёды парастка чакае.
І гэты парастак — любоў.

*Вершы з кнігі «Прыйсці да алтара».*
*Выдавецтва «Про Хрысто», 2003 г.*



# Данута Бічэль

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016), «Дайсці да Каложы» (2017). Жыве ў Гродне.

## Дарога з Кракава да Беластока

*Да 90-годдзя Юрыя Туронка*

У Кракаве каля помніка Гаруну Алесю,
на старых могілках, у занядбаным лесе.

Калі ападала лісце
і цмокі не мелі выйсця,
грыбоў не збіралі ў гушчары,
птушкі збіраліся ў пары,
з-пад хмар сакаталі вятры …

Наша з Юркам Туронкам знаёмства
займала адна дарога —
ад Кракава да Беластока.

У пrасторным аўтобусе цесна…
Юрка меў наперадзе добрае месца…
Размаўлялі пра Гаруна,
пра той камень надмагільны,
каля якога толькі што памаліліся
за душы паэтаў, якія спачылі
ў Варшаве, Кракаве, Вільні…

Божа!
Ён ужо выдаў столькі патрэбных нам кніжак!

Памяць мая згубіла, дзе ён з аўтобуса выйшаў,
раздзяліўшы са мной лісцік і горкі кілішак
за спамін, развітанне і за сустрэчу…
Ён быў такі высокі, такі ўзвышаны,
перапоўнены светлым натхненнем здалечы,
тупатам коней літоўскай «Пагоні»,
чыстай малітвай гэтай зямлі паспалітай
за беларускіх сыноў, пахаваных
у Тайшэце, у Празе, у Закапанэ…

на Монтэ-Касіна, у Рыме, ў Ларэтта,
у розных кутках неабдымнага свету.

Ва ўспамінах святлом уваскрэсне!
Спыняліся каля студзенькі ў лесе…

Ён сядзеў у аўтобусе пры акне,
промнікі ў шкле не краналі мяне,
абнімалі яго галаву,
блукалі ва ўсмешцы на вуснах.

З якой нагоды, з якой карысці
ён мяне выбраў, каб сумаўляцца ў шчырасці?

Ён, жывучы ў Варшаве, пра Беларусь ведаў шмат.
Я ведала — з Беларусі мне дарогі няма.

Такога чалавека высокага стану,
элітнага, вучанага і не пана,
з арыстакратычнай усмешкай,
не сустрэць на вясковых сумежках…
Не атрымаю болей ніколі
такога дарунка ад Бога —
па дарозе з Кракава ў Беласток,
у профіль гледзячы збоку.

Нядаўна яго пахавалі ў Варшаве на Вольскай.

*2 студзеня 2019 г.*

## Неба

Неба над норкай
трымае далёкая зорка.
Зорка грэе і норку, і Павалокі…
Шлях да зоркі па небе далёкі…

Божанька, я такая няўдзячная,
не малюся ўвесь час, як трэба…
Ты апякуешся мной
са спрацаванага
добрымі духамі неба.

Замятаеш ветрыкам горад,
збіраеш азон над полем.
Ты мяне гоіш
Крыжовым болем
бясконцай Божай любові…

Каб не ламаліся вышкі,
падпіраюць нябёсы вішні…
Будзь праслаўлёны, благаслаўлёны
нябёсамі над галавою!

Адчыняю на золку акенца —
Ты мною не грэбуй!
Пусці ў маю норку пагрэцца
Тваё бяссоннае неба!

Цемра мая запаўняецца
ясным сусветам.
Боскім напоем,
святлом, супакоем,
зімою, як летам.

*25 студзеня 2019 г.*

## Тут мяне не было

Паміж вірам і выраем,
сярод народу бяскрылага,
Сын Божы за нас робіць выбар —
праўда або жыццё.

Як сведчанне праўды выберу,
між вас на пясчаным гасцінцы, —
спытаеце, што мне сніцца?
— Жыта — маё жыццё.

Калі дажну сваё збожжа,
Сын Божы мне дапаможа
зразумець, якая раскоша —
адбывацца ў праўдзе жыцця.

Як слуп, паўстане дарога —
углыб зямлі і да Бога…
Пакіну мала ці многа —
душу, зярнятка жыцця…

*6 студзеня 2019 г.*

## Горы

Да нявольнікаў Бог такі добры —
не крутыя насыпаў нам горы,
узыходзьце, здаровы і хворы…
Каб агледзець Радзіму змаглі,
не заўважыўшы, што ўзышлі.

На гары пасяліцца добра!
Пад празрыстай стрэшкай у Бога…
не пакінуць запіскі нікому,
выйсці на досвітку з дому,
можна скаціцца хутка,
можна — паўзком, ціхутка…

Ці ж гара не сышлася з гарою?
Там, дзе разышліся мы з табою…

А сышлася гара Адама
з той гарой, дзе Марылін замак
злучаны драўлянаю кладкай…
кленчамі, парэнчамі, загадкай…
ды касцёлам арханёла Міхала…
Хіба ж гэтых прыгодаў мала?

Бывае гара крутая,
якую рака абрывае:
Сож у Лоеве…
Нёман у Любчы…

У Любчы на Нёмнавай кручы,
над вірам, завоблачным, шчырым,
так было, нібы прорвы і высі —
там сустрэліся і разышліся…

Дзе Мяловыя горы прапалі?
Іх людзі ў мяшкі раскапалі,
пабялілі падмуркі і брамы,
з гор мяловых зрабіліся ямы.
Там цяпер такая глыбіня,
лепей не нырцуйце да дна…
Хто туды нырнуў, той не вылез, —
гэтак помсцяць горы на вынас…

А з гары да зорачкі блізка…
На гару не ўзбярэцца ваўчыска,
ні лісіца ў доўгай спадніцы, —
вораг-злодзей гары баіцца.

Вось такія мы маем горы —
курганы, валатоўкі паганскія,
горы Шведскія, Магілянскія,
насыпаныя на прасторы…

Перамовы вяліся стрэламі,
крывёю, косамі, дзідамі,
з Мастаўлянамі, з Мілавідамі…
Пакуль здраднікі нас не выдалі.
Пакуль Бога ў гарах не сустрэлі мы…

*31 снежня 2018 — 21 студзеня 2019 г.*

## Паэты Адам і Кастусь

Штодзень, праз тыдзень і праз стагоддзе,
людзі адны да другіх заходзяць,
людзі братоў па духу знаходзяць…
увысь, да нябёс, на стос!

Гэтак заходзіў Кастусь да Адама…
Між сэрцамі не зачынена брама.
Гэтак знайшоў Кастуся Адам…
Зачэрпнуў вір і аддаў…

Ад Мікалаеўшчыны да Завосся
можна на крызе, а можна — на возе…
Міма Нясвіжа — у Навагрудак,
вершы збіраючы, творачы цуд…

А не выходзячы з вечных палацаў,
можна з нашчадкамі перамаўляцца,
закалыханым у Кракаве, ў Мінску
Маткай-зямлёй…
Паэты — як з прыску!

Што за музыкі ў рог месяца граюць!
Словы — не дровы, ў агні не згараюць.
Паэты, як дрэвы, не паміраюць…
Час разбураецца, топіцца лёд…
Паэты ўзвышаюць народ!

*22 снежня 2018 г.*

## Ноччу, пасля паўночы

Ноччу, пасля паўночы,
у мой мярложак сірочы,
у бяссонне маё, трыванне,
малітоўнае перабіранне
слёзкаў адной таямніцы,
пераблытванне часу, як быццам —
няма хваробаў, няма мікробаў,
пад гул грамоў-навальніцаў…
збіраюцца ў крузе наўсцяж —
на здаровенькіх ножаньках Ніна Мацяш,
малады Багдановіч Максім
і Венанцы Бутрым,
набраўшы вершаў на дрэве старым,
і Кастусь Тарасаў —
усе разам, па-за часам,
у вобразе-слове,
адмоленым нібы да глянца,
у таямніцах Ружанца…
і Міцкевічы Адам і Кастусь…
Мая містычная Беларусь…

Памяць бяссонная склікала вас
з невідочых, невядомых, засветаў,
а назад, у вядомы мне час,
не маю сілы вярнуць…
Толькі ў любоў сваю загарнуць.

*9 снежня 2018 г.*

# «Гэтыя тры...»

*Пра новую кніжку перакладу твораў ксяндза Яна Твардоўскага*

«Няспелыя розумы гатовыя ахвяраваць жыццём у імя праведнай мэты, а спелыя розумы цярпліва жывуць у імя праведнай мэты», — гэтак мудра сказаў амерыканец Джэром Сэлінджар у сваім знакамітым рамане «Лавец у жыце» («Над пропастью во ржи»), назва якога сталася кодаваю для пакалення бунтоўных інтэлектуалаў. Што гэта такое — «праведная мэта»? І хто такі праведнік? Дзеля чаго ён жыве? Думкі ў пошуках адказу найперш імкнуцца да святарскіх постацяў. На шчасце, яны ёсць і ў нашым усё менш праведным свеце, на шчасце, мы яшчэ памятаем іх жывымі — такім быў наш кардынал Казімір Свёнтэк (1914–2011), а ў палякаў — ксёндз Ян Твардоўскі (1915–2006). Іх праведнасць, іх геніяльная нязломнасць у праведнасці была штодзённаю, відавочнаю, а цяпер ужо і вечнаю. Сваю праведнасць яны разумелі і як увасабленне дадзенай звыш кожнаму, хто прыняў святы хрост, задачы — напрыканцы жыцця трэба стаць перад Богам з душою такою ж чыстаю, якой атрымаў яе ад Бога на пачатку свайго жыцця: з душою дзіцяці. І гэты *«свой маленькі сакрэт»* адкрывае нам ксёндз Ян Твардоўскі:




*проста сяду каля вас*
*і адкрыю свой маленькі сакрэт*
*што я, ксёндз,*
*веру Пану Богу як дзіця...*

Зрэшты, пра многія «сакрэты» ксяндза Яна мы ўжо ведаем дзякуючы таленавітым перакладам яго твораў Крыстынаю Лялько і Данутаю Бічэль («Разам з Табою», 2012; «Перакажыце гэта далей», 2018), Ірынаю Жарнасек («Першая Камунія з белым бантам», 2013) і Ганнаю Шаўчэнка («Ад вуха да вуха», 2014; «Вазьмі свой крыж», 2015; «Кубак з адным вухам», 2016). Новая кніжачка пад назваю «Гэтыя тры...» у перакладзе з польскай мовы Крыстыны Лялько з'явілася ў выдавецтве «Про Хрысто» ў красавіку гэтага года і парадавала гэтак, як радуе сустрэча з духоўна блізкім, родным чалавекам. Гэтая радасць падобная да той, якую адчуваеш, убачыўшы, што не перасохла знаёмая табе з маленства рэчка, у светлай вадзе якой па-ранейшаму бруіцца, струменіць простае, даверліва-наіўнае жыццё — каменьчыкі, рыбкі, жоўтыя гарлачыкі, і па-ранейшаму бесклапотныя стракозкі і матылькі над імі. І каля іх простага радаснага жыцця яшчэ раз з удзячнасцю адчуваеш, разумееш, што і табою, і ўсім гэтым мілым светам, вакол і па-над зямлёю — небам, паветрам і ўсім жывым тварэннем — кіруюць *«гэтыя тры»* — вера, надзея, любоў. Можна напісаць гэтыя словы з вялікіх літараў, але ім гэта не трэба — яны ціхія, доўгацярплівыя... Дзіўная абстракцыя, на якую можна абаперціся і якой нельга навучыць. Менавіта паводле гэтых трох «абстракцый» укладзеная кніжачка «Гэтыя тры...», у падзагалоўку якой укладальніцаю, Крыстынаю Лялько, мудра пазначанае не банальна-звыклае «зборнік» ці «збор», а дакладнае, трапнае, ёмкае слова «выбар» — «Выбар вершаў і думак пра веру, надзею і любоў». Сапраўды — выбар, і гэты выбар




нам з кожнай старонкі прапануе той, хто аднойчы і назаўсёды зрабіў свой хрысціянскі выбар і сам стаў Божым абраннікам — сапраўдным дзіцём Божым, святым святаром, праведнікам, а яшчэ — унікальным Паэтам, «*паэтам усмешлівага Хрыста*», светлым мысляром, філосафам. «*Мая вера і вера іншых людзей, зрэшты, гэтаксама як і бязвер'е, здаюцца мне таямніцаю. Гэта таямніца — не сакрэт, які ў пэўны момант можна адкрыць. Яна застаецца таямніцаю да самага канца нашага зямнога жыцця. Яе можна пастаянна адкрываць, і ўвесь час яна застаецца таямніцаю. Цёмная, бачная і нябачная вера да Бога праз радасць, шчасце, любоў, цярпенне, сумненне, адзіноту, смерць. Яна нялёгкая. Яна часта з'яўляецца драмаю выбару вернасці, але нават сумненне — гэта не бяздонная прорва, а досвед. Вера — цёмная і светлая. І заўсёды шчаслівая*», — гэтак гаворыць нам ксёндз Ян Твардоўскі на пачатку раздзела пад назваю «Вера», і для нас, далёкіх ад святасці, пераважна грэшных, вельмі важна, што, кажучы пра веру, ён гаворыць і пра сумненне, адзіноту, нялёгкасць выбару, пра святло і цемру, і нам хочацца верыць яму «*без абгрунтаванняў і доказаў, бо калі б хтосьці веру растлумачыў, яна стала б ведамі*», а ў ведах няма таямніцы, ім не ўласцівы «*бяссільны шчэбет веры*».

Мноства разоў гартаючы гэтую кніжачку, міжволі думала пра тое, якімі шчаслівымі былі і ёсць тыя, хто хадзіў да ксяндза Яна на споведзь, не хаваючы, не баючыся сваёй нясвятасці — ён і ў напісаным, спавядаючыся сам, нібы працягвае спавядаць, размаўляючы проста і спагадліва, з усёдаравальным разуменнем, як сябра, які ніколі не пакрыўдзіць і не асудзіць; як бацька, які любіць сваіх дзяцей такімі, якімі яны ёсць; і ўражвае вось гэтым прызнаннем: «*Часам у няверуючым Бога больш, чым у хрысціяніне, які верыць па звычцы*»... І ўражвае ў гэтых словах не столькі вера ў тых, хто «*дазваляюць сабе сумнявацца*», а заўважанне, бачанне веры як звычкі і нават апраўданне гэтаму: «*Некаторых Пан Бог вядзе да сябе доўгаю дарогаю*», і «*часта трэба згубіць веру афіцыйную <...> абвешчаную адсюль і датуль // каб знайсці тую адзіную // як вугалёк зялёны // тую, якая проста // ёсць спатканнем упоцемку // калі няпэўнасць становіцца пэўнасцю // такую сапраўдную веру // што цяжка паверыць*».

Паверце, дарагія чытачы, што далей вам можна спыніць гэтае чытанне, каб замест яго паехаць у кнігарню (Мінск, вул. Багдановіча, 25 ці замовіць дасланне кніжкі па пошце і без пасрэднікаў атрымаць радасць ад кожнай яе старонкі, а працытаванае мною напісанае для таго, каб абудзіць у вас жаданне непасрэднага кантакту з духоўнаю энергетыкаю аўтара і перакладчыка, а яшчэ і мастака Ігара Гардзіёнка, які сапраўды таленавіта супаў у сваім мастакоўскім бачанні з высокім і простым зместам гэтага выдання. «Ведаеш, — сказала мне Крыстына Лялько, — такая харошая кніжачка... Яна — серабрыстая, яе не хочацца выпускаць з рук...» Шляхетнасць серабрыстага колеру, яго стрыманасць, вытанчанасць, самадастатковасць, вельмі натуральна, спакойна, дакладна супала з асобаю сціплага, шляхетнага праведніка, які наўрад ці палічыў бы свае думкі, развагі і вершы залатымі, але, відаць, пагадзіўся б са спакойнаю мудрасцю срэбра, прыглушанае святло якога (як вера — цёмная і светлая) нібы ўвабрала ў сябе таямніцу вечнасці — прасторы, якая належыць Богу і Яго Провіду. У гэтым колеры — і альфа, і амега, быццё і небыццё. У ім — і туман, і вада, і неба, і зямля, і паветра. У ім — «*гэтыя тры*»: вера, надзея, любоў, і словы гэтыя, па-польску і па-беларуску, сабраныя мастаком на вокладцы, дзе над амаль скамянелаю пустэчаю наіўна ўзвышаецца яблынька з мноствам пладоў, народжаных у пустыні моцаю «*гэтых трох*», таму што «*бяссільны шчэбет веры*» здольны абудзіць жыццё нават на каменнях. На вокладцы няма выявы чалавека — не змясціўшы яго каля яблыні, мастак моўчкі засведчыў, што ён зразумеў срэбра думак і развагаў Яна Твардоўскага, які,




сярод іншага, сказаў: «*Яшчэ не было людзей, а ўжо была любоў*». Выява чалавека, маладой жанчыны як увасаблення веры, надзеі і любові, змешчаная мастаком на пачатку кожнага з раздзелаў, і гэтая жанчына ўспрымаецца як дасканалае плоцевае ўвасабленне яблыні ў розных яе станах, найвышэйшы з якіх — усёдаравальная, спакойна-мудрая любоў. Паглядзіце на гэтыя розныя станы, зверце іх са сваімі. Вось стан веры, і цёмны, і светлы, паводле ксяндза Яна, але «*заўсёды шчаслівы*», хоць чалавек можа яшчэ і не разумець гэтага шчасця, як пакуль няма яшчэ яго прасветленага адбітку на напружаным твары жанчыны, якая, заплюшчыўшы вочы, нібы прыслухоўваючыся да сябе і ўжо Божай волі, пакорліва трымае рукі ў малітоўным жэсце, і за спінаю яе пакуль што камяні, пустыня, праўда, валасы яе нагадваюць калоссе, і за плячом яе дастаткова неба, больш, чым пустыні, і гэта ўжо вера, і Божая ласка, і «*вельмі асабістая справа, якую цяжка пераказаць*», але на якую можна «*абаперці сваю галаву*». «*Чалавек нечакана адкрывае, што жыве ў Космасе, круціцца, ходзіць. Гэта надзвычай дзіўная сітуацыя. Перажыванне метафізічных дрыжыкаў у вельмі дзіўным свеце <...> Вера — гэта згода са светам, які стварыў Бог*»... Так, гэта найперш наш уласны досвед, але, раіць ксёндз Ян, «*гэту радасную навіну добра перадаваць у сённяшнім разгубленым свеце*», і, самае галоўнае, «*верыць — гэта значыць навват не пытацца // як доўга яшчэ трэба ісці ўпоцемку*». Жанчына, намаляваная Ігарам Гардзіёнкам на пачатку раздзела «Вера», не пытаецца, і мы верым, што яна верыць, што Бог ужо вядзе яе за руку...

У раздзеле «Надзея» тая ж самая жанчына ўжо іншая — яе вочы расплюшчаныя, хоць яшчэ і замглёныя, рукі ўжо гатовыя прыняць Божую волю, а за спінаю, дзе па-ранейшаму пануе пустыня, паміж камянямі ўжо прабіліся парасткі надзеі — і «*няпэўнасць становіцца пэўнасцю*», і таму вочы жанчыны-надзеі глядзяць і ўглыб сябе самой, і ўдалячынь. «*Той, хто жыве надзеяй*, — піша ксёндз Ян, — *бачыць далей. Той, хто жыве любоўю, бачыць глыбей. Той, хто жыве верaю, бачыць усё ў іншым святле*», і гэтае «*іншае святло*» таямніча перададзенае мастаком у трэцім абліччы жанчыны — жанчыны-любові, выява якой папярэднічае раздзелу з назваю «Любоў». Прасветленыя любоўю і прыгожы твар, і прыгожыя рукі жанчыны, ціха скрыжаваныя на сэрцы, і за спінаю яе, паміж камянямі ў былой пустыні, парасткі веры і надзеі ўжо даюць свой сціплы плён, узышоўшы дзівоснымі раслінамі і дрэўцамі, сярод якіх пладаносіць яблыня. Цікава, што мастак усюды паказвае жанчыну не напоўніцу — частка яе твару і правае плячо нябачныя, і гэта стварае ўражанне незавершанасці, недаадчыненасці, таямніцы, а значыць — вечнага выбару і вечнага працягу. Вобраз жанчыны, створаны Ігарам Гардзіёнкам як увасабленне веры, надзеі і любові, вельмі сучасны, зразумелы, знаёмы і блізкі. І менавіта яе сучаснасць, яе пазнавальнасць падкрэслівае, што паняцці веры, надзеі і любові — гэта не архаіка, а тыя вечныя апірышчы, без якіх жыццё немагчымае: яны сучасныя ва ўсе часы. «*Часта нам не хапае слоў, каб акрэсліць любоў*, — гаворыць Ян Твардоўскі. — *Нічога дзіўнага, бо нельга акрэсліць словамі самога Бога*».

...Ёсць цікавае вызначэнне геніяльнасці: геніяльны той, хто пакідае пасля сябе штосьці больш значнае, чым яго ўласны лёс. У музыцы такім быў і ёсць Бетховен, у святарстве, увасобленым у духоўнай літаратуры, такім быў і ёсць ксёндз Ян Твардоўскі, хаця слова «геній» у дачыненні да ўласнай персоны ён ніколі б не прыняў. Пэўна ж, геніем для яго быў толькі Бог, а «*мы — начытаныя прафаны // мелем языкамі*»...

*Лідзія Камінская*



**Уладзімір Сіўчыкаў** — пісьменнік, мастак, выдавец. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Скончыў Мінскую мастацкую вучэльню імя А. К. Глебава (1977) і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1986). Аўтар кнігі апавяданняў і п'есаў «Гульня ў тастамант» (1992), кнігаў прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), «Уладзевы гісторыі» (2015), кніг паэзіі «Высакосны год» (2004), «Кошык Велікодны (2014), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом…» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Жыве ў Мінску.

Уладзімір Сіўчыкаў

# РАКАЎСКІ ФЭСТ

Культавы раман амерыканскага празаіка Джэрома Дэвіда Сэлінджэра (*Jerome David Salinger*) «Лавец у жыце» (*«The Catcher in the Rye»*) нярэдка імянуюць у нас перакладам з рускага перакладу — «Над прорваю ў жыце» («Над пропастью во ржи»). Ягоны галоўны герой, шаснаццацігадовы юнак Холдэн Колфілд, разважае і пра тое, што многія эпізоды жыцця мы пражываем мінімум двойчы: тады, калі яны адбываюцца насамрэч, і пасля, пазней, калі думаем пра іх.

Я дадаў бы — а таксама, калі ўспамінаем іх або разглядаем хай сабе і ўчорашнія фотаздымкі, бо адлюстраванае на іх ужо сталася гісторыяй, яе радаснымі альбо сумнымі, пазітыўнымі ці негатыўнымі фрагментамі…

* * *

Пра фестываль нацыянальных культур «Ракаўскі фэст» дазнаўся я з тэлефоннай размовы з Вячаславам Пятровічам Рагойшам, сваім колішнім універсітэцкім выкладчыкам, кіраўніком семінара па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях, які апекваўся і маімі курсавымі працамі па літаратуры.

Ракаў, знаны ад XIV стагоддзя, — горад мне зусім не чужы, бо бываў там не раз, калі ў васьмідзясятыя дый дзевяностыя гады гасцяваў-працаваў у недалёкім ад яго Доме творчасці і адпачынку пісьменнікаў «Іслач», калі наязджаў туды пазней да сяброў і знаёмцаў, на літвыступленні ў бібліятэку.

Аніяк не прымае розум цяперашняга, постсавецкага статуса Ракава як аграгарадка. Як гэта, колішні магдэбургскі горад гістарычнай Меншчыны, што быў вялікакняжацкім уладаннем, потым мястэчкам, славутым ганчарным цэнтрам, значным гандлёвым горадам, цэнтрам графства, цэнтрам воласці, цэнтрам гміны Віленскага ваяводства, а пры бальшавіках паніжаны да статуса вёскі! Не хочацца дароўваць і сённяшнім чыноўнікам, якія замест прыгожай і адметнай назвы станцыі метро «Ракаўская» праціснулі назву «Спартыўная», бо наверсе знаходзіцца Лядовы палац.

Ракаў для мяне сама меней мястэчка, намоленае, гістарычнае, слаўнае. А лепшая, найпрыгажэйшая палова чалавецтва, павінна была б ведаць і шанаваць Ракаў хаця б таму, што нарадзілася там Іда Разенталь, якая стала амерыканскаю мадэльеркаю і ў 1922 г. удасканаліла форму станіка.



Каля ракаўскай крыніцы.
2 верасня 2018 года. Фота Алесі Сіўчыкавай.

Паехаць у слаўнае мястэчка захацелася зноў, бо вабілі абвесткамі, інтрыгавалі праграмаю свята і інтэрнэтаўскія сайты: варта толькі было набраць у пашукавіку словы «Ракаўскі фэст».

Абяцаліся тэатральны квэст паводле знакамітага рамана Сяргея Пясецкага «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», экскурсіі па мястэчку і ягоных наваколлях, кірмаш майстроў, прэзентацыі нацыянальных кухняў на, зразумела, нацыянальных падворках, «Спеўны сход» і флэшмоб «Затанчым разам», мастацкі і фота-пленэры, а на змярканні і святочны феерверк. Анансаваліся выступленні на галоўнай сцэне на плошчы Свабоды «Старога Ольсы», «Вязанкі», «Вянка», «Гіль захав», «Мішпаха», «The Way», «Va Bank», «Kapela Wsi Warszawa», «Majowy Kwiat», «Polka», «Nevrida», «Ars Longa», а таксама Піта Паўлава з праграмаю «Па слядах кантрабандыстаў» і іншае.

* * *

Пры шашы Ракаў–Кучкуны, што збочвае ад аўтамагастралі Мінск–Гродна і вядзе ў Ракаў, у мясціне, якую ракаўцы завуць «У Крыжы», бруіцца знакамітая крынічка. З дзясятак гадоў таму дзівосны смак яе вады адкрыў мне колішні аднакурснік і нават аднагрупнік па Менскай мастацкай вучэльні Алесь Лось, найбольш знаны цяпер як музыка, майстра традыцыйных музычных інструментаў і гаспадар хутара Барок (альбо «Сядзіба дудара»), што на рэчцы Яршоўка. На прыкрынічнай каплічцы, збудаванай у XVI стагоддзі і адноўленай чвэрць стагоддзя таму, ля парэштказ базыліянскага кляштара, на шыльдзе змешчана новазапаветная цытата: «Бог не дазволіць насміхацца з сябе» (Гал 6, 7), якая прымушае суцішыцца ды задумацца пра вечнае.

* * *

Мастак і паэт Міхал Анемпадыстаў, з якім пашчасціла мне папрацаваць разам і ў часопісе «Бярозка», ствараючы свой «Народны альбом», напэўна, здзівіўся б, каб даведаўся, што ў 1930-я гады ў Ракаве насамрэч працаваў настаўнік Кастусь Рагойша, які да таго ж пісаў і вершы.

Але зусім не здзівіўся я, калі ў вірлівым натоўпе «Ракаўскага фэсту» найперш перастрэўся з Вячаславам Рагойшам і ягонаю жонкаю Таццянаю Кабржыцкаю, якая таксама працавала на філфаку Белдзяржуніверсітэта. Яны гасцінна запрасілі ў сваю сядзібу за плошчаю Свабоды, што звалася некалі Рынкавым пляцам. На ўваходнай браме красаваўся герб мястэчка, укаранаваная лацінская вялікая літара R, а таму нельга было не зрабіць унікальны здымак «Ракаў, Рагойша, Раіса» — з гаспадаром і з маёю жонкаю.

Заінтрыгавала і мемарыяльная дошка з профілем пісьменніка, і тэкст «Гэты дом часта па-сяброўску наведваў класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч», над якою шчыраваў народны мастак Беларусі, знакаміты скульптар Іван Міско.

У сваім прыватным літаратурным музеі, можа, першым не толькі ў Ракаве, Вячаслаў Пятровіч правёў найцікавейшую экскурсію — расказаў пра сваіх і жончыных продкаў, пра ганаровых гасцей і наведнікаў музея, але ці не найдаўжэй затрымаўся пры стэндзе Уладзіміра Караткевіча са шматлікімі арыгіналамі рукапісаў, дарчых подпісаў, рэдкіх здымкаў і малюнкаў аўтара «Каласоў пад сярпом тваім». Пабачылі і два раманы ў перакладзе на грузінскую мову — «Чорны замак Альшанскі» і «Дзікае паляванне караля Стаха», пашкадавалі, што не прыехаў на менскую «Тбілісобу» іх перакладчык Вахтанг Салія, які стажыраваўся на нашым філфаку разам з Нанай Гапрындашвілі, якая абараніла і доктарскую дысертацыю па беларуска-грузінскіх літаратурных узаемасувязях.

Беларусы не ходзяць у госці з пустымі рукамі, а таму я спрэзентаваў, падпісаў гаспадару «свежаспечаны» томік «Паэзіі» Нікалоза Бараташвілі, прымеркаваны да 200-годдзя грузінскага класіка, а таксама слоічак ткемалі, грузінскага соўсу са сліваў з часнаком, зелянінай каляндры ды кропу, які днямі прыгатаваў разам з жонкаю.

* * *

На галоўнай плошчы і на прылеглых вуліцах між тым віравала свята. Агучылі свае прывітальныя словы сельвыканкамаўцы-тубыльцы, хараша



Ракаўская сядзіба Вячаслава Рагойшы.
2 верасня 2018 года. Фота Уладзіміра Сіўчыкава.

прамовілі ізраільскі ды польскі амбасадары, заўзята пацяшалі публіку музыкі.

Ракаўскія прыгажунькі ў нацыянальных строях хуценька схавалі свае смартфоны і прынялі паставы дарослых мадэлек, калі заўважылі скіраваны на іх аб'ектыў майго айфона.

Самавіта, у добрым гуморы праходзіў са сваімі сямейнікамі ўздоўж столікаў керамістаў, разьбяроў, кавалёў ды пчаляроў мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

Нямала кніг, часопісаў, а таксама значкоў, магніцікаў ды іншае драбязы прапаноўвалі гасцям нястомныя, руплівыя кніганошы Уладзя Азёма, Алесь Дудар і Алесь Яўдаха.

Уладзь Рымша прапаноўваў гербы «Пагоня» ды «Калюмны» пад слоганам «Сапраўдны герб для офіса і ў кожную хатку».

Выдатны графік, ракаўчанка Галіна Хінка-Янушкевіч, якая пяць гадоў выкладала ў «Парнаце» — Рэспубліканскім каледжы мастацтваў — малюнак, жывапіс і кампазіцыю маёй малодшай дачцэ Хрысціне, была заклапочаная: агледзела яна ў гандляроў немалыя набыткі, мабыць, для сваіх нацюрмортаў, нагрузіла імі і мужа, літаратуразнаўцу Язэпа Янушкевіча.

Не мог не завітаць я ў першы ў краіне прыватны музей-галерэю ягоных братоў — жывапісца Фелікса дый скульптара Валяр'яна. Сустрэў мяне ўсмешлівы, добразычлівы хлопец па імені… Валяр'ян. Феліксаў сын умудрыўся нарадзіцца пад Каляды, у той самы дзень года, што і ягоны знакаміты дзядзька.

А неўзабаве на ганку, на ўваходзе, аблямаваным лацінскім выслоўем «*Vita brevis, ars longa*» («Жыццё — кароткае, мастацтва — вечнае»), з'явіўся і бацька, якога здавён па-сяброўску заву Фэлям. Правёў ён экскурсію па сваім унікальным музеі, і ўжо чакала яго наступная група.

А пабачыць у «брацкай» галерэі можна шмат чаго. Зразумела, найперш гэта жывапісныя, графічныя ды скульптурныя творы саміх Янушкевічаў ды іх сяброў-мастакоў. Адлюстроўвае музей плошчаю ў 500 квадратных метраў і побыт старасвецкай шляхты ды дробнай мястэчковай буржуазіі — абразы, фотаздымкі, посуд, шкляныя вырабы, мэблю, музычныя інструменты. Адных толькі адзінак керамікі захоўваецца пад дзве тысячы! Нямала ў экспазіцыі кніг, нямецкамоўных ды польскамоўных дакументаў і шыльдаў. Сярод узораў ракаўскай моды міжваеннага перыяду можна агледзець жаночы палітон з каўняром з хахулі і мужчынскі бурнос, гальштукі, панчохі, лакіраваныя туфлі ды іншыя ўборы мясцовых хлопцаў і дзяўчат. А аматараў літаратуры, напэўна, зацікавіць падарожны працоўны столік Адама Міцкевіча — адзін з далёкіх продкаў Янушкевічаў быў у вялікага паэта за сакратара.

Адметны музей яшчэ і тым, што ён жывы ці, як модна цяпер казаць, інтэрактыўны. Многія экспанаты можна не толькі агледзець, але і памацаць. Можна дакрануцца рукамі да борці, якую ледзь падняць чатыром мацакам. Можна пакруціць двухсотгадовыя жорны і пасядзець на важкім, ёмкім куфры. Можна зайграць на акарыне або пасвісцець у дзіцячую свісцелку, знойдзеную на старажытным замчышчы. Можна пакаштаваць ракаўскай вяндліны, прыгатаванай па старадаўніх рэцэптах, і нават пакурыць, скарыстаўшы маянжовую папяльнічку з пазамінулага стагоддзя.



У хатнім літаратурным музеі В. Рагойшы.
2 верасня 2018 года. Фота Алесі Сіўчыкавай.



З мастаком і музейшчыкам Феліксам Янушкевічам. 2 верасня 2018 года. Фота Валяр'яна Янушкевіча.

А наапошку варта яшчэ і выйсці на адзіную ў краіне плошчу Вітаўта Вялікага — так завецца адзін з пляцаў на сядзібе, бо ўсталяваная на ім скульптурная выява вялікага князя.

* * *

Калі натаміўся кірмашовым тлумам, дык завітаў у неагатычны, з уплывам мадэрну касцёл Маці Божай Ружанцовай і святога Дамініка, размешчаны ў цэнтры Ракава, на правым беразе Ісрачы. (Здагадаўся там, чаму мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч назвала аднога з сыноў Дамінікам!)

Трохнававая двухвежавая базыліка з трансептам і паўкруглаю апсідаю з бакавымі сакрыстыямі ўзнесена на высокі бутавы цокаль.

На лаве ў цэнтральнай наве, пад стрэльчатымі скляпеннямі пачуваўся сцішана і спакойліва. Згадваў, што ў 1910-я гады ў храме служыў вікарыем паэт Андрэй Зязюля (Аляксандр Астрамовіч), дзівіўся на хоры з балюстраднай агароджай і арганам, на арнаментальна-арабескавы роспіс і вытанчаныя масянжовыя скульптурныя рэльефы Валяр'яна Янушкевіча на біблійныя сюжэты.

* * *

Думаў: «Паболей бы нам такіх, сапраўды народных, незафармаленых фэстаў-святаў! Нездарма ж *festivus* азначае па латыні «святочны». Разглядаў праз павелічальнае шкло ружанец з дзесяці штучных пярлінаў і з мініяцюрным укрыжаваннем ды абразом Маці Божай, знойдзены на былой Дамініканскай вуліцы. Меркаваў, ці не вывесіць у стужцы Фэйсбука пост з тузінам сваіх фотаздымкаў дый разгорнутымі подпісамі пра ўчарашнюю вандроўку, калі загучала мелодыя айфона.

Сябра ад часоў літаратурна-грамадскага аб'яднання «Тутэйшыя» Алесь Бяляцкі, які мае ў Ракаве сядзібу-лецішча, выбачаўся, што не адгукнуўся на маё ўчорашняе тэлефанаванне. Шкадаваў, што не перастрэліся мы на фэсце, бо пакінуў свой мабільнік у хаце, а таму агледзеў мой званок толькі позна ўвечары. Паабяцаў я, што другім разам ахвотна наведаюся да яго, знанага цяпер і як захопленага аматара кветак, а перадусім астраў.

І былі гэта не проста ветлівыя словы. Ракаў падарыў шмат пазітыўных уражанняў і эмацыйных сустрэч. Згадваць іх, перажываць нанова было вельмі прыемна, а праз тое настрой быў, ёсць і доўга будзе ўрачысты і святочны.

Адчуваў, што мушу пакінуць у касцёле пры спавядальні знойдзены ружанец, ведаў, што чакаюць новыя знаёмствы і адкрыцці на ракаўскіх вуліцах, на знакамітым сальным базары, на могілках і ў кветніках, пад стрэхамі музеяў і гасцінных дамоў.

# КАРОВА І ВАЎЧЫЦА

На дзяржаўны пагорак Капітолій (*Capitoline*) у Рыме (такі ўжо незвычайны, але афіцыйны статус ён мае!) можна патрапіць дзвюма лесвіцамі.

Левая, даволі стромкая, мае 122 прыступкі. Складзена яна рымлянамі ў падзяку за тое, што чума, якая лютавала ў Італіі ў сярэдзіне XIV стагоддзя, абмінула, пашкадавала Вечны горад. Падняцца па ёй без прыпынкаў даволі цяжка, а вядзе яна наўпрост да храма Санта Марыя ін Арачэлі (*Santa Maria in Aracoeli*), што знакаміты найперш цудадзейнай скульптурнай выявай Немаўляці Хрыста (*Santo Bambino*).

Наўрад ці хто сумняваецца, што Капітолій — гэта месца сакральнае. З самага пачатку заснавання Рыма яго шчыльна «засялялі» храмы, прысвечаныя Юпітэру, ягонай жонцы Юноне Манеце (*moneta* — дарадчыца, настаўніца), а таксама багіні мудрасці Мінерве. Менавіта ў храме Юноны жылі гусі, якія, згодна з паданнем, папярэдзілі сонных рымлянаў, што на горад напалі галы. Пры гэтым самым храме быў абсталяваны і першы манетны двор, а таму металічныя грошы сталі менавацца па імені багіні.

На тым пагорку Актавіян Аўгуст нібыта пабачыў Божую Маці з Немаўляткам на руках, а Тыбурцінская сівіла патлумачыла яму, што нарэшце на свет прыйшоў Той, хто веліччу сваёй пераўзыдзе ўсіх, народжаных на зямлі. З тае нагоды імператар язычнік збудаваў велічны храм, на святым месцы

якога пазней была ўзведзена святыня Санта Марыя ін Арачэлі. Знізу, з-пад пагорка, яна не выдае вялікаю дый фасад яе — пуставатая жаўтавата-шэрая сцяна класічных абрысаў — не дужа ўражвае, але калі трапляеш усярэдзіну, дык у вочы адразу б'е магутнае баракальнае цунамі.

Храм збудаваны ў выглядзе крыжа і насамрэч большы за любы з палацаў на Капіталійскай плошчы. Кожная капэла дэманструе тут творы знакамітых мастакоў. Ледзь не пад самай столлю можна пабачыць надмагільны помнік Джавані Крывелі, выкананы Данатэла. Першая капэла аздобленая фрэскамі Пінтурыкіё, а каля бакавога ўваходу размешчаны надмагільны помнік Чакіна Брачы, выкананы паводле эскіза Мікеланджала. У трэцяй ад уваходу капэле можна агледзець фрэскі Беноца Гацолі, а ў апошняй злева — копію статуі Немаўляці Хрыста. Арыгінал, выкананы з дрэва з Гефсіманскага саду, быў скрадзены дваццаць гадоў таму, але і копія гэтаксама здольная тварыць цуды.

На Капіталійскую плошчу (*piazza del Campidoglio*) лёгка трапіць проста з храма праз бакавы выхад па амаль незаўважнай лесвіцы, але лепш падняцца на яе па правай, менш пакручастай лесвіцы ад падножжа пагорка, ад Мікеланджалавай Карданаты (*Cordonata*). Як і мноства іншых пабудоваў у Рыме, амаль што ўсё на гэтай плошчы спраектаваў геніяльны разьбяр і дойлід. Некаторыя турысты нават жартуюць: «Калі не ведаеш напэўна, хто збудаваў тую ці іншую спаруду, смела кажы, што Мікеланджала — не памылішся!»

Але велічэзныя скульптуры Кастора і Палукса, што пры ўваходзе на плошчу трымаюць за ўяўныя аброці сваіх коней, не належаць разцу тытана Адраджэння — іх раскапалі і прывезлі з тэатра ў Пампеі.

Пасярэдзіне плошчы, мудрагелісты малюнак якой з вышыні нагадвае фантастычную чарапаху з пустэльні Наска, усталявана копія адзінай коннай статуі са старажытных часоў. Арыгінал помніка імператару Марку Аўрэлію захоўваецца непадалёк, у музеі, а ацалеў, мабыць, таму, што яго прынялі за выяву імператара Канстанціна, які ўзаконіў у імперыі хрысціянства.

На плошчы стаяць тры палацы — Сенатараў (*Palazzo Senatorio*), Кансерватараў (*Palazzo dei Conservatori*), каля якога любяць фатаграфавацца турысты, бо пры ім змешчаны мармуровыя ступак і кісць гіганцкай статуі імператара Канстанціна, а насупраць апошняга — палац Нуова (*Palazzo Nuovo*), у якім месціцца першы, найстарэйшы не толькі ў Вечным горадзе, але і ў свеце музей, адчынены для публікі ў 1734 годзе.

Кошт уваходнага білета складае 15 еўра, але пасведчанне Беларускай асацыяцыі журналістаў міжнароднага ўзору дазваляе мне заплаціць у пяць разоў меней. Несумненныя жывапісныя пярліны ў Капіталійскіх музеях — гэта «Махляры», «Варажбітка», «Ян Хрысціцель» Караваджа, «Выкраданне Еўропы» Веранэзе і «Хрышчэнне Хрыста» Тыцыяна, а скульптурныя — «Хлопчык, які выцягвае стрэмку», «Імператар Камод у вобразе Геркулеса» і, мабыць, самая знакамітая ў свеце ваўчыца, якая выкарміла сваім малаком Ромула і Рэма.

Копію ваўчыцы-карміліцы можна пабачыць і пры спуску з Капіталійскага пагорка на форумы. Адна з рускіх (ці рускамоўных?) турыстак усклікнула пры ёй: «Ой, смотрите, собака свободна, можно с ней сфотографироваться!».

А мне прыгадалася там сучка па мянушцы Партызанка, бо прыблудзілася да дзятвы на вуліцы з тыпова беларускай назваю Партызанская пры вакзале чыгуначнай станцыі Жодзіна. Начальнік тае станцыі Антон Козік трымаў карову, і вечарамі я хадзіў праз тую вуліцу па малако з алюмініевым бідончыкам-літровікам. У дзеда Антона быў унук Саша, які, мабыць, праз тое, што малако яму было дармовае, піў яго неахвотна. А мая мама за малако тое плаціла, і піў я яго да апошняе кроплі, і можа таму, вырас куды мажнейшым за Сашу.

Сталася так, што незалежна адзін ад аднаго пасталелыя хлопцы зрабіліся творцамі-літаратарамі, якіх, нібыта рымская ваўчыца Ромула і Рэма, сыціла сваім малаком жодзінская карова з дзівоснай мянушкай Барабуля. Не якая-небудзь банальная Рагуля альбо Лысуха! Пры жаданні каровін «псеўданім» можна было б вывесці ажно ад лацінскага слова *barbone* — вялікая барада (наўрад ці знаўся на латыні дзед Антось дый барадатую карову ўявіць даволі цяжка, а вось мы, калегі-літаратары, носім бароды ўсё сваё дарослае жыццё).

Саша адвучыўся ў Жодзіне ў палітэхнікуме, пасля — у сталічным Інстытуце народнай гаспадаркі, але з'ехаў працаваць у старажытны Полацк, дзе ўзяў сабе літаратурны псеўданім Алесь Аркуш. У горадзе па-над Дзвіною паплечнікі-літаратары прынялі яго прыязна, але часам дабрадушна цьвялілі — звалі Сашам Лістом.

А вось я аднаго разу на Алеся пакрыўдзіўся, калі той не запярэчыў вядоўцу радыёперадачы «Вольная студыя», які назваў Полацк Аркушавым родным горадам.

*Прыгразіў Валодзя Сашы*
*Даць бярозавае кашы:*
*Слаўны горад Жодзіна —*
*Чым табе не родзіна?*

Такой эпіграмаю адгукнуўся на мае прэтэнзіі да абодвух суразмоўцаў у студыі паэт, журналіст і літаратуразнаўца Міхась Скобла.



Касцёл Святой Тройцы. Свіслач. Гродзенскі р-н. 1772 г. Гравюра па малюнку Напалеона Орды.

Тамара Габрусь

# ШЛЯХ АД ГОТЫКІ ДА СУЧАСНАСЦІ

Уся гісторыя архітэктуры сведчыць, што вышынная дамінанта ў збудаванні ці ансамблі з'яўляецца не толькі сімвалам развіцця і творчага пачатку, але і трансцэндэнтнага дыялогу з найвышэйшымі сферамі. Архітэктурна-мастацкія формы і параметры вышынных дамінантаў звычайна былі абумоўлены магчымасцямі будаўнічага рамяства і традыцыямі пэўнага рэгіёна, а таксама сацыяльным заказам, які вызначаў іх сакральную семантыку. На працягу стагоддзяў пры будаўніцтве драўляных храмаў выяўляліся розныя стылёвыя характарыстыкі, канфесійныя прыярытэты і рэгіянальныя адметнасці. Мастацтвазнаўчы аналіз архітэктурна-кампазіцыйных характарыстык вялікай колькасці традыцыйных драўляных храмаў Беларусі XVI–XVIII стст. дазваляе вылучыць у іх класіфікацыі своеадметны тып — з вежаю над бабінцам. Бабінцам у драўляным храмабудаўніцтве ўсходніх славянаў завецца ўваходны аб'ём, прызначаны *для агалошаных* (з грэчаскага — *нартэкс*). Агульная архітэктоніка святыняў гэтага тыпу можа мець розныя варыянты кампаноўкі яго кананічных рытуальных частак: нартэкса, кафалікона і алтара, што паслядоўна месцяцца з захаду на ўсход. Гэта могуць быць адна-, двух- і трохзрубавыя кле-

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.



Касцёл святых Пятра і Паўла.
Мядзведзічы. Ляхавіцкі р-н. Малюнак XIX ст.

цевыя пабудовы комплекснай альбо базылікальнай канцэпцыі (г. зн. з рознай альбо аднолькавай вышынёю зрубаў-клецяў), базылікі і псеўдабазылікі, з папярочнай навай-трансептам ці без яго. Да азначанага тыпу мы адносім храмы, у кампазіцыі якіх дамінуе чацверыковая каркасная вежа, завершаная традыцыйным шатром-«каўпаком» (чатырохграннай роўнабаковай пірамідай — найбольш старажытнай прасторавай архітэктурнай формай) альбо «баней» (фігурным васьмігранным купалам), альбо іх спалучэннем. Архітэктурны тэрмін *«баня»* паходзіць ад лацінскага слова *baneum*, што азначае посуд для амавення, які мае пукатаўвагнутую грушападобную форму з вузкім «гарлачыкам».

У кантэксце этнічных будаўнічых традыцый усходніх славянаў наяўнасць высокай каркаснай вежы пры ўваходзе ў храм у найбольшай ступені характэрна для шырока вядомых у гісторыі архітэктуры цэркваў *так званага лемкаўскага тыпу*. Лемкі — этнічная група заходніх украінцаў. Лемкаўская школа драўлянага дойлідства лакалізуецца ў горных рэгіёнах Карпатаў на мяжы Польшчы, Украіны і Славакіі. Драўляныя храмы лемкаўскага тыпу маюць выразна акрэсленыя агульныя эстэтычныя характарыстыкі. Гэта трохзрубавыя цэрквы комплекснай канцэпцыі з рознаю вышынёю зрубаў і вежай-дамінантай з заходняга боку. Усе зрубы маюць самастойныя шатровыя дахі, завершаныя шмат'яруснымі грушападобнымі вежачкамі-«банькамі». Агульная кампазіцыя падпарадкавана пэўнаму прагрэсіўнаму рытму, што дынамічна ўзрастае ад больш нізкага алтарнага зруба да вежы над уваходам. Нягледзячы на кананічнасць традыцыйных прыёмаў у архітэктуры гэтых помнікаў, кожны з іх мае непаўторнае аблічча і надзвычай выразны маляўнічы сілуэт. Большасць храмаў гэтага тыпу датуецца XVIII — пачаткам XIX ст. Лемкаўскія храмы вывучалі даследчыкі народнага мастацтва паўднёва-ўсходняй Польшчы — К. Маклоўскі, З. Глогер, Р. Брыкоўскі, а таксама ўкраінскія гісторыкі архітэктуры — Г. Паўлуцкі, Д. Шчарбакіўскі, М. Драган і інш. Характэрна, што розныя даследчыкі вызначаюць лемкаўскія цэрквы альбо як гатычныя, альбо як барочныя.

У драўляным сакральным дойлідстве Беларусі адметны ад лемкаўскага тып храма з вежай над бабінцам вядомы з пачатку XVII ст. Яго паходжанне звязана, на нашу думку, з перайманнем узораў мясцовага мураванага каталіцкага храмабудаўніцтва готыка-рэнесанснага перыяду, якія мелі заходнееўрапейскі генезіс, напрыклад, як старажытныя касцёлы XVI–XVII стст. у Новым Свержані і Дзераўной (Стаўбцоўскі р-н), Міры (Карэліцкі р-н), Ружанах (Пружанскі р-н), бэнэдыктынак у Нясвіжы, бэрнардынаў у Слоніме і інш. У гэтых збудаваннях дынаміка кампазіцыі нарастала ад стромкіх схілаў даха над апсідай прэзбітэрыя да магутнай вежывестверка на галоўным фасадзе — характэрнага элемента нямецкай готыкі. Характэрна, што падобную архітэктоніку мелі таксама вядомыя паводле інвентароў драўляныя касцёлы ў Давыд-Гарадку (Столінскі р-н), Мядзведзічах (Ляхавіцкі р-н), Мікалаеве (Іўеўскі р-н), Вялікім Корані (Лагойскі р-н) і іншыя, пабудаваныя ў першай палове XVII ст. На чарцяжы Віцебска 1664 г. бачна, што двух'ярусныя вежы над бабінцам з фігурнымі «банямі» завяршалі ў той час фасады былога касцёла езуітаў і праваслаўнай Спаса-Праабражэнскай царквы. У XVIII ст. у беларускім драўляным храмабудаўніцтве атрымалі пашырэнне храмы з вежай над бабінцам, але базылікальнай канцэпцыі (г.зн. з аднолькавай вышынёй усіх

кананічных частак), што прынцыпова адрознівае іх ад цэркваў лемкаўскага тыпу і стварае адметны мастацкі вобраз.

Разгледзім у храналагічнай паслядоўнасці архітэктурна-рэлігійную гісторыю шэрагу беларускіх драўляных святыняў з вежаю над бабінцам. Каталіцкая парафія ў **в. Давыд-Гарадок (Столінскі р-н)** была заснаваная ў 1623 г. ардынатам клецкім Янам Альбрыхтам Радзівілам. Драўляны **касцёл Божага Цела** ордэну бэнэдыктынаў быў пабудаваны тут у 1649 г. па фундацыі ваяводы трокскага Хрыстафора Радзівіла. Храм быў, верагодна, азначанага готыка-рэнесанснага тыпу. Паводле інвентара 1712 г.: «Касцёл драўляны стары, ужо нахілены, гонтамі дах пакрыты, месцамі дзіравы, кратаў жалезных 2, вокнаў 10, у волаў робленых. Хор вельмі стары з балясінамі... Алтар вялікі сніцарскай работы, сам чорны, штукі і аздобы малярскім золатам і срэбрам зроблены. Пры алтары цыборыюм сніцарскай работы, месцамі залачоны срэбрам і золатам малярскім. Вакол алтара аблокі сярэбраныя, уверсе сонца, пад ім карона невялікая сярэбраная. Два бакавыя алтары сніцарскай работы. Невялікая амбона фарбамі малявана». Храм быў знішчаны пажарам у 1848 г., адноўлены за кошт ксяндза Якуба Гарбацэвіча, але зноў згарэў у 1890 г.

Драўляны **касцёл святых Пятра і Паўла ў в. Мядзведзічы (Ляхавіцкі р-н)**, фундаваны ў 1645 г. біскупам віленскім Юрыем Радзівілам, быў спалены татарамі ў канцы XVII ст. На яго месцы ў пачатку XVIII ст. быў пабудаваны новы трохзрубавы храм готыка-рэнесанснага тыпу, з вежаю над бабінцам. Захавалася візіта касцёла 1796 г. Прамавугольны асноўны і пяцісценны алтарныя зрубы былі аб'яднаныя двухсхільным дахам з падоўжаным вільчыкам, вальмамі над алтаром і трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў. Зруб бабінца з вежаю (чацвярык на чацверыку) завяршаўся пакатым шатром і фігурнай 8-кантовай галоўкаю на васьмерыковым барабане. Па баках алтарнага зруба змяшчаліся невысокія сіметрычныя сакрыстыі, накрытыя вальмавымі дахамі з дыяганальнымі вільчыкамі. Сцены былі ашаляваныя вертыкальна дошкамі з нашчыльнікамі і рытмічна ўмацаваныя сцяжкамі-«лісіцамі». У 1908 г. на гэтым месцы быў пабудаваны вялізны мураваны касцёл у стылі неабарока.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.
Вялікі Корань. Лагойскі р-н. 1730 г.
Фота XIX ст.

Драўляны **касцёл св. Юрыя ў в. Мікалаева (б. Навагрудскі павет, цяпер Іўеўскі р-н)** быў пабудаваны ў 1652 г. па фундацыі Аляксандра Людвіка Радзівіла, маршалка вялікага літоўскага. Паводле інвентара 1796 г., храм быў аднавежавы, з купалком і званіцай у вежы, пакрыты гонтаю, меў 2 сакрыстыі па баках прэзбітэрыя, вышынёю роўныя касцёлу, унутры былі хоры на слупах. У гэтым жа населеным пункце існавала драўляная Пакроўская царква «рэлігіі грэцкай», пабудаваная ў 1629 г. па фундацыі мсціслаўскага ваяводы Мікалая Кішкі. Новая драўляная царква была пабудаваная тут у 1923–1926 гг.

Першы драўляны **касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Вялікі Корань (Лагойскі р-н)** быў пабудаваны ў 1575 г., перабудаваны ў 1605 г. на сродкі шляхціца Чудоўскага, але спалены ў сярэдзіне XVII ст. Новы касцёл быў пабудаваны ў 1730-я гг. (вядомы паводле фотаздымка пачатку XX ст.). Адзін з найбольш маляўнічых трохзрубавых храмаў з вежаю над бабінцам складаўся з прамавугольнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, накрытых агульным гонтавым вальмавым дахам. Квадратны ў плане зруб бабінца завяршаўся трох'яруснаю, накрытаю пірамідальным шатром з прагібам вежаю, якая дамінавала ў кампазіцыі збудавання. Сіметрычныя сакрыстыі па баках прэзбітэрыя мелі крутыя вальма-



Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі,
в. Сэрвеч. Вілейскі р-н. 1617 г.
Фота XIX ст.

фотаздымку 1930-х гг.

Драўляны парафіяльны **касцёл Святой Тройцы ў мястэчку Свіслач (цяпер гарадскі пасёлак Гродзенскага р-на)** быў пабудаваны ў 1668 г. Геранімам Крыштофам Кірштэнштэйнам, падскарбіем Вялікага Княства Літоўскага, перабудаваны ў 1772 г. па фундацыі Тэрэзы Тышкевіч. У 1705–1782 гг. пры ім існаваў кляштар францішканаў. Выява храма вядомая паводле малюнка Напалеона Орды. Складаўся з асноўнага зруба з трохграннай алтарнай часткай пад вальмавым дахам і прыбудаванага пазней квадратнага ў плане бабінца з трох'ярусной вежай-званіцай. У кампазіцыі вянчаючых масаў дамінавала шатровая вежа, што выя дахі з дыяганальнымі вільчыкамі. Сцены былі ашаляваныя вертыкальна, з нашчыльнікамі і сцяжкамі. Над збегам вальмаў даха мясцілася вежачка-сігнатурка. У XIX ст. да ўвахода быў прыбудаваны 2-калонны порцік-ганак.

Парафіяльны драўляны **касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Сэрвеч (Вілейскі р-н)** быў пабудаваны ў 1617 г. па фундацыі Яна Бжастоўскага і Рафала Сулістроўскага. На яго месцы ў 1852 г. узвялі драўляны касцёл па фундацыі Яна Напалеона Козела-Паклеўскага. Новы будынак меў традыцыйныя формы клецевага храма готыка-рэнесанснага тыпу. Складаўся з квадратнага асноўнага і пяцісценнага алтарнага зруба, накрытага агульным гонтавым дахам, і бабінца з вежаю на ім, накрытага шатром-«каўпаком». З паўднёвага боку да алтара прылягала нізкая сакрыстыя з вальмавым дахам. Вуглы алтарнай апсіды былі аформлены акруглымі паўкалонамі — прыкмета позняга класіцызму. Выява касцёла вядомая па



Касцёл св. Міхала Арханёла.
Ілля. Вілейскі р-н. 1726 г.
Фота XIX ст.

прарэзвала вільчык даха над заходнім фасадам асноўнага аб'ёма. Будынак меў вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі, гонтавы дах з сігнатуркай над алтарнай часткай і вялікія прамавугольныя вокны.

Парафіяльны драўляны **касцёл св. Міхала Арханёла ў в. Ілля (Вілейскі р-н)** быў пабудаваны ў 1726 г. па фундацыі лоўчага Вялікага Княства Літоўскага Міхала Савіцкага, адбудаваны нанава ў 1772 г. на сродкі Брыгіты Салагуб (з Радзівілаў). Пасля паўстання 1863–1864 гг. касцёл прыстасавалі пад праваслаўную царкву. Вядомы паводле здымка пачатку XX ст. Будынак касцёла складаўся з роўнавышынных прамавугольнага асноўнага зруба і пяціграннай алтарнай апсіды, накрытых агульным гонтавым дахам з трохвугольным франтонам. У кампазіцыі дамінавала трох'ярусная чацверыковая вежа над уваходам, накрытая шатром-«каўпаком» з фігурнай «банькай». Над унутраным бабінцам знаходзіліся хоры з арганамі на 8 галосоў. Новы касцёл быў змураваны ў 1907–1909 гг. (арх. А. Клейн) пасля царскага маніфеста аб свабодзе сумлення (1905 г.).

Уплыў узораў каталіцкага храмабудаўніцтва садзейнічаў пашырэнню ўніяцкіх храмаў з вежай над бабінцам. **Царква Нараджэння Багародзіцы ў в. Дарапеевічы (Маларыцкі р-н)** была пабудаваная ў 1671 г. як уніяцкая. Першапачаткова складалася з выцягнутага прамавугольнага асноўнага зруба, накрытага вальмавым дахам з невялікай купальнай вежачкай у сярэдзіне вільчыка, і роўнага з ім па вышыні прамавугольнага бабінца, завершанага чацверыком вежы з шатровым дахам і галоўкай. Над уваходам размешчаныя хоры. У 1902 г. з усходняга боку быў прыбудаваны прамавугольны алтарны зруб, больш нізкі і вузкі за асноўны, зроблена гарызантальная шалёўка.



Царква Нараджэння Багародзіцы. Дарапеевічы. Маларыцкі р-н. 1671 г.

Грэка-каталіцкая **Спаса-Праабражэнская царква ў Дзятлаве** была пабудаваная ў 1672 г. на мясцовых могілках. Адназрубавы храм з вальмавым гонтавым дахам і чацверыковай вежай над уваходам, накрытай чатырохсхільным шатром-«каўпаком». Сцены ашаляваныя вертыкальна дошкамі з нашчыльнікамі. Нізкі прытвор прыбудавалі ў канцы XIX ст. Па восі ўвахода пастаўлена каркасная званіца-брама «аб чатырох слупах». Выгляд храма вядомы па фотаздымку Я. Балзункевіча пачатку XX ст.



Спаса-Праабражэнская царква. Дзятлава, 1672 г. Фота XIX ст.



Мікалаеўская царква.
Вялікія Сяхновічы. Жабінкаўскі р-н. 1727 г.

**Мікалаеўская царква ў вёсцы Вялікія Сяхновічы (Жабінкаўскі р-н)** была пабудаваная ў 1727 г. як уніяцкая. Пасля скасавання ўніі перададзена праваслаўным і ў 1867 г. перабудаваная. У аснове храм двухзрубавы, клецевага тыпу, базылікальнай канцэпцыі. Прамавугольны ў плане асноўны зруб накрыты высокім дахам з вальмамі і барочнай «банькай» над алтаром. Незвычайна вырашана алтарная частка храма: у ніжнім ярусе яна прамавугольная, з укампанаванымі невысокімі сіметрычнымі аб'ёмамі рызніцаў, а вышэй зруб зроблены трохгранным, што надае пабудове прасторавую пластычнасць і абцякальнасць. Вытанчаная гульня святла і ценю дадаткова ўзмоцнена рытмам ярусаў гонтавых дахаў і вертыкальнай шалёўкай з нашчыльнікамі. Вокны маюць характэрныя для помнікаў стылю барока лучковыя завяршэнні і прафіляваныя ліштвы. Унутры прапорцыі малітоўнай залы блізкія да квадрата. Інтэр'ер падзелены чатырма слупамі на тры нефы і перакрыты плоскай столлю (рыса мясцовай цяслярскай арцелі). Над уваходам на чатырох круглых слупках з падкосамі, што імітуюць арачную галерэю, размешчаны музычныя хоры. У пачатку XIX ст. прыбудаваны прамавугольны зруб бабінца, па вышыні роўны з асноўным і вырашаны з ім у агульным стылістычным ключы, што дазволіла ў цэлым захаваць гармонію архітэктурных формаў храма.

**Дабравешчанская царква ў вёсцы Жытомля (Гродзенскі р-н)** была пабудаваная як уніяцкая ў 1743 г. Належыць да тыпу псеўдабазылікі з вежай над бабінцам. Будынак храма складаецца з трох зрубаў рознай вышыні, якія ствараюць маляўнічую дынамічную кампазіцыю, што нарастае ад алтара да галоўнага фасада. Вялікі прамавугольны асноўны зруб накрыты высокім двухсхільным дахам, унутры падзелены шасцю слупамі на тры нефы, якія імітуюць базыліку. Арыгінальна трансфармаваны алтарны зруб, які звонку вырашаны квадратным аб'ёмам, накрытым чатырохсхільным шатром з галоўкаю, а ўнутры з дапамогаю ўбудаваных у асноўны аб'ём сакрыстый ператвораны ў выцягнуты прэзбітэрый. У гэтай трансфармацыі выяўлена кампрамісная сутнасць уніяцтва. Квадратны ў плане бабінец, больш высокі за аб'ём кафалікона, увянчаны вежаю (чацвярык са зрэзанымі вугламі), накрытай шатром-«каўпаком».



Дабравешчанская царква.
Жытомля. Гродзенскі р-н. 1743 г.



Троіцкая царква.
Дабраслаўка. Пінскі р-н. 1758 г.

Пасля перадачы праваслаўным у 1864 г. царква была перабудаваная, зменены форма галовак, тып шалёўкі, пакрыццё даха.

Грэка-каталіцкая **Троіцкая царква ў вёсцы Дабраслаўка (Пінскі р-н)** была пабудаваная ў 1758 г. Першапачаткова была тыповым двухзрубавым храмам базылікальнай канцэпцыі з вытанчанымі прапорцыямі позняга барока. Выцягнуты прамавугольны асноўны зруб уключаў унутраны бабінец і сіметрычныя рызніцы абапал пяціграннай алтарнай апсіды. Усе часткі храма аднолькавай вышыні, накрытыя агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Вільчык над іканастасам прарэзаны двух'ярусным васьміграннным барабанам, накрытым пакатым шатром. Пазней, верагодна, у пачатку XIX ст., да галоўнага фасада быў прыбудаваны вялікі экзанартэкс, больш высокі за асноўны зруб, а над ім пастаўлена двух'ярусная чацверыковая вежа, таксама накрытая шатром-«каўпаком». У выніку аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма набыла трохзрубавую аднавежавую структуру «тэрэзіянскага» тыпу. Мае традыцыйную вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі і сцяжкамі-«лісіцамі», высока размешчаныя вокны.

**Царква Нараджэння Багародзіцы (Прачысценская) у в. Стары Свержань (Стаўбцоўскі р-н)** была пабудаваная ў 1770 г. як уніяцкая на сродкі святара Сымона Янкоўскага. Цяпер не існуе, на яе месцы ў 1990-я гг. была змураваная праваслаўная царква эклектычнай псеўдарускай архітэктуры. Драўляная царква складалася з трох зрубаў роўнай вышыні: прамавугольнага асноўнага, пяціграннага алтарнага, аб'яднаных агульным вальмавым дахам, і прамавугольнага бабінца, над якім узвышалася чацверыковая вежа, накрытая шатром-«каўпаком». Гонтавы дах меў вялікі вынас карніза і трохвугольныя застрэшкі ў месцы злучэння зрубаў. Па баках алтарнай апсіды мясціліся невысокія прырубы рызніцаў з аднасхільнымі дахамі.

**Троіцкая царква ў в. Княгінін (Мядзельскі р-н)** была пабудаваная ў 1772 г. як уніяцкая на месцы папярэдняга храма 1713 г. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма складаецца з трох прамавугольных зрубаў аднолькавай вышыні, аб'яднаных агульным карнізам з разьбяным арачным падзорам. Асноўны і алтарны зрубы накрыты шматсхільным



Троіцкая царква.
Княгінін. Мядзельскі р-н. 1772 г.



Царква Яна Хрысціцеля.
Вялікая Каўпеніца. Баранавіцкі р-н. 1781 г.
Фота 1914 г.

дахам з агульным падоўжным вільчыкам. Дах над бабінцам і часткова над асноўным зрубам прарэзаны масіўным чацверыком вежы, завершанай высокім шатром з цыбулістай галоўкай на нізкім васьмігранным барабане. Падобная галоўка акцэнтуе збег схілаў даха над алтаром. У XIX ст. быў храм перададзены праваслаўным, да ўвахода прыбудаваны невысокі прытвор з двухсхільным дахам; капітальна адноўлены ў пачатку XXI ст., зменена пакрыццё дахаў, сцены абшыты сайдзінгам.

Грэка-каталіцкая **Юр'еўская царква ў в. Сітцы (Докшыцкі р-н)** была пабудаваная ў 1774 г. Будынак храма складаўся з роўнавышынных прамавугольных зрубаў кафалікона, алтара і бабінца, аб'яднаных агульным прафіляваным карнізам. Асноўны і алтарны зрубы былі накрыты высокім гонтавым дахам з вальмай над алтаром. Чацвярык бабінца завяршаўся двух'яруснай вежай (чацвярык на чацверыку), накрытай васьмігранным стажковым купалам. Сцены мелі вертыкальную шалёўку з нашчылькамі. На месцы драўлянай у 1913 г. была змураваная новая царква ў псеўдарускім стылі.

Уніяцкая **царква Яна Хрысціцеля ў в. Вялікая Каўпеніца (Баранавіцкі р-н)** была пабудаваная ў 1781 г. Даследавалася пры падрыхтоўцы «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ў 1970-я гг.; знішчаная пажарам. Храм складаўся з трох квадратных у плане зрубаў роўнай вышыні. Алтарны зруб і бабінец былі таксама аднолькавай шырыні. Усе зрубы былі накрыты агульным вальмавым дахам з трохвугольнымі застрэшкамі ў месцы злучэння, што надавала кампазіцыі збудавання маналітнасць. Над бабінцам узвышалася чацверыковая вежа, фасадная грань якой працягвала плоскасць франтона. Чацвярык вежы быў накрыты пакатым шатром з галоўкай на васьмігранным барабане, яшчэ адна галоўка ўвенчвала алтарную частку храма.

Уніяцкая **Ільінская царква ў вёсцы Дастоева Іванаўскага р-на**, адкуль паходзіць род і прозвішча вялікага рускага пісьменніка Ф. М. Дастаеўскага, была пабудаваная ў 1798 г. на сродкі шляхціца Гедройца. Стан помніка на 1905 г. зафіксаваны на малюнку польскага даследчыка драўлянага дойлідства З. Глогера. Будынак храма даследаваны і абмераны намі пры падрыхтоўцы «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» 8 ліпеня 1970 г., але праз два тыдні пасля гэтага знішчаны па ініцыятыве мясцовага сельскага выканаўчага камітэта. Гэты акт вандалізму ўзрушыў акадэміка Д. С. Ліхачова, па ініцыятыве якога матэрыялы пра каштоўны помнік беларускага драўлянага дойлідства былі апублікаваныя ва ўсесаюзным навуковым выданні. Верагодна, першапачаткова храм уяўляў адназрубавы будынак з трохграннай алтарнай часткай, арыентаванай на поўдзень, накрыты высокім вальмавым дахам. Даволі масіўны аб'ём бабінца са званіцаю наверсе і невялікая рызніца з заходняга боку былі прыбудаваныя ў XIX ст., але пры гэтым архітэктурны вобраз збудавання не страціў гарманічнага адзінства. Паводле інвентара 1870 г., царква была «с двумя глухими куполами, гонтовою крышею, одною входною дверью… снаружи не окрашена. Внутренняя площадь имеет вместимости около 25 сажен, потолок подшит досками, пол деревянный, стены не покрашены». Асноўны прамавугольны зруб з трохграннай алтарнай сцяной быў накрыты высокім вальмавым дахам і ўвянчаны над уваходам вытанчанай вежавай кампазіцыяй. Значнае звужэнне ўгору чацверыка і васьмерыка ў аснове галоўкі з крыжам ствара-



Успенская царква.
Лаўрышава. Наваградскі р-н. 1798 г.

ла эфект узнёсласці вярхоў храма. Уваходны зруб быў выкананы з брусоў больш тонкіх за асноўны, а званіца і рызніца зробленыя каркаснымі і абшытыя дошкамі. Вежа-званіца над бабінцам была накрытая высокім чатырохсхільным дахам у выглядзе усечанай піраміды з пастаўленай на яе пукатай галоўкай.

Траістая кампазіцыя вянчальных масаў храма дынамічна ўзрастала ад сігнатуркі над збегам вальмаў над алтарнай часткай да вежы над бабінцам. Тут мясцовымі дойлідамі ўжыты прыём аптычнай карэкціроўкі архітэктурных формаў, што характэрна для стылістыкі позняга барока. Пластыку будынка ўзмацняла гонтавае пакрыцце вярхоў па прынцыпе «кажухавання», характэрнага для палескага рэгіёна. Тым жа мэтам служыў канструкцыйна-дэкаратыўны прыём вертыкальнай ашалёўкі сценаў дошкамі з нашчыльнікамі. На месцы зруйнаванага помніка ў 2000-я гады пастаўлена сучасная манументальная мураваная царква ў псеўдарускім стылі.

Унікальнай самабытнай архітэктонікай вылучаецца **Успенская царква ў в. Лаўрышава (Наваградскі р-н),** пабудаваная ў 1798 г. як уніяцкая, а ў 1842 г. перададзеная праваслаўным. Гэтая мясцовасць шырока вядомая праваслаўным манастыром, які існаваў тут з 1265 г. і звязаны з імем князя Войшалка, сына Міндоўга (у манастве Лаўрыш). У манастыры быў створаны славуты помнік беларускага летапісання «Лаўрышаўскае Евангелле»). У 1596–1836 гг. манастыр быў уніяцкім, пры ім існавалі семінарыя, бібліятэка, архіў (не захаваліся). Успенская царква — гэта двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі, з прамавугольнага асноўнага і выцягнутага пяціграннага алтарнага зрубаў, накрытых агульным шматсхільным дахам з невялікімі трохвугольнымі застрэшкамі ў месцы злучэння. Па баках да асноўнага зруба прылягаюць невялікія сіметрычныя прыбудовы, накрытыя папярочнымі двухсхільнымі дахамі, больш нізкімі за асноўны, якія нагадваюць «рудыменты» трансепта і надаюць плану збудавання форму лацінскага крыжа. Абапал алтарнай апсіды размешчаны невысокія прыбудовы рызніцаў з вальмавымі дахамі. Чацвярык вежы на галоўным фасадзе канструкцыйна звязаны з унутраным бабінцам, вылучаным у кафаліконе двума апорнымі слупамі і музычнымі хорамі над ім. У XIX ст. да галоўнага фасада быў прыбудаваны нізкі прытвор, надбудаваны верхні васьмярык вежы, увянчаны высокім шатром з галоўкай, зменены тып шалёўкі: з вертыкальнай на гарызантальную. Для рытуальных апавяшчэнняў замест званоў каля царквы пастаўлена канструкцыя для біла.

*Працяг*
*у наступным нумары.*

# CONTENTS

We open this issue of the magazine "Our Faith" with the continuation of the publication of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (translated from Spanish by S. Gresvi) (p. 2-5).

In column "Theological Reflection" we publish an article «Hidden in Jesus Before the Father" by Jesuit farther George A. Aschenbrenner, SJ (translated from English by Y. Shedzko) (p. 6-10).

In this issue we publish an interview of Y. Shedzko with fr. R. Szulc OP titled "To Discover the Divine Wisdom and Share It..." (p. 1-15).

Well-known theologian M. Pashuk offers the readers her article "The Modern Apocrypha", which acquaints the readers with interesting stories by fr. K. Bardski (translated from Polish) (p. 16-19).

I. Zvaryka in her article "Exhibition 'The Sacral Culture of the Church in Belarus'" tells of a distinctive exhibition of religious items in the halls of the National Historical Museum of Belarus (p. 20-25).

Well-known archivist A. Shpunt in his essay "In the Protection of God from Sacrilege Every Believer Is a Soldier" writes about Castellan of Navagradak Gedeon Jeleński and his activities (p. 26-27).

Article "The Most Famous Citizen of Minsk in the World" by literary critic Y. Yanushkevich is dedicated to the 200th anniversary of S. Moniuszko (p. 28-31).

L. Kaminskaya in her essay "The Artist of the Light and God's Secrets" tells the readers of the features of work of Sergei Shemet (p. 32-35).

A. Shpunt in his research "About the Restoration of a Portrait of Janusz Radziwiłł..." writes about one of the last known aristocratic portraits returned to the exposition of the National Art Museum of Belarus (p. 36-38).

Interpreter J. Semjonowa-Herzog offers the readers an excerpt from the prose of Georg Oswald Cott "Journey of Lessing..." (p. 39-41).

The publications of K. Lialko, S. Zakonnikau, L. Silnova and J. Semjonowa-Herzog are dedicated to the memory of famous Belarusian poet, member of the editorial board of the magazine "Our Faith" Marjan Duksa. Here we also publish a selection of poems by M. Duksa (p. 42-51).

In column "Poetry" we place new poems by Danuta Bichel (p. 52-54).

L. Kaminskaya in her essay "These Three..." tells the readers of the new book by fr. Jan Twardowski prepared in the Publishing House "Pro Christo" and translated by K. Lialko (p. 55-57).

Writer and publisher U. Siuchykau offers the readers his new prose: "Festival in Rakau", "The Wolf and the Cow" (p. 58-62).

Doctor of Arts T. Gabrus in column "Architecture" publishes her next research "The Path from Gothic to the Present" dedicated to the church buildings of different periods of time (p. 63-71).

# RESÜMEE

Die vorliegende Ausgabe der Zeitschrift „Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit der Fortsetzung der Übersetzung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz (aus dem Spanischen von S. Greswi) (S. 2-5).

Die Rubrik „Theologische Reflexionen" enthält den Artikel des Jesuiten George A. Aschenbrenner SJ „In Jesus vor dem Vater verborgen" (aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 6-10).

J. Schedsjko veröffenlicht ihr Interview mit dem Priester Schulz OP mit dem Titel „Die Weisheit Gottes entdecken und sie teilen …" (S. 11-15).

Der bekannte Theologe M. Paschuk präsentiert den Leserinnen und Lesern den Beitrag „Moderner Apokryph", in dem er sie mit den interessanten Erzählungen des Priesters K. Bardski bekannt macht (übers. aus dem Polnischen) (S. 16-19).

I. Swaryka berichtet im Artikel „Die Ausstellung *Sakrale Kultur der Katholischen Kirche in Belarus*" über die markante Exposition von Kultgegenständen in den Sälen des Nationalen Historischen Museums der Republik Belarus (S. 20-25).

Der bekannte Archivar A. Spunt schreibt im Essay „Beim Verteidigen Gottes vor Blasphemie ist jeder Gläubige ein Soldat" über Gedeon Jelenski, den Kastellan des Schlosses in Nawagrudak, und dessen Tätigkeit (S. 26-27).

Dem 200. Geburtstag von Stanisław Moniuszko ist der Artikel des Literaturwissenschaftlers J. Januschkewitsch „Der bekannteste Minsker auf der Welt" gewidmet (S. 28-31).

Über die Besonderheit des Schaffens von Sjargej Schemet reflektiert L. Kaminskaja im Essay „Der Maler des Lichtes und der Geheimnisse Gottes" (S. 32-35).

A. Spunt schreibt in seiner Studie „Zur Restaurierung des Porträts von Janusz Radziwiłł …" über eines der letzten bekannten Porträts des Magnaten, die der Exposition des Nationalen Kunstmuseums von Belarus zurückgegeben wurden (S. 36-38).

Die Übersetzerin J. Semjonowa-Herzog präsentiert den Leserinnen und Lesern das Prosawerk „Lessings Reise zu Eva König nach Wien" des Schriftstellers Georg Oswald Cott (S. 39-41).

Dem Andenken an Marjan Duksa, einen bekannten belarussischen Poeten, Mitglied des Redaktionskollegiums der Zeitschrift „Naša vera", sind die Beiträge von K. Lialko, S. Sakonnikau, L. Silnowa und J. Semjonowa-Herzog gewidmet. An dieser Stelle befindet sich auch eine Auslese der Gedichte von Marjan Duksa (S. 42-51).

Die Rubrik „Poesie" enthält neue Gedichte von Danuta Bitschel (S. 52-54).

L. Kaminskaja stellt im Essay „Diese drei …" das neue Buch mit den Übersetzungen der Werke des Priesters Jan Twardowski vor, das im Verlag „Pro Christo" von der Schriftstellerin K. Lialko vorbereitet wurde (S. 55-57).

Der Schriftsteller und Herausgeber U. Siutschykau präsentiert den Leserinnen und Lesern seine neuen Prosawerke — „Das Fest in Rakau" und „Die Wölfin und die Kuh" (S. 58-62).

Die Kunstwissenschaftlerin T. Gabrusj veröffentlicht in der Rubrik „Architektur" ihre Studie „Der Weg von der Gotik zur Gegenwart", die sich mit kirchlichen Bauten aus verschiedenen Epochen beschäftigt (S. 63-71).

# PODSUMOWANIE

Kolejny numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna kontynuacja publikacji traktatu św. Jana od Krzyża „Droga na Górę Karmel" (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) (S. 2-5).

W rubryce „Refleksje teologiczne" umieszczono art. o. J. Aschenbrennera SJ „Ukryci w Jezusie przed Ojcem" (tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (S. 6-10).

J. Szedźko przedstawia odbiorcom wywiad z o. R. Szulcem OP zatytułowany „Odkryć Bożą mądrość i nią się dzielić..." (S. 11-15).

Znany teolog M. Paszuk proponuje publikację «Współczesne apokryfy», która zapoznaje czytelników z ciekawymi opowieściami ks. K. Bardskiego (tłum. z języka polskiego) (S. 16-19).

I. Zwaryka w art. „Wystawa «Kultura sakralna Kościoła na Białorusi»" pisze o unikalnej ekspozycji przedmiotów kultu religijnego wystawionej w Narodowym Muzeum Historycznym Białorusi (S. 20-25).

A. Szpunt, znany archiwista, w eseju „W obronie Boga od bluźnierstw każdy wiernym żołnierzem" pisze o kasztelanie nowogródzkim Gedeonie Jeleńskim i jego działalności (S. 26-27).

Z okazji 200-ej rocznicy urodzin S. Moniuszki w kwartalniku poświęcono art. historyka literatury J. Januszkiewicza pod tytułem «Najbardziej znany w świecie mińszczanin» (S. 28-31).

L. Kamińska w eseju „Artysta światła i tajemnic Bożych" rozważa o swoistości twórczości S. Szemeta (S. 32-35).

A. Szpunt w art. „O odnowieniu portretu Janusza Radziwiłła" pisze o jednym z ostatnich znanych magnackich portretów, który został zwrócony Narodowemu Muzeum Historycznemu Białorusi (S. 36-38).

Tłumaczka A. Siemionowa-Herzog uwadze czytelników przedstawia fragment prozy Oswalda Cotta „Podróż Lesinga..." (S. 39-41).

Pamięci znanego białoruskiego poety Mariana Duksy, przyjaciela kolegium redakcyjnego czasopisma „Nasza wiara", poświęcone są publikacje K. Lalko, S. Zakonnikogo, L. Silnowej i A. Siemionowej-Herzog. Tutaj umieszczono również wybrane wiersze Mariana Duksy (S. 42-51).

W rubryce „Poezja" opublikowano nowe wiersze D. Biczel (S. 52-54).

L. Kamińska w eseju „Te trzy..." prezentuje nową książkę z utworami ks. Jana Twardowskiego, przetłumaczoną przez K. Lalko i wydaną przez wyd. „Pro Christo" (S. 55-57).

U. Siuczykau, pisarz i wydawca, zapoznaje czytelników z nowymi utworami prozaicznymi: „Rakowski jarmark" oraz „Wilczyca i krowa" (S. 58-62).

T. Habruś, historyk stuki, w rubryce „Architektura" publikuje kolejne badania „Droga od gotyku do współczesności", poświęcone budynkom kościelnym różnych epok (S. 63-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con la parte successiva del trattato di San Giovanni della Croce "La salita al monte Carmelo" (traduzione dallo spagnolo è di S. Gresvi) (p. 2-5).

Nella rubrica *Le riflessioni teologiche* si pubblica l'articolo del gesuita George A. Aschenbrenner SJ "Entrati nel Gesù davanti al Padre" (trad. dall'inglese di Ju. Šedzko) (p. 2-5).

Il famoso teologo M. Pašuk sottopone all'attenzione dei lettori il testo "L'apocrifo moderno", nel quale fa conoscere ai lettori i racconti interessanti del prete K. Bardski (tradotti dal polacco).

Ju. Šedzko pubblica la sua intervista con il padre R. Šulz OP intitolata "Scoprire la saggezza divina e condividerla…" (p. 2-5).

I. Zvaryka nell'articolo "La mostra "La cultura sacrale della Chiesa Cattolica in Bielorussia" racconta di un'esposizione unica degli oggetti di culto nelle sale del Museo Nazionale di Storia della Repubblica di Belarus (p. 2-5).

Il famoso archivista A. Špunt nel saggio "Ogni credente è soldato nel difendere il Dio dalle bestemmie" scrive del castellano di Navagrudak Gedeon Jalenski e della sua attività (p. 2-5).

Al 200° anniversario della nascita di S. Maniuška è dedicato l'articolo del studioso di letteratura Ja. Januškevič "Il più famoso nel mondo nato di Minsk" (p. 2-5).

L. Kaminskaya riflette sulle peculiarità dell'attività creativa di Serghei Šemet nel saggio "Il pittore della luce e dei misteri divini" (p. 2-5).

A. Špunt nel suo studio "Sul restauro del ritratto di Januš Radzivill…" scrive di uno degli ultimi ritratti della famiglia nobile ritornato all'esposizione nel Museo Nazionale di Belle Arti di Belarus (p. 2-5).

La traduttrice A. Semjonowa-Herzog propone ai lettori un brano di narrativa di G. Oswald Cott "Il viaggio di Lessing..." (p. 2-5).

Alla memoria del famoso poeta bielorusso, membro della redazione della rivista "Naša vera" Marian Duksa sono dedicate le pubblicazioni di K. Lalko, S. Zakonnikau, L. Silnova e A. Semjonowa-Herzog. Accanto si pubblica una raccolta di poesie di Marian Duksa (p. 2-5).

Sotto la rubrica *Poesia* sono collocate le nuove poesie di Danuta Bičel (p. 2-5).

L. Kaminskaya nel saggio "Queste le tre cose…" racconta del nuovo libro di poesie del prete Jan Twardowski tradotte e curate per la pubblicazione presso la Casa editrice "Pro Cristo" dalla scrittrice K. Lalko (p. 2-5).

Lo scrittore ed editore U. Siūčykaū propone all'attenzione dei lettori le sue nuove opere di narrativa — "La festa di Rakaū", "La lupa e la mucca" (p. 2-5).

La studiosa d'arte T. Gabrus' nella rubrica *Architettura* pubblica il suo studio nuovo "La via dalla gotica alla modernità", dedicato alle costruzioni cattoliche di vari tempi (p. 2-5).

---

На 1-й ст. вокладкі — Сяргей Шэмет «Сквер у Будславе». Палатно, алей, 2009 г.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (88)/2019.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 356-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 14.03.2019 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад — 800 экз. Зак. № 830.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*



Рэстаўратар Аркадзь Шпунт каля адрэстаўраванага ім партрэта Януша Радзівіла.
НММ РБ. Фота Міколы Новікава.

# МАСТАК СВЯТЛА І БОЖЫХ ТАЯМНІЦАЎ



Сяргей Шэмет. «Звеставанне». 2009.



Сяргей Шэмет. «Цудоўны ўлоў». 2002.



Сяргей Шэмет. «Таямніца Пераходу». 2017.